31 траўня 2019 | № 20 (631)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

Еўрасаюз зелянее

стар. 21

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144



# Маўчанне — золата?



Алесь КІРКЕВІЧ

**Даўно, калі расійскі алігарх і апанент Крамля Міхаіл Хадаркоўскі яшчэ сядзеў за кратамі, а яму навешвалі ўсё новыя і новыя абвінавачванні па нібыта зладзействах шматгадовай даўніны, па інтэрнэце гуляў жарт: «Хадаркоўскі працягвае здзяйсняць у мінулым усё больш жорсткія злачынствы». Сёння выглядае, што ў падобнай сітуацыі апынулася ці не большасць беларускіх карыстальнікаў сацыяльных сетак.**

Мінскі гарадскі суд 23 траўня прысудзіў 45-гадовага Змітра К. да трох гадоў «хіміі» за допісы ў сацыяльных сетках, дзе фігураваў зварот «м***калі» (нібыта, зняважліву назву для жыхароў Расіі). Мужчына мае цяжарную жонку, невялічкі бізнес: відавочна, што працэс і прысуд паставяць крыж на шмат якіх планах сям'і... Раней гэты грамадзянін ніколі да судовай адказнасці не прыцягваўся, прэтэнзіяў да яго не было.

Што ж не так са словам «маскаль»? У сваёй творчасці яго шырока выкарыстоўваў Тарас Шаўчэнка ва Украіне, у нас — Каліноўскі і Багушэвіч. У Беларусі 100–150 гадоў таму «маскалямі» называлі рэкрутаў, што вярталіся з царскага войска, а часам і старавераў. Ёсць на Гродзеншчыне нават вёска Маскалі. Зрэшты, каму тое цікава: апынулася, што юрыдычна слова можа трактавацца як распальванне міжнацыянальнай варожасці.

Канешне, гэта смешна ў краіне, дзе днямі і начамі з расійскіх каналаў (якія ніхто не адключаў) льецца бруд на тую ж Украіну і «калектыўны Захад» у значна больш нястрыманых формах. Канешне, гэта смешна ў краіне, дзе «Бульбаш» — не абраза, але алкагольны (і не толькі) брэнд. Канешне, гэта смешна ў краіне, дзе тытульная нацыя мае кожны раз адстойваць свае правы на нацыянальную сімволіку, мову, герояў... Але гэта ўжо іншая гісторыя.

Выпадак са Змітром К. мог бы стаць нетрывіяльным выключэннем, каб не шэраг падобных працэсаў апошняга часу. Спачатку суд на Аляксандрам Галавенкам з Гродна за рэпост кліпу «Rammstein» шматгадовай даўніны. Пасля — гвалтоўнае затрыманне і суд над Глебам Рубанавым — таксама за допіс у Facebook... Раней былі штрафы, зараз — рэальныя тэрміны. Прыклад Змітра К. — першая ластаўка.

А зараз, шаноўныя, уявіце сабе, колькі ў Беларусі карыстальнікаў сацыяльных сетак — Facebook, «ВКонтакте», Instagram ды іншых? Мільёны людзей, а значыць, мільёны профіляў, і ў кожным — тысячы і тысячы допісаў, якія самі сабой нікуды не знікаюць, але назапашваюцца. Вы, напрыклад, памятаеце, пра што пісалі на сваёй старонцы пяць ці сем гадоў таму? Напэўна, не. Я таксама. Але наўпрост можа стацца, што канкрэтны допіс, слова, абрэвіятура ці яшчэ немаведама што сёння ўжо трактуецца як прапаганда варожасці, экстрэмізму ці, крый Божа, парнаграфія.

За савецкім часам, каб выявіць іншадумцаў, КДБ было змушанае арганізоўваць груваскія сеткі «асведамляльнікаў», працей кажучы — «стукачоў». Афіцыянты, таксісты, праваднікі ў цягніках... Кажуць, былі нават разнарадкі па шматкватэрных дамах — колькі і на якую колькасць насельніцтва мае быць «вушэй», якія прыбягуць і пра ўсё дакладуць куды трэба. Сёння тэхналогіі перамаглі, і патэнцыйная ахвяра, замест таго, каб спавядацца цётачцы-буфетчыцы, што падлівае гарэлку, сама ўсё напіша ў сваім профілі ў «ВКонтакте».

Пры ўсёй артадаксальнасці нашых сілавых структураў, за гэтую нітачку разумныя людзі ў пагонах ухапіліся. У выніку профілі ў сацыяльных сетках сталіся цудоўнай магчымасцю для прыцягнення да адказнасці фактычна каго-заўгодна. Там слоўца, тут абрэвіятура, а тут — фота са свастыкай: справа гатовая! База доказаў — усяго толькі «скрыншоты» са старонкі, сведкі наогул не патрэбныя. Адным словам, ідэальнае злачынства... Прабачце — ідэальнае раскрыццё злачынства!

Канешне, судзіць, а тым больш саджаць усіх направа і налева дзяржаве няма аніякай патрэбы. Навошта? Нават у 1937-м судзілі не ўсіх (а маглі ж!). Механізм з рэпрэсіямі «за рэпосты», хутчэй, будзе выкарыстаны як універсальная мера для тых жа нязгодных, якіх раней цягалі па судах за «лаяўся матам», «бытавуху» ці падкінутыя пару набояў. Тады ўсю брудную справу рабілі на судзе сведкі-міліцыянты. Сёння — Цукерберг.

> **Профілі ў сацыяльных сетках сталіся цудоўнай магчымасцю для прыцягнення да адказнасці каго заўгодна**

Чаму пералічаныя на пачатку артыкула людзі і выпадкі — невыпадковыя? Зміцер К., які пісаў пра «м***калёў», меў таксама ў сваім профілі фота з «Пагоняй» ды сцягам украінскага «Правага Сектару». Аляксандр Галавенка, які пасціў «Rammstein», быў у складзе аховы на сёлетнім Дні Волі ў Гродна. Глеб Рубанаў наогул усім вядомы сваёй актыўнай грамадзянскай пазіцыяй. Тобок, людзі абраныя зусім не выпадковыя.

Разам з тым, мяркую, і апалітычным беларусам рана расслабляцца. Калі зноў вярнуцца да логікі сталінскіх рэпрэсіяў і 1937 года, мы ўбачым дынаміку: спачатку бяруць нязгодных, пасля — салідарных з нязгоднымі, за імі — тых, хто браў першых і другіх, пазней — тых, хто праходзіў побач, ды тых, хто чуў краем вуха, ну а ўрэшце цэлыя народы і нацыянальныя меншасці, якія не ўпісваліся ў стандарт «савецкага чалавека». Тыя ж, хто застаўся, павінны былі стаць ідэальнымі савецкімі грамадзянамі: калі нават падумаюць лішняе, дык дакладна нікому не скажуць, тым больш — не зробяць.

Безумоўна, кантроль за сацыяльнымі сеткамі патрэбны. Сапраўды, праз маніторынг можна выявіць цэлы спектр сур'ёзных правапарушэнняў: ад гандлю наркотыкамі да суполак накшталт «Сіняга кіта», якія схіляюць юнакоў да суіцыду. І гэта сусветная практыка, роўна як і кантроль дарожнага руху, які без святлафораў і ДАІ ператварыўся б у хаос. Пытанне ж, як заўжды, тычыцца меры і мэты: робіцца ўсё для бяспекі грамадзянаў альбо гэта кантроль дзеля кантролю? Урэшце, у якім месцы прымаўка «Маўчанне — золата», перарастае ў замагільную цішу?



# Улады ўнеслі змены ў «дармаедскі дэкрэт». Каго яны датычацца

**Пастановай Савета міністраў ад 25 траўня ўнесеныя некаторыя змены ў прэзідэнцкі дэкрэт «Аб садзейнічанні занятасці насельніцтва». Так, некаторых выключылі з ліку «дармаедаў», а таксама ўвялі персанальную адказнасць за дадзеныя ў «базе дармаедаў», піша «Радыё Свабода».**

Цяпер, згодна з пастановай, з базы незанятых у эканоміцы выключылі:

- грамадзян, якія працуюць у замежных або міжнародных арганізацыях, на падставе інфармацыі, прадстаўленай гэтымі арганізацыямі;
- мужа\жонку тых, каго прызначылі на пасаду ў міждзяржаўны орган, прадугледжаны ў міжнародных дамовах Беларусі або рашэннях адпаведных міжнародных органаў;
- сужэнцаў аташэ ў пытаннях абароны пры амбасадзе Беларусі, якія знаходзяцца за мяжой, а таксама памочнікаў аташэ ў пытаннях абароны, накіраваных у дыпламатычныя прадстаўніцтвы Беларусі.

Улады таксама ўвялі персанальную адказнасць за прадстаўленне дакладнай інфармацыі для фармавання (актуалізацыі) базы «дармаедаў» для:

- кіраўнікоў рэспубліканскіх органаў дзяржкіравання і іншых арганізацый, падпарадкаваных ураду;
- старшыняў аблвыканкамаў і Мінскага гарвыканкаму;
- кіраўнікоў іншых арганізацый, якія падаюць такую інфармацыю.

Якое пакаранне прадугледжана за недакладную інфармацыю ў базе, у пастанове не пазначана.

Таксама мясцовым уладам даручылі забяспечыць узаемадзеянне вайсковых камісарыятаў з дармаедскімі камісіямі. Яны павінны перадаваць інфармацыю пра грамадзян, якіх прызвалі і накіравалі на тэрміновую вайсковую службу і службу ў рэзерве: да 20 чэрвеня 2019 года — пра накіраваных для праходжання службы ў лютым-траўні 2019 года; да 20 снежня 2019-га — пра накіраваных на службу ў жніўні-лістападзе 2019-га.

Пастанова набыла сілу пасля яе афіцыйнага апублікавання 29 траўня (некаторыя асобныя змены — з дня яе падпісання).

**svaboda.org**

# На працiўніка завода АКБ напісалі заяву ў міліцыю

**У заяве гаворыцца, што дзеянні Дзмітрыя Бекалюка могуць прычыніць Беларусі шкоду на суму 4,5 мільярда долараў.**



«Нехта Вадзім Уладзіміравіч Макееў напісаў і адправіў па электроннай пошце заяву на імя начальніка УУС Брэсцкага аблвыканкама і копію начальніку ўпраўлення ідэалогіі аблвыканкама. У заяве гаворыцца, што я пачкамі пішу звароты ў органы ўлады, а таксама ў Расійскую Федэрацыю і Польшчу, і тым самым дыскрэдытую Рэспубліку Беларусь. Ён сцвярджае, што з-за маіх дзеянняў эканоміці нашай краіны пагражае сур'ёзны ўрон: страты на экспарце могуць дасягнуць больш за 4,5 мільярда долараў, а краіна недалічыцца сотняў тысяч працоўных месцаў», — распавёў «БГ» Зміцер Бекалюк.

Паводле яго слоў, адрас Макеева для карэспандэнцыі паказаны пінскі, але жыве гэты чалавек у Маскве.

«Ён сцвярджае, што я займаюся падрыўной дзейнасцю ўнутры Беларусі, і прасіць міліцыю гэта праверыць. Да заявы прыкладзены скрыншоты перапіскі ў вайберы з нагоды травеньскай забароны Расельгаснагляду на ўвоз малочнай прадукцыі з 37 прадпрыемстваў Беларусі», — растлумачыў Бекалюк.

Па словах актывіста, у нядзелю, 26 траўня, ён па позве хадзіў у міліцыю для апытання. Праводзіцца праверка ў рамках Крымінальна-працэсуальнага кодэкса. У міліцыі Дзмітрый Бекалюк напісаў сустрэчную заяву з просьбай праверыць у рамках ПВКаАП, ці няма ў заяве Макеева паклёпу.

Дзмітрый Бекалюк з'ўляецца адным з лідараў ініцыятыўнай групы, якая больш за год кажа пра шматлікія парушэнні на розных этапах рэалізацыі праекта па будаўніцтве акумулятарнага завода ў Брэсцкім раёне. За актыўную грамадзянскую пазіцыю не раз прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці, быў аштрафаваны і ў якасці адміністрацыйна затрыманага сядзеў у ІЧУ.

**Паводле b-g.by**

# Чаму мне страшна глядзець «Чарнобыль»

Сямён ПЕЧАНКО

**З ранняга дзяцінства мне запомніліся вучэнні ў дзіцячым садку. Выхавацелькі і нянечкі, якія хаваюць напружанне на тварах за марлевымі павязкамі. Маленькі пакой у склепе, запаленыя свечкі. Калі не памыляюся, гэта быў травень або чэрвень 1986-га.**

Мае бацькі працавалі ў школе, якую праз пяць гадоў пасля Чарнобыля разабралі і вывезлі разам з грунтам на спецпалігон. Радыяцыю ў ёй выявілі не адразу. Абодвух ужо няма ў жывых. І я не ўпэўнены, што сярод прычын іх ранняга сыходу не лічыцца праца ў атручанай радыяцыяй школе.

У 1990-м мы з братам і маці адпачывалі ў грузінскім Цхалтубе па праграме «Дзеці Чарнобыля». Аднойчы ў санаторскай сталовай афіцыянтка, што абслугоўвала наш столік, шэптам паведаміла пра новы выбух на ЧАЭС.

Цяжка сказаць, наколькі яна гэта зрабіла, але сёй-той з беларусаў і ўкраінцаў, пачуўшы гэтую «навіну», сарваліся і паехалі дамоў. Той вечар мы прасядзелі ля тэлевізара, чакаючы пацвярджэння чутак. Дарослыя з нашай групы яшчэ некалькі дзён тэлефанавалі родным...

Серыял «Чарнобыль» пачалі паказваць за лічаныя месяцы да анансаванага ўладамі запуску АЭС у Астраўцы. Менавіта ён, зняты запалохвальна-рэалістычна, вярнуў мяне ў тыя самыя ўспаміны з дзяцінства.

У першых серыях самай страшнай мне падалася не сцэна тушэння пажару сярод руін разбуранага рэактара, а эпізод, дзе вучоная з мінскага Інстытута ядзернай энергетыкі Ульяна Хамюк просіць партыйнага функцыянера раздаць насельніцтву ёд і эвакуяваць Мінск.

Самазадаволены чыноўнік праігнараваў просьбу, а на заўвагу пра тое, што папярэднім месцам яго працы была абутковая фабрыка, адказаў: «Ну і што? Цяпер я — галоўны».

Абодва героя гэтай сцэны — выдуманыя. Але гэта не супакойвае. Бо ў былога работніка абутковай фабрыкі з серыялу НВО ёсць не адзін і не два прататыпы з сённяшняй рэальнай Беларусі, якая рыхтуецца завяршыць будоўлю стагоддзя. І яны сёння галоўныя.

Той выпадак, калі самазадаволены чыноўнік страшнейшы за радыяцыю.

**Паводле gazetaby.com**
**Пераклад НЧ**

# «Не верым у суіцыд, настойваем на эксгумацыі»

**У Belsat.eu звярнуўся бацька загінулага лейтэнанта ДАІ з Магілёва Яўгена Патаповіча. Мужчына заявіў, што не верыць у версію Следчага камітэта пра суіцыд сына, патрабуе правядзення эксгумацыі цела і незалежнай экспертызы.**

Уладзімір Патаповіч сам праслужыў у ДАІ 20 гадоў і летась сышоў у адстаўку ў званні капітана міліцыі. Яўген захацеў пайсці па слядах бацькі, таму вырашыў вывучыцца на міліцыянта ў Магілёўскім інстытуце МУС. Паводле словаў Уладзіміра, сыну вельмі падабалася праца.

«Я не веру ў версію пра суіцыд, бо, па-першае, на фотаздымку, які апублічылі, бачныя пашкоджанні ў ніжняй частцы жывату і яўна бачна, што парэзаная бялізна і ёсць нажавая рана. Па-другое, сын быў забяспечаны фінансава, меў кватэру, жыў з дзяўчынай адэкватнай, нядаўна ездзіў знаёміцца са сваякамі — там добрая сям'я. Прычын здзяйсняць самагубства ў яго не было. Ні псіхалагічных, ні нейкіх іншых. Чалавек імкнуўся жыць», — кажа Уладзімір.

«Я хацеў бы, каб зрабілі эксгумацыю, каб незалежныя эксперты паглядзелі, ці ёсць пашкоджанні ў ніжняй частцы тулава або толькі агнястрэльная. Каб гэта зрабілі, пакуль цела не пачало раскладацца, разумееце? Я настойваю».

На пытанне, ці ўзнікалі ў Яўгена канфлікты на службе, бацька кажа: «Часам здараюцца службовыя сітуацыі, але любыя складанасці вырашаюцца на месцы. Жэня, праўда, скардзіўся, што некамплект цяпер у ДАІ, вялікая загружанасць. Часта заставаўся пасля змены разбірацца з матэрыяламі».

«Нейкія маленькія даўгі ў сына былі, магчыма. Я працую на пенсіі, таму мог дапамагаць. Часам ён прасіў па 30, па 50 рублёў... Але нічога сур'ёзнага, тым больш крымінальнага не было», — гаворыць Уладзімір Патаповіч.

Што датычыць дроваў і вадкасці для распальвання, якія перад смерцю набываў Яўген, бацька прыгадвае: «Яны збіраліся нейкага сябра з войска сустракаць, кшталту на шашлыкі паехаць за горад».

Бацькі Патаповіча не жывуць разам. Але маці Вольга Паўлаўна таксама лічыць, што неабходная эксгумацыя цела Яўгена.

«Гэта быў не суіцыд, ні ў якім разе! Ён меў усё: кватэру трохпакаёвую, машыну, лецішча вялікае, планы на будучыню. З дзяўчынай усё было выдатна, яны збіраліся распісвацца. Ну які тут можа быць суіцыд? Атрымліваецца вельмі дзіўна: пахавалі Жэню імгненна, прычым хавалі як героя, што загінуў пры выкананні. У морг нас не пусцілі паглядзець на цела. Міліцыя сказала — няма чаго там рабіць, а працаўнік моргу — што «відовішча не для слабанервных», — распавядае яна.

Што датычыць версіяў гібелі, маці міліцыянта губляецца ў здагадках: «Магчыма, ён спыніў нейкую «няправільную» машыну, ці то з трупам, ці то з наркотыкамі...»

Вольга прыгадвае, што пыталася ў сына, ці ўзнікаюць у яго нейкія праблемы на працы, але той адмаўляў і казаў, што ўсё добра.

«А летась у яго адзін з лепшых сяброў загінуў, Валера Калькіс, застрэліўся ў лесе пад Брэстам пасля спрэчкі з дзяўчынай. Ён Жэню як брат быў... Яны ўсе былі даішнікі, вучыліся разам. Пасля Жэня прыйшоў да мяне і засумняваўся: «Мама, можа быць гэтак, што ён праз дзяўчыну страляўся?» Не, кажу, не думаю.

Адчула нешта няладнае і пытаюся: «Куды вы ўлезлі, дзеці?» А ён адразу замітусіўся: «Нікуды, мама, нікуды». А потым сказаў: «Я за свайго брата адпомшчу». Магчыма, гэта ўсё нейкі ланцужок».

* * *

Цела лейтэнанта міліцыі знайшлі 16 траўня каля 20:45 у лясным масіве ў Магілёўскім раёне. Следчы камітэт распачаў крымінальную справу паводле артыкула 362 (забойства супрацоўніка органаў унутраных справаў пры выкананні службовых абавязкаў).

У ноч з 16 на 17 траўня ў пасёлках Чапаеўка і Грабянёва АМАП правёў рэйд і затрымаў некалькі дзясякаў ромаў. Ромы скардзіліся на збіццё і абразы. Міністр Шуневіч вырашыў не прыносіць прабачэнняў за брутальныя дзеянні міліцыі.

Раніцай 20 траўня прадстаўнікі Следчага камітэта і Міністэрства ўнутраных справаў правялі брыфінг, на якім заявілі пра тое, што асноўная версія прычыны смерці міліцыянта Яўгена Патаповіча — суіцыд.

**Паводле Кацярыны Андрэевай, belsat.eu**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Ідэі 1990-х — у жыццё!

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Лета ў Беларусі ўжо настала. Спякота пачалася, у Брэсцкай і Гомельскай абласцях выспяваюць першыя клубніцы. Людзі задумваюцца пра адпачынкі. А ўрад рыхтуе беларусам новыя сюрпрызы.**

З 1 чэрвеня вырастуць тарыфы на цеплазабеспячэнне, што субсідуюцца дзяржавай (ацяпленне і падаграванне вады) — з 16,9259 да 18,4831 рубля за 1 Гкал. Пры гэтым «эканамічна абгрунтаваны» тарыф на гэтыя ЖКП застанецца ранейшым — 88,99 рубля за 1 Гкал. Нагадаем, што ў 2019 годзе тарыфы на жыллёва-камунальныя паслугі павышаюць у два этапы: з 1 студзеня — за газ, электрычнасць, водазабеспячэнне, водаадвядзенне, за паслугі па капрамонце і іншае. І з 1 чэрвеня — на паслугі цеплазабеспячэння.

Традыцыйна даражэюць некаторыя маркі цыгарэт. На 5 капеек вырасце кошт на асобныя маркі цыгарэт ААТ «Гродзенская тытунёвая фабрыка «Нёман», а таксама на некаторыя імпартныя, што ўвозіць «Беларусьгандаль». Цэны на цыгарэты ТАА «Табак-інвест» не зменяцца.

Напэўна будзе павышацца кошт паліва. Пакрысе, на ўжо прадказальную суму — адну капейку. Да тактыкі паступовага росту коштаў на бензін аўтаўладальнікі прывыклі яшчэ ў мінулым годзе. Але, як піша «Белсат», у гэтым годзе «Белнафтахім» у паўтара разы часцей мяняе лічбы на заправачных шыльдах. На працягу няпоўных пяці месяцаў паліва падаражэла ўжо на 8,45%.

Падымаючы кошты на паліва то раз, то тры разы на месяц — і кожны раз толькі на капейку, «Белнафтахім» заблытаў спажыўца. Ніхто ўжо не ў стане ацаніць, ці значна змяняецца кошт. Хіба толькі тыя, хто ездзяць нерэгулярна — і здзіўляюцца новым коштам на запраўках.

Але тое, што кошт паліва будзе павышацца і далей — несумненна. Таму што праблемы бруднай расійскай нафты ўсё яшчэ адбіваюцца на працы нашых прадпрыемстваў. «Нафта паступае (на «Нафтан») па трубаправодзе «Сургут—Полацк». Яна належнай якасці. Пытанне — у танажы. Сыравіны не хапае», — паведаміў намеснік гендырэктара «Нафтана» Сяргей Яўтушык газеце «Віцебскія весці».

Пры гэтым ён адзначыў, што следствам разбалансаванасці працэсаў на «Нафтане» ёсць і прапарцыйнае зніжэнне загрузкі сумежных нафтахімічных прадпрыемстваў. «Уся нафтахімія краіны так ці інакш завязаная на сыравінных пастаўках з Наваполацка («Нафтана»). Яны загадзя абмяркоўваюцца, узгадняюцца, вызначаюцца ў аб'ёмах, закладаюцца ў бізнес-планы. А тут эфект даміно. Мы не выконваем кантрактныя абавязацельствы перад сваімі партнёрамі, тыя — перад пакупнікамі іх прадукцыі», — сказаў намеснік гендырэктара.

Ён таксама паведаміў, што на прадпрыемстве не ўпэўненыя ў аднаўленні поўнай загрузкі на працягу чэрвеня.

Падчас міжурадавых кансультацый Мінск падкрэсліваў, што адным з ключавых для Беларусі пытанняў з'яўляецца аднаўленне рабочага стану трубаправода «Дружба», які забяспечвае загрузку «Нафтана». НПЗ зараз працуе са зніжанай загрузкай з-за недастатковага аб'ёму чыстай нафты, якая паступае па нафтаправодзе «Сургут—Полацк». А вось труба «Унеча—Полацк», па якой на «Нафтан» нафта пастаўлялася раней, да гэтага часу запоўненая «бруднай» нафтай і прастойвае. З-за гэтага загрузка «Нафтана» цяпер складае каля 65%.

Па выніках праведзеных у мінулую пятніцу перамоваў віцэ-прэм'ер Беларусі Ігар Ляшэнка паведаміў, што расійскі бок на працягу тыдня адпрацуе пастаўку нафты на НПЗ «Нафтан» па чыгунцы — з-за недахопу магутнасцяў дзеючага трубаправода. Расія абяцала паставіць на «Нафтан» у чэрвені дадаткова 200 тысяч тон нафты.

**Падымаючы кошты на паліва кожны раз толькі на капейку, «Белнафтахім» заблытаў спажыўца. Ніхто ўжо не ў стане ацаніць, ці значна змяняецца кошт. А на працягу няпоўных пяці месяцаў паліва падаражэла ўжо на 8,45%!**

Але «адпрацаваць на працягу тыдня» і «абяцала паставіць» — занадта расплывістыя фармулёўкі для таго, каб імі апераваць. Расійскі бок абяцаў ачысціць трубаправод ад «бруднай» нафты ледзь не месяц таму, а сітуацыя не змяняецца.

А вось што сапраўды цікава — гэта тое, як цяпер увасабляюцца ідэі, што раней успрымаліся ў штыкі і абвяшчаліся ледзь не глупствам. Напачатку 1990-х гадоў Партыя БНФ прапаноўвала ідэю нафтавага Балта-Чарнаморскага калектара і, адпаведна Балта-Чарнаморскага саюза. Тады было шмат крытыкі гэтай ідэі. У тым ліку і з боку тых, хто і па сённяшні знаходзіцца ў вышэйшых эшалонах улады ў Беларусі. І тым не менш…

28 траўня ў Адэсе было падпісана пагадненне пра арганізацыю грузаперавозак кантэйнерным цягніком паміж Літвой, Украінай і Беларуссю, паведаміла прэс-служба Беларускай чыгункі. У рэалізацыі праекта ўдзельнічаюць чыгуначныя адміністрацыі трох краін, ТАА Containerships (Украіна), ЗАТ Intermodal Container Service і LG CARGO (Літва). Ад Беларусі пагадненне падпісаў першы намеснік начальніка Белчыгункі Ігар Шылаў.

Бакі дамовіліся аб арганізацыі і развіцці міжнародных грузаперавозак у кантэйнерах цягніком «Containerships train», які будзе рухацца па маршруце Клайпеда/Драўгістэ — Кяна — Славечна — Бравары/Адэса. Будзе хадзіць не менш двух цягнікоў на тыдзень. Пагадненне прадугледжвае распрацоўку графіка, тарыфаў, маркетынгавае ўзаемадзеянне. Акрамя таго, іншыя краіны ці кампаніі таксама могуць далучыцца да праекта са згоды ўсіх бакоў.

Што гэта, як не пралог таго самага Балта-Чарнаморскага саюза? Асабліва, калі да яго далучацца іншыя краіны Балтыі і Польшча, як гэта планавалася чвэрць стагоддзя таму?

І гэта досыць перспектыўна — асабліва ў тым рэчышчы, што апошнім часам у Сінявокай актыўна прасоўваецца ідэя аб пастаўках у рэспубліку «нерасійскай нафты». Гэты сцэнар прапрацоўваецца досыць сур'ёзна: атрымаць «нерасійскую нафту» краіна разлічвае ўжо да канца 2019 года. Чакаецца, што гэта будуць марскія пастаўкі.

Варта адзначыць, што сама ідэя альтэрнатыўных паставак нафты ў Беларусь не новая: краіна ўжо вазіла такім чынам нафту аж з Венесуэлы, і потым, па нафтаправодзе «Адэса — Броды» перапампоўвала яе на Мазырскі НПЗ. Аднак «за морам цялушка — паўгроша, ды рубель перавоз». Уся праблема ў лагістыцы: транспарціроўка такой нафты робіць яе сапраўды «чорным золатам». Таму вядуцца інтэнсіўныя перамовы пра зніжкі і ўмовы той самай транспарціроўкі.

Як паведамляла нядаўна інфармацыйнае агенцтва БелаПАН, украінская чыгунка ўжо выказала жаданне даваць значную зніжку, калі нафта будзе пастаўляцца з украінскіх партоў у Беларусь чыгуначным транспартам. А амбасадар Азербайджана ў Беларусі Латыф Гандзілаў казаў, што пастаўкі нафты на беларускія нафтаперапрацоўчыя заводы можа забяспечыць Азербайджан.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ




## Юлія Ляшкевіч

**Суд Цэнтральнага раёна Мінска аштрафаваў знаную крэатыўную рэкламшчыцу. Яе абвінавацілі ва ўдзеле ў «Чарнобыльскім шляху», які адбыўся ў Мінску 26 красавіка.**

Суддзя Вікторыя Шабуня прадказальна вынесла пастанову аб прыцягненні Юліі Ляшкевіч да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафу ў памеры 20 базавых велічынь, альбо 510 рублёў.

«Чарнобыльскі шлях–2019» стаў адным з самых нешматлюдных за ўсю гісторыю правядзення акцыі: удзел у ім бралі, апрача журналістаў і супрацоўнікаў міліцыі ў цывільным, прыкладна каля 40 грамадзян. Аднак па ўзроўні адміністрацыйнага пераследу яго ўдзельнікаў ён імкнецца да сумнага лідарства.

Юлія Ляшкевіч трапіла ў вельмі пачэсную кампанію: раней за ўдзел у гэтым мерапрыемстве былі пакараныя актывісты Валер Рабцаў, Іван Міронпук і Тацццяна Барэль, адзін з лідараў «зялёных» Дзмітрый Кучук, знаны эканаміст Сяргей Чалы.

Юлія Ляшкевіч вядомая сваім удзелам у фестывалі беларускай рэкламы «Ad'Nak», а таксама вельмі ганараваным на шматлікіх фестывалях гендарным ролікам «Человек изобрела колесо».

## Святаслаў Барановіч



**Палітвязень ужо больш за 90 сутак знаходзіцца ў штрафным ізалятары ў турме Жодзіна, куды яго перавялі 15 лютага для адбыцця пакарання. Пра гэта паведаміла яго сястра Наталля.**

Яна хвалюецца за фізічны і псіхалагічны стан брата, бо ў штрафным ізалятары вельмі жорсткія ўмовы, каб знаходзіцца там такі працяглы тэрмін. Акрамя таго, што ён цалкам ізаляваны ад іншых зняволеных, туды забаронена браць уласныя рэчы, нават кнігі. Пры такіх умовах таксама нельга атрымліваць лісты, перадачы і карыстацца грашыма на рахунку. У ізалятары ложак адкідаецца ад сцяны толькі на ноч, а на дзень вяртаецца да сцяны. Таму ў гэты час ён вымушаны сядзець і ляжаць на падлозе.

Нагадаем, Святаслава Барановіча асудзілі за гвалт у дачыненні да супрацоўніка міліцыі падчас «Марша недармаедаў» 15 сакавіка 2017 года. Ён бараніў групу маладзёнаў, на якіх накінуліся «людзі ў цывільным». 12 сакавіка суд Маскоўскага раёна Мінска асудзіў Барановіча на 3 гады пазбаўлення волі.



## Зміцер Паліенка

**Былы палітычны зняволены Зміцер Паліенка 26 траўня адзначыў сваё 25-годдзе ў следчым ізалятары, а тым часам яго завочна асудзілі за «экстрэмізм». Праўда, невядома, як ён мог яго здзейсніць, калі знаходзіўся за кратамі?**

«16 красавіка Змітра паспелі асудзіць за экстрэмісцкую абрэвіятуру, якая была на плакаце ў аднаго з украінскіх таварышаў падчас пікета каля беларускага пасольства ў знак салідарнасці з анархістамі, — напісала сяброўка Паліенкі Марына Касінерава на сваёй старонцы ў Фэйсбуку. — Зміцер пісаў хадайніцтва, што хоча прысутнічаць на судзе, яго адвакат два разы інфармаваў пра гэта суд, а таксама пра тое, што менавіта на гэты дзень прызначаны следчыя дзеянні па крымінальным артыкуле, і гэтую праблему трэба неяк вырашыць. Але суд усё гэта праігнараваў і завочна асудзіў Змітра Паліенку да штрафу ў 50 базавых велічынь».

Як вядома, былому палітвязню Змітру Паліенку, які быў затрыманы 20 сакавіка, выстаўлена абвінавачанне на падставе некалькіх артыкулаў Крымінальнага кодэкса: асабліва злоснае хуліганства, распальванне іншай сацыяльнай варожасці, а таксама апаганьванне збудаванняў і псаванне маёмасці. Зараз актывіст анархісцкага руху знаходзіцца ў следчым ізалятары №1 у Мінску.

# «Хочуць распілаваць не толькі

Ксенія ЛІЦВІНОЎСКАЯ

**У Бараўлянах зноў паўстала небяспека высечкі лесапаркавай зоны. У сакавіку там узнавіліся земляныя працы па даследаванні магчымасці будаўніцтва дзіцячага садка і школы. Гэта падштурхнула жыхароў мабілізавацца і звярнуцца ў СМІ.**



Фота www.fotokto.ru

Пасёлак Бараўляны ўяўляе сабой агламерацыю. Ён так шчыльна зросся з іншымі пасёлкамі-мікрараёнамі, што адрозніць іх адзін ад аднаго недасведчанаму воку складана. Гэта і Лясны, і Вопытны, і Ляскоўка... Аднак часцей за ўсё гэтыя мястэчкі называюць ва ўжытку адным словам — Бараўляны. Любая праблема аднаго з пасёлкаў робіцца агульнай для ўсіх жыхароў Бараўлянскага сельсавета.

У сакавіку ў лесапарк заехалі бурыльныя ўстаноўкі.

«У нас людзі актыўныя, за ляском прыглядваюць, і сям-там нават камеры ў нас выведзеныя з пасёлка на гэты лес. Калі на другі дзень яны з'явіліся, мы ўжо былі падрыхтаваныя. Папрасілі ў іх дакументы», — паведаміў Юрый Філіпаў, староста пасёлка Вопытны.

Земляныя працы праводзілі прадстаўнікі УП «Марэна». Яны паказалі стары ордэр, датаваны 11.09.2017 года, тэрмін якога прадоўжаны пячаткай сельсавета.

«Ёсць адпаведная працэдура, як працягваецца ордэр. Ні пячаткі лягсагу, ні прыродаахоўных службаў на ўзнаўленне прац не было. Як і не выканана патрабаванне абавязковай прысутнасці прадстаўнікоў лесагаспадаркі», — адзначыў Юрый Філіпаў.

Пасля таго, як бурыльшчыкам указалі на парушэнні, яны сышлі. Аднак жыхары не губляюць пільнасць і гатовыя да чарговай атакі на зялёны аазіс.

## Кошт завышаны ў два разы

Высечы 5 гектараў лесу ўлады — ад мясцовай і вышэй — намагаюцца з 2017 года.

«Пад прыкрыццём клопату аб дзецях, аб тым, што патрэбны школы і садкі, — кажа Юрый Філіпаў. — Але людзям яшчэ дзесьці трэба адпачываць, гэта павінны быць паркі, зоны адпачынку».

Супраць далейшага вынішчэння лясной зоны больш 6 500 подпісаў былі накіраваныя ў выканкамы, а таксама ў Адміністрацыю кіраўніка дзяржавы.

Жыхары прапанавалі пабудаваць садок побач з лесам — на полі.

«У выніку ўсіх гэтых размоваў нас усё ж такі пачулі. І па генплане гэта поле было адведзенае пад забудову — і садка, і школы, і яшчэ аднаго садка. На сёння адзін з гэтых садкоў ужо будуецца на полі, што прымыкае да лесу», — распавёў староста.

Аднак зараз, паводле яго словаў, зноў вяртаюцца да ідэі пабудаваць садок-школу з высечкай дрэваў.

**«Бяздумнае стаўленне з боку ўладаў, без жадання падумаць, знайсці прымальнае выйсце — гэта няправільна. Калі гэта дурасць будзе далей працягвацца, справа дойдзе да радыкальных захадаў — і той, хто хацеў бунт, ён яго атрымае»**

«Калі высякаць лес, то ў нас атрымаецца два дзіцячых садка плот у плот. Адзін, як мы прасілі, на полі. А другі разам са школай — замест лесу».

Высечка дрэваў — не адзіная праблема з узвядзеннем садка-школы. Распрацоўшчыкі самі прызнаюць, што будаўніцтва складанае. У тры чаргі — як адзначаюць у тлумачальнай запісцы да генплана.

«Гэта былая ахоўная зона стралковага палігону, — нагадаў Юрый Філіпаў. — Там ваякі ўсё жыццё штосьці рылі, стралялі, узрывалі. Калі заводзіць будоўлю — грунтовых прац вельмі шмат. І ёсць падазрэнне, што грунты там вельмі дрэнныя. То-бок там, каб штосьці пабудаваць, у фундаменты трэба будзе ўкласці неймаверныя проста вялікія грошы».

І, нарэшце, высокі кошт будаўніцтва, фінансаванне якога плануецца з бюджэту Мінска і вобласці.

«46 мільёнаў рублёў будуць каштаваць школа з садком замест лесу! — не хавае эмоцый Юрый Філіпаў. — Як 46 мільёнаў? Вось год таму пабудавалі дзіцячы садок — ён каштаваў усяго 6 мільёнаў. Побач пабудавалі школу — яна каштавала 18. 6+18 = 24. Як 46? Адкуль 46? Нават з улікам высечкі лесу і кепскага грунту».

## «Карупцыя чыстай вады»

— Мая версія — карупцыя, — далучыўся да размовы жыхар пасёлка Вопытны Дзмітрый Ляўчук. — І другога тлумачэння я не бачу. Каштарысная вартасць была завышаная ў 2–3 разы. То-бок, хочуць распілаваць не толькі лес, але і бюджэтныя грошы. Ну проста наогул няма другіх зразумелых прычынаў. Калі б нам сказалі нейкую версію, мы можа быць пасмяяліся б. Але ж нам наогул нічога не кажуць.




Дзіцячы садок, які будуюць каля лесу



Дарога да школы

# лес, але і грошы бюджэтныя»

***— Магчыма, вам зноў прыйдзецца адстойваць лес?***

— Мы, канечне, рашуча настроеныя. Няўжо мы два гады проста так змагаемся? Яны тут прыйшлі, гаспадары жыцця — у месца, дзе мы жывем, на нашу малую радзіму. Твораць, што хочуць.

***— Яны — гэта хто?***

— Выканкамы. У звязцы са сваімі камерцыйнымі партнёрамі. Натуральна, усё гэта па дамоўленасці з камерцыйнымі забудоўшчыкамі. Яны не першы год працуюць па такіх схемах, тут вакол усё забудоўваецца. З 2006 года Бараўляны выраслі з 13 тысяч чалавек да 55. Усе забудоўшчыкі тут даўно прыкормленыя, у тэндарах толькі яны і ўдзельнічаюць. Карупцыя чыстай вады. Прычым такая яўная, што словаў няма.

Жыхары выказваюць і іншыя здагадкі. Што на поле, якое было адведзенае пад будаўніцтва дзіцячых установаў, паклалі вока інвестары. І пачалі лабіраваць менавіта са зносу лесу і будаўніцтва там школы-садка, каб максімальна захаваць свабодную зямлю пад будоўлю шматпавярховікаў. А першачарговасць будаўніцтва дзіцячых установаў прабівалася, каб усю інфраструктуру (дарогі, каналізацыя, водаправод) праклалі за бюджэтныя грошы. А забудоўшчык, які б потым прыйшоў, проста падключыўся на ўсё гатовае без затрат уласных сродкаў. Такая змова, па меркаванні людзей, цалкам можа прысутнічаць таксама.



Крама ў колерах «Еўраопта», якая пустуе



ФАК, які пераўтвараўся ў гастрабар, і пустая крама

## Падман па генплане

Гэты лес — соты квартал Бараўлянскага спецлясгасу. Цягнецца ад пасёлка Вопытны да праспекта Незалежнасці. Людзі ў ім гуляюць круглы год.

«Летам там можна і не прапхнуцца ад ягаднікаў і грыбнікоў, — распавёў стараста. — Зімой прабіваюць лыжныя трасы і катаюцца на лыжах. На веласіпедах пастаянна бачна сем'і. Людзі з палкамі для скандынаўскай хадзьбы. Гэта сапраўды зона адпачынку, там людзі адпачываюць. Прычым гэта не той адпачынак, што прыйшлі, мангалаў настаўлялі, гарэлкі налілі. Такога там практычна няма. А здаровы лад жыцця там назіраецца пастаянна. Гуляюць, там рэальна гуляюць».

Жыхары адзначаюць і біялагічную каштоўнасць зялёнага аазісу. Бо ў ім знаходзяцца 5 прадстаўнікоў з Чырвонай кнігі. З расліннага свету — гэта Лілія кудраватая і Гладыш шыракаліст, а таксама грыб Спарасіс. Там жа месцяцца жук Борас Шнэйдэра і птушка — Вераб'іны сыч.

Па генплане лес меркавалася пераўтварыць у парк.

«Пасёлак Вопытны пачаў будавацца і засяляцца, людзі пачалі ўкладаць грошы ў 2005 годзе, — працягвае Юрый Філіпаў. — Усе людзі здаровыя і з цвярозым розумам успрымаюць сітуацыю. Яны адкрываюць планы, мапы і глядзяць: тут будзе парк. Добра, я гатовы ўкласціся ў гэту зямлю, пабудаваць тут дом для сябе, для дзяцей, радавое гняздо стварыць. Сюды людзі ўклалі і душу, і значныя сродкі. І ўмовы былі такія: будзе парк — таму я выбраў гэты ўчастак. Ніякіх планаў высечкі лесу не было. Таму гэта падман».

## Не «спальнік», а медыцынскі кластар

Уздымалася і пытанне аб тым, што Бараўляны павінны стаць медыцынскім кластарам.

«Медыцынскі кластар і «спальнік», адсутнасць прыроды, нармальнага жыцця для высокакваліфікаваных медыкаў (каб яны не клапаціліся ні аб дзіцячым садку, ні аб школе) — гэта несумяшчальныя рэчы. А зямлі ў Бараўлянах мала», — канстатуе Юрый Філіпаў.

На думку жыхароў, у Бараўлянах ёсць магутны эканамічны патэнцыял — вялікая колькасць бальніц, у тым ліку рэспубліканскага значэння. І, адпаведна, гэта месца трэба разглядаць выходзячы з існуючай практыкі — развіцця медыцынскага напрамку бізнесу.

У Бараўлянах не першы раз высякаюць лес. Сярод такіх прыкладаў — будаўніцтва ліўневага калектара.

«Месца іншага не знайшлі, лес высеклі, бетон залілі. Прайшло пяць гадоў. Калектар так і не працуе», — канстатуюць жыхары.

І ўказваюць на недапрацоўкі на іншых аб'ектах. Пабудавалі школу з дзіцячым садком, аднак дарогі да іх не зрабілі.

«З аднаго боку, адкуль губернатар прыязджаў на адкрыццё, — там прыгожа. Гэта з боку Ляснога. З адваротнага боку, дзе два населеных пункты (Ляскоўка і Вопытны), там проста не падыйсці — балота», — скардзяцца людзі.

Пра досвед зносінаў з горадабудаўнікамі яны могуць распавесці шмат гісторый. Напрыклад, змаганне за катэджы.

«Ну новыя, абсалютна свежыя пабудовы з 2005 года. А іх ужо «мадэрнізаваць» планавалі ў генплане. Пад знос, «мы там пентхаўзы ляпіць будзем». Адстаялі катэджы. Былі і планы пабудаваць мегааўтабаны з назвамі П3, П4 і г.д. Мы сказалі: ну хлопцы, дарога з ніадкуль у нікуды. «Так, пагарачыліся», — прызналі яны».

— Зараз павінна быць эргаамічная забудова, якая сама па сабе ўжо ставарае асяроддзе. Але няма комплекснага падыходу. Такое адчуванне, што дзесьці хтосьці сядзіць і — ай, хай будзе, пабудуем! Быццам бы ў нас ёсць свае дэпутаты, старшыні сельсавету — чаму яны маўчаць, чаму нічога не кажуць?



Мост на Віцебскай шашы

## Транспартны калапс

Пра чарговую праблему сведчаць заторы, якія ўзнікаюць пры выездзе з Бараўлянаў на Віцебскую трасу. Дарога патрабуе пашырэння і рэканструкцыі. Як і мост, на які яна выходзіць.

Аднак транспартную праблему даводзяць да крайнасці. Упрытык да моста збіраюцца будаваць «шматфункцыянальны грамадска-дзелавы гандлёвы цэнтр». Ужо распрацаваны праект, інвестару прадалі ўчастак 1,5 га за 250 тысяч долараў. З правам арэнды зямлі на 30 гадоў. Ля крамы прадугледжваецца 230 паркоўвачных месцаў.

«Гэты мост стары, — тлумачыць Юрый Філіпаў. — Ён не мае развязак. Шырыня праезджай часткі — дзве машыны ледзь разыходзяцца, пешаходкі няма, дарогу трэба пашыраць. Мінімум яшчэ паласа туды, паласа сюды — гэта палосы з'езду, разводу. Усё гэта месца патрэбна для моста. Ён — важная кропка транспартнай развязкі. Не толькі для Бараўлянаў, але і для рэспублікі ў цэлым. Вунь яна, рэспубліканская траса. І вось гэты мост мы зараз заткнем гандлёвым цэнтрам. Месца, калі спатрэбіцца рэканструкцыя моста, папросту не хопіць».

## Афера?

Той факт, што зямля пад гандлёвы цэнтр выдзеленая без уліку неабходнай мадэрнізацыі моста і дарогі Н-9037 (Дубаўляны – Бараўляны – Каралёў Стан), выклікае пытанні. Як і само будаўніцтва крамы, заказчык якога — ААТ «Знешэканомбуд».

Па-першае, як лічаць мясцовыя жыхары, кошт участку пад краму ля рэспубліканскай трасы М-3 Мінск — Віцебск з'яўляецца заніжаным. Па-другое, калі паўстане глабальная праблема мадэрнізацыі моста і транспартнай развязкі, з заказчыкам прыйдзецца дамаўляцца і выплачваць кампенсацыю. Бо іншага выйсця, акрамя як пашыраццa за кошт тэрыторыі інвестара, не застаецца. Да гэтага часу на выдзеленай яму зямлі ўжо з'явіцца збудаванні.

«Гэта афера, на мой погляд. Маставую развязку заціскаюць нейкімі дробязнымі інтарэсікамі. У спадзяванні на тое, што калі вы нарэшце саспееце і прыйдзеце да думкі аб тым, што тут усё такі трэба штосьці рабіць з мостам (а рабіць трэба ўжо зараз), вы нам нашы грошыкі не толькі назад вернеце, але мы яшчэ і бонусы атрымаем», — не выключае Юрый Філіпаў.

Пры гэтым, як сцвярджаюць жыхары, дэфіцыту крамаў Бараўляны не адчуваюць. Наадварот, перанасычаныя імі, і гандлёвыя будынкі пустуюць. Напрыклад, адзін з такіх пабудаваны два гады таму. Другі, у колерах «Еўраопта», з шыльдай «Арэнда» шукае гаспадара ўжо год. «Бруснічак», «Суседзяў», «Дабраномаў», тых жа «Еўраоптаў» — хапае з лішкам.

— Вострай неабходнасці ў такіх аб'ектах няма, — кажа Дзмітрый Ляўчук. — Ёсць вострая неабходнасць у дзіцячых садках, школах. На 55 тысяч насельніцтва дагэтуль няма дзіцячай паліклінікі. Чаму іх не будуюць? ФАКа ніводнага няма. Вось ФАК павінен быць па генплане. Стаў крамай незразумелай.

Школы перагружаныя ў два з паловай разы, гімназіі працуюць у дзве змены. У садок чарга — пяць тысяч. Я сваё дзіця ў мясцовы садок уладкаваць не магу. Хаця садкоў дастаткова многа. Чаргу размяркоўвае, зноў жа, выканаўчая ўлада. Ну быццам бы ўсе месцы занятыя. Але ні для каго не сакрэт, што ты дзіця можаш уладкаваць у садок. Той, які ты хочаш. Але за гэта трэба заплаціць. Па чутках, тысяча долараў — і тваё дзіця ў садок ходзіць.

## «Захраслі ў супрацьстаянні»

Жыхары абураныя, што ва ўладных кабінетах не хочуць прымаць да ўвагі іх меркаванне наконт развіцця Бараўлянаў. Ігнаруюць звароты, не абцяжарваюць сябе аргументаванымі адказамі.

«Калісьці, можа быць, гэта і праходзіла, — канстатуе Юрый Філіпаў. — Але зараз гэтыя падыходы ўжо не спрацоўваюць. Яны спараджаюць канфлікты. Насамрэч выхады можна знайсці. Бяздумнае стаўленне з боку ўладаў, без жадання падумаць, знайсці прымальнае выйсце — гэта няправільна. Вялікая колькасць людзей, і з боку грамадзянскай супольнасці, і з боку дзяржструктур, марнуе вельмі шмат часу, сіл і сродкаў на супрацьстаянне, а не на стварэнне. Так не павінна быць.

Калі гэта дурасць будзе далей працягвацца, у пасёлку актыўных людзей вельмі многа. І калі справа дойдзе да радыкальных захадаў — той, хто хацеў бунт, ён яго атрымае. А я не прыхільнік такіх мераў».

Жыхары Бараўлянаў ужо заявілі, што ў выпадку высечкі лесу гатовыя стаць жывым ланцугом перад тэхнікай і «здзяйсняць іншыя законныя дзеянні».



# Беларусь была перадусім

## Пяць гадоў без Генадзя Бураўкіна…

Сяргей ШАПРАН

**Калі вясной 2009 года Генадзю Мікалаевічу зрабілі складаную аперацыю на сэрцы, ён нечакана патэлефанаваў яшчэ з бальніцы і папрасіў мяне завітаць. У траўні ён разам з жонкай Юліяй Якаўлеўнай збіраўся адзначаць 50-годдзе сумеснага жыцця, і таму папрасіў цяпер, каб я напісаў пра гэта. Тое інтэрв'ю называлася «Першы мой натхняльнік — Юля». Гэта быў падарунак паэта той, якой ён прысвяціў адзін з самых лірычных сваіх вершаў «Юнацтва сінія арэлі».**



Юля і Генадзь Бураўкіны.
Фота з сямейнага архіва Бураўкіных

Цяпер жа пра шлях даўжынёй больш чым у паўстагоддзя распавядае нязменная і верная яго спадарожніца — жонка Юлія Якаўлеўна.

— Мы пазнаёміліся падчас вучобы ва ўніверсітэце. Генадзь распавядаў, што ўпершыню звярнуў на мяне ўвагу, калі мы стаялі ў чарзе ва ўніверсітэцкім буфеце. Але я, прызнацца, не заўважыла яго тады і ўвогуле яшчэ цэлы год не звяртала на яго аніякай увагі. Гэткім чынам кахання з першага позірку — прынамсі ў мяне — не было. Генадзь жа гаварыў, што адразу захапіўся мною — хоць прыгажуняй я не была, але была сімпатычная. І нават вершы чытаў, праўда, не асабіста мне, а з універсітэцкай сцэны:

*Цэлы тыдзень хадзіў я прыгнечаным,*
*Не гулялася,*
*не спявалася.*
*Кожнай раніцай,*
*кожным вечарам*
*Сэрцу нечага не ставала ўсё.*

*А сягоння,*
*зусім няпрошана,*
*Нечакана, неспадзявана я*
*Зноў убачыў цябе,*
*харошая,*
*Дарагая, нецалаваная…*

Мне, вядома, гэта было прыемна. Праўда, пасля мне гаварылі са смехам: «Ты ж пайшла. І нічога не ведаеш ты, дарагая, нецалаваная…» А Генадзя так і дражнілі: «Дарагая, нецалаваная»…

Ён вылучаўся сярод іншых. У хлопцаў жа не было іншых размоў, апроч таго, колькі выпілі піва і як у футбол згулялі. Мяне гэта не цікавіла. А Генадзь літаральна «ўліваў» у мяне беларушчыну — ён ужо тады жыў беларускай ідэяй, з чым раней я ніколі яшчэ не сутыкалася.

Паходжаннем я з Украіны і ў дзяцінстве жыла ў сваёй украінскай бабулі Васі, Васілісы Аляксееўны, ва Умані, што на Чаркашчыне, таму рускую мову ўвогуле не ведала. У Беларусь наша сям'я пераехала пасля вайны, калі бацька Якаў Андрэевіч у чыне капітана быў дэмабілізаваны з войска і, апынуўшыся ў Мінску, вырашыў застацца. У яго не было нейкага геройскага мінулага — усю вайну праслужыў у інтэндацкіх войсках, гэтаксама і ў Мінску працаваў у галіне гандлю. Мая мама Ганна Аляксееўна выкладала нямецкую мову ў вышэйшай школе міліцыі. Яна была жорсткім чалавекам…

Дасюль памятаю такую сцэну: прыходзіць да нас дадому міліцыянер з дываном на плячы — мусіць, каб здаць залік ці экзамен, але праз колькі хвілін выскоквае чырвоны — маці выгнала яго разам з тым дываном!.. Яна трымалася вельмі строгіх прынцыпаў. Мусіць, таму мы жылі сціпла, у камунальнай кватэры на вуліцы Старажоўскай, дзе два невялічкія пакоі належалі нам, а трэці — адной жанчыне…

Як Генадзь заляцаўся да мяне? Гэты этап нашага жыцця не быў страсны. Мы некалькі разоў схадзілі ў кіно, а аднойчы на дзень народзінаў Генадзь падараваў мне залаты пярсцёнак — я дасюль яго захоўваю… Затое мы шмат гаварылі. Размаўляў Генадзь са мной па-руску і па-беларуску, і ніякіх складанасцяў не ўзнікала — я ўсё цудоўна разумела. Мне з ім было дужа цікава, да таго ж ён шмат чытаў — больш за мяне, хоць усе мы тады чыталі, бо вучыліся на філфаку. Зрэшты, яшчэ ў школе я чытала ўсё, што можна было і што нельга. Памятаю, як перапісвалі ад рукі Ясеніна, які быў пад забаронай…

Апроч таго, многа тады смяяліся — Генадзь пастаянна жартаваў і ў дадатак меў акцёрскія здольнасці: ён лёгка перадражніваў выкладчыкаў і сяброў. Мы ж з ім і ў студэнцкім тэатры ігралі. Праўда, я зусім нядоўга — мама многа працавала, а трэба было некаму вячэру гатаваць, і маці не дазволіла хадзіць у тэатральны гурток, хоць мне вельмі там падабалася — і сама атмасфера, і людзі: Жэня Гаркавы, Аркаша Руды, Лёва Тамільчык, Генадзь… Яны былі старэйшыя за мяне і ўжо ў той час былі цікавымі асобамі…

***

Зблізіла нас Генадзева хвароба — на пятым курсе ён раптоўна захварэў на сухоты. Захварэў, мусіць, праз тое, што адмовіўся ад дапамогі сваіх бацькоў, якія жылі вельмі бедна. Генадзь жыў на адну стыпендыю і ганарары за свае вершы, але гэтых грошай, вядома, не хапала. Ён быў такі худзенькі, што проста жах! І аднойчы ўзімку захварэў на грып, які даў ускладненне — запаленне лёгкіх.

Яго паклалі ў 2-ю савецкую бальніцу (так яна ў той час называлася), што месцілася насупраць Опернага тэатра. Нават мая мама не ведала пра гэта, а каб даведалася… Яна не хацела, каб я рана выходзіла замуж, але прафесар Белы (дасюль памятаю прозвішча ўрача, які апекаваў Генадзя) сказаў: «Дзяўчынка, калі хочаш мець мужа, то павінна добра яго карміць, апранаць і даглядаць».

Пачуўшы гэта, я зразумела, што не маю права пакідаць яго. Гэта як адказнасць за дзіця, якое хварэе, і ты павінен не толькі накарміць яго, але і апрануць, і прасачыць, каб яно не прамачыла ногі… Гэткім чынам урач, па сутнасці, усклаў на мяне адказнасць не толькі за здароўе, але і за Генадзева жыццё, што і вырашыла мой далейшы лёс…

Мне тады было дзевятнаццаць гадоў, я была зусім дзяўчынка, маладая і нявопытная, якая й жыцця яшчэ не ведала… Я чэсна выконвала свой абавязак… Генадзь аддаваў мне сваю стыпендыю, на якую я купляла яму ежу. Да яго ніхто не прыходзіў, апроч мяне. Неяк завітаў адзін ягоны сябар, але ў той дзень памёр ад сухотаў Генадзеў сусед па палаце, і яго цела яшчэ не вынеслі. Больш той сябар не з'яўляўся… Не магу сказаць, што не баялася, — я проста пра гэта не думала. А паколькі штодня на працягу трох месяцаў даглядала Генадзя, мы, вядома, рабіліся бліжэй… У выніку ён паступова вылечыўся, прычым да такой ступені, што ніколі потым не ўзнікала рэцыдыву.

***

Хварэў Генадзь са студзеня да сакавіка ўключна. А 1 мая мы, узяўшыся за рукі, паведамілі маім бацькам, што хочам пабрацца шлюбам… Мая маці вельмі не хацела, каб я выходзіла за Генадзя, бо ён быў вясковага паходжання, але прама яна так, вядома, не казала — я здагадвалася пра гэта. Мама нават маёй сяброўцы тэлефанавала і прасіла адгаварыць мяне…

Пазней Генадзь казаў, нібыта я праз акно збегла, але ні праз якое акно я насамрэч не збягала: маці, пакідаўшы мае рэчы ў чамадан, скруціла дыван — гэта быў увесь мой «пасаг» — і, сказаўшы на развітанне, каб я не вярталася, зачыніла за намі дзверы…

Разам з намі пайшоў мой зводны брат Вілен, сын першай жонкі майго бацькі, якая памерла маладой. Вілен вельмі любіў мяне, гэтаксама як і я яго. І вось узяўшы невялічкі мой «пасаг», мы ўтрох пайшлі шукаць кватэру…

Першым нашым жытлом быў пакой у кватэры, што месцілася ў драўляным дамку на вуліцы Камуністычнай. Побач знаходзілася фабрыка печыва, якой ужо няма. Пакойчык невялічкі, восем метраў. Там маглі стаць толькі ложак, шафа і тумбачка. Кухня была агульная. Ніякага халадзільніка — не кажучы пра тэлевізар — у нас не было.

Не атрымаўшы бацькоўскага блаславення, мы, тым не менш, праз тыдзень, 9 мая, пайшлі ў ЗАГС, што быў на вуліцы Энгельса (цяпер там знаходзіцца аддзяленне кардыялогіі 2-й клінічнай бальніцы). Сведкам на нашым сціплым вяселлі былі мая сяброўка і Мікалай Матукоўскі, які запрасіў нас у пельменную, дзе мы пад «гамзу» з'елі па порцыі пельменяў. Але гэта не азначае, што мы так ужо любілі тыя пельмені, прынамсі я, — проста ў нас не было грошай на рэстаран. Генадзь заканчваў універсітэт, а я вучылася на трэцім курсе. У нас нават шлюбных пярсцёнкаў не было — мы пазней іх набылі…

Ці шкадую цяпер, што пабралася шлюбам з Генадзем?.. Божа мілы, апроч яго, ніхто больш не быў мне цікавы. Сваім спадарожнікам я бачыла чалавека разумнага, з добрым пачуццём гумару, каб ён нешта значыў, каб быў асобай…



**Ва ўніверсітэцкім скверыку. Стаяць (злева направа): Рыгор Барадулін, Анатоль Клышка, Васіль Зуёнак, Анатоль Вярцінскі, Генадзь Бураўкін. Сядзяць: Юрась Свірка, Мікола Арочка, Кастусь Цвірка.** Фота з сямейнага архіва Бураўкіных

Працяг на стар. 19 »

# Літаратурная Беларусь

Выпуск №5 (153)
(травень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by

## Змест






Фота www.people.onliner.by

# Дым і агонь



Віктар САЗОНАЎ

**Дыму без агню не бывае. Прынамсі так гаворыць старадаўняя мудрасць, вядомая яшчэ з тых дапатопных часоў, калі зямля плавала на трох кітах. Усё далейшае развіццё чалавецтва толькі пацвярджала праўдзівасць гэтых слоў. Не згубілі яны сваю актуальнасць і сёння.**

На пачатку пра дым. У інтэрв'ю радыё «Срэбны дождж» вядомы расійскі журналіст і публіцыст Мікалай Сванідзэ заявіў, што да яго з Менску дайшоў слых, нібыта дзейсны кіраўнік Расійскай Федэрацыі прапанаваў не менш дзейснаму кіраўніку Рэспублікі Беларусь стаць сапраўдным дзейсным прэм'ер-міністрам Расеі ажно на шэсць наступных гадоў. Зразумела, гэта ўсё не проста так, і не за неверагодна высокія гаспадарскія дасягненні дадзенай беларускай кандыдатуры ў галіне эканомікі, ну і зразумела, што не за прыгожыя вочы. Гэтая ўсходняя прапанова мажлівая, маўляў, толькі ў абмен на ўсю Беларусь з усімі яе амаль дзесяці мільёнамі рускамоўнага насельніцтва.

Даведка... Калі хто не ведае, Мікалай Сванідзэ ёсць прадстаўніком яшчэ той старой, на сённяшні дзень ужо не моднай інфармацыйнай школы, у якой проста так языком не мятуць, а ўзважваюць кожнае слова. Таму што маральна-этычныя крытэры і праўдзівасць кожнага зляцелага з вуснаў выказвання лічаць не толькі прафесійнай этыкай, але і жыццёвай неабходнасцю. Таму каму-каму, а Мікалаю Сванідзэ верыць можна.

Ідзём далей. Такога прыніжэння мала якая краіна і мала які яе начальнік зведалі. Ні кіраўніку Малдовы, ні Узбекістана, ні Казахстана, ну і зразумела, што ні кіраўнікам Украіны, ні былому ні цяперашняму, такія прапановы не паступалі. Ёсць над чым задумацца. А тут вось так проста, па-сваяцку, у прыяцельскім тоне — раз, і пагаварылі. Дажыліся! Нічога не скажаш.

І што вы думаеце, дуэлі пасля гэтай кінутай пальчаткі (калі такое было насамрэч) не адбылося. Прынамсі ў нашым эстэтычна-арыстакратычным уяўленні пра дуэлі. Хоць, можа, сённяшнія дуэлі вядуцца па іншых правілах, і вымушанае адкліканне з Беларусі расійскага амбасадара Міхаіла Бабіча і ёсць «наш адказ Чэмберлену». Хто яго ведае. Пажывём — пабачым.

Гэта было пра дым. Ну а цяпер пра агонь. Ну вось настолькі расшчодрыўся кіраўнік Расійскай Федэрацыі з прапановамі і падарункамі направа і налева, што нават для шырокай расійскай душы гэта ўжо занадта. Тут, паводле Мікалая Сванідзэ, крэсла прэм'ера аддае, там для жыхароў некаторых раёнаў Луганскай і Данецкай абласцей прапаноўвае за «бардзэ дзенькуе» грамадзянства Расійскай Федэрацыі. Выглядае так, што яго ўжо не спыніць у бязмернай «шчодрасці». Якога новага падарунка ад яго чакаць і каму? Можа, Нурсултан Назарбаеў і аддаў сваё пажыццёвае права кіраваць Казахстанам, бо па логіцы рэчаў у такой святочнай атмасферы і яго без падарункаў наўрад ці пакінуць. А Нурсултану Абішавічу хіба яны не асабліва патрэбныя?

Лагічна паўстае пытанне: а навошта такая шчодрасць патрэбная самому расійскаму кіраўніцтву? Бо калі хто думае, што толькі праз Саюзную дзяржаву Беларусі і Расіі расійскі начальнік можа захаваць свой трон, той увогуле не разумее, што гэта такое — трон расійскі. Калі на яго хто залазіць, то сам злезці ўжо не можа. І аніякія новыя дзяржаўныя ўтварэнні для гэтага зусім не патрэбныя. А вось новыя салдаты Расіі былі патрэбныя заўсёды. Ну калі паваяваць хацелася... А галоўнае — заўсёды ёсць з кім паваяваць. Так гістарычна склалася. Вялікая яна, Расія, толькі не густа населеная. Вось мільён-другі баяздольных чалавек і не пашкодзіць. Асабліва такіх, ужо абстраляных, як з Луганшчыны і Данеччыны, ці такіх з дзяцінства партызан, як з Беларусі. Ды што там гаварыць. Усялякія патрэбныя.

**Вялікая яна, Расія, толькі не густа населеная. Вось мільён-другі баяздольных чалавек і не пашкодзіць. Асабліва такіх, ужо абстраляных, як з Луганшчыны і Данеччыны, ці такіх з дзяцінства партызан, як з Беларусі. Ды што там гаварыць. Усялякія патрэбныя**

Расія заўсёды ваявала людзьмі. Лішніх у яе не бывае. Лішнія адсейваюцца самі па сабе на полі бою. Ну а бой заўсёды будзе, калі ёсць лішнія салдаты. Некуды ж іх трэба дзяваць...

Вось вам і дым, вось вам і агонь. Ну а як жа без агню, калі і дровы даўно нарыхтаваныя, і распалка, і запалкі ляжаць на відным месцы. Не прападаць жа дабру. А там хто рукі нагрэе на тым агні, а хто азадак прапаліць, — гэта ўжо як каму пашанцуе. Ці не пашанцуе. Кожны думае, што патрапіць у першую катэгорыю. Толькі вось гэта далёка не факт.

**racyja.com**




## Прэмія імя Наталлі Арсенневай

**Распачаўся прыём заявак на Прэмію імя Наталлі Арсенневай за найлепшую паэтычную кнігу на беларускай мове.**

Крытэры для падачы кніг: 1) паэзія; 2) кніга выдадзеная ў 2018 годзе (кніга, якая была выдадзеная ў 2017, але па нейкіх прычынах не была пададзеная на мінулагоднюю прэмію, можа быць намінаваная ў гэтым годзе); 3) мова кнігі — беларуская.

Калі кніга выдавалася ў папяровым выглядзе, два папяровыя асобнікі трэба перадаць альбо пераслаць поштай на адрас Саюза беларускіх пісьменнікаў (Мінск, вул. Кузьмы Чорнага, 31-906). Заяўкі прымаюцца да 14 чэрвеня.

Падаць заяўку і намінаваць кнігу на прэмію могуць аўтары, выдаўцы, творчыя аб'яднанні, аргкамітэт Прэміі і сябры журы. Пераможцу вызначаць вядомыя паэты і літаратуразнаўцы.

Прэмія за найлепшую кнігу паэзіі была заснаваная ў 2017 годзе ў гонар Наталлі Арсенневай — выбітнай беларускай паэткі, зоркі літаратуры Заходняй Беларусі, аўтаркі знакавага верша «Магутны Божа».

У 2018 годзе прэмію атрымаў Алесь Разанаў за кнігу «Перавыбранае», а ў 2017 — Уладзімір Някляеў за кнігу «Толькі вершы».

Арганізатарамі прэміі з'яўляюцца Саюз беларускіх пісьменнікаў, Беларускі ПЭН-цэнтр і Згуртаванне «Бацькаўшчына». Літаратурная прэмія імя Наталлі Арсенневай заснаваная пры спрыянні Фонда культуры і адукацыі Орса-Рамана і Харытатыўнага фонда Згуртавання беларусаў Вялікай Брытаніі.

## Конкурс «Экслібрыс» імя Анатоля Сыса

**У год, калі Анатолю Сысу споўнілася б 60, Саюз беларускіх пісьменнікаў абвясціў пра пачатак прыёму прац на конкурс для маладых літаратараў «Экслібрыс». Сёлета конкурс будзе прысвечаны паэтычным творам.**

Да ўдзелу ў конкурсе запрашаюцца паэты ва ўзросце да 35 гадоў. Прымаюцца толькі тэксты, не апублікаваныя ў друку.

У журы сёлетняга конкурсу ўвайшлі Валянціна Аксак, Леанід Галубовіч, Леанід Дранько-Майсюк, Таццяна Нядбай, Уладзімір Сціпан.

Тэксты на конкурс можна дасылаць файламі ў фармаце .doc(.docx) да 1 кастрычніка 2019 года на адрас sbp@lit-bel.org, пазначыўшы тэмай ліста «Конкурс». У лісце мусіць быць наступная інфармацыя: імя, прозвішча, дата нараджэння ўдзельніка, кантактны нумар тэлефона і e-mail.

Падвядзенне вынікаў і цырымонія ўзнагароджання пераможцаў адбудуцца ўвосень, да юбілею Анатоля Сыса. Па выніках конкурсу мяркуюцца публікацыі ў часопісе «Дзеяслоў», дадатку «Літаратурная Беларусь» пры газеце «Новы Час».

Штогадовы конкурс для маладых літаратараў «Экслібрыс» заснаваны Саюзам беларускіх пісьменнікаў 7 гадоў таму і штораз мае новую тэму. Першы ў 2012 годзе быў прысвечаны класікам-юбілярам беларускай літаратуры Паўлюку Багрыму, Якубу Коласу, Янку Купалу, Алесю Гаруну, Цішку Гартнаму, Максіму Танку, Янку Брылю і Міхасю Стральцову, другі (2013) — Янку Маўру, трэці (2014) — Аляксандру Уласаву, чацвёрты (2015) — Рыгору Барадуліну, пяты (2016) — Антону Луцкевічу, шосты (2017) — 500-годдзю беларускага кнігадрукавання і Францыску Скарыну. У 2018 годзе «Экслібрыс» быў прысвечаны 100-годдзю Беларускай Народнай Рэспублікі.

**Прэс-служба СБП**

# Класік і міфы

**Таямніцы Дуніна-Марцінкевіча / Зміцер Дрозд. — Вільня: Беларускі дакументацыйны цэнтр, 2018. 572 с.**

Кніга Змітра Дразда «Таямніцы Дуніна-Марцінкевіча» — даследаванне грунтоўнае, інтрыгоўнае, поўнае жывой цікавасці да айчыннай літаратуры, ці, дакладней, — асобы аднаго з найбольш вядомых беларускіх творцаў XIX стагоддзя. Крытычныя развагі над даследаваннямі папярэднікаў, чатыры гады працы ў архівах, дзясяткі публікацый у перыядычным друку, і ў выніку — кніга на 570 старонках пра Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, яго сям'ю, Мінск сярэдзіны XIX стагоддзя, дзе вобраз класіка на думку адных чытачоў «дэманізуецца і крыміналізуецца», на думку іншых — проста ўдакладняецца паводле архіўных дакументаў.

Нельга не параўнаць гэтую кнігу з выдатным даследаваннем Генадзя Кісялёва «Жылі-былі класікі: хто напісаў паэмы «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе»». Тут адчуваецца тая ж бадзёрасць, захопленасць, радасць новых знаходак... Кнігу Змітра Дразда можна аднесці да ўмоўнага жанру «даследаванне-дэтэктыў», бо сярод безлічы дакументаў трэба знайсці тыя, што маюць неабвержнае дачыненне да героя гісторыі, дазваляюць рэканструяваць падзеі мінулага.

Як у кожным паважаным выданні, разлічаным на ўвагу навукоўцаў, тут ёсць тэксты шматлікіх дакументаў, якія публікуюцца ўпершыню (агулам 165 старонак), і копіі некаторых з іх, спіс апублікаваных дакументаў, асабовы і геаграфічны паказальнікі. Разам з тым, даследаванне чытаецца лёгка, бо Зміцер Дрозд па ўласных словах «часта імкнуўся пісаць не навуковай мовай, а займальна — таму і кніга ў цэлым навукова-папулярная».

Якія таямніцы раскрываюцца ў кнізе?

Першая — загадкавае сваяцтва Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча з мітрапалітам усіх рымска-каталіцкіх цэркваў Расійскай Імперыі Станіславам Богуш-Сестранцэвічам. Зміцер Дрозд адзначае, што крэўнага сваяцтва паміж імі не было. «Дачка роднай сястры мітрапаліта Ганны Рыкачэўскай Людавіка выйшла замуж за Яна Марцінкевіча, менавіта ад іх і паходзяць зводныя паэта — брат Ігнацы Марцінкевіч і сястра Францішка». Людавіка была першай жонкай бацькі паэта, і памерла пасля 1781 года. Як сведчаць шматлікія дакументы, Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч апекаваўся сваімі пляменнікамі і дапамагаў сям'і Марцінкевічаў, нават калі Ян Марцінкевіч ажаніўся другі раз — з будучай маці Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча Марцыянай Нядзвецкай.

Другое важнае ўдакладненне — абвяржэнне міфа пра сіроцкае дзяцінства Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. Гэты міф грунтуецца на ўласных словах паэта («з дзяцінства асіроцелы і маючы нядбайную радню...»). Вінцэнт сапраўды рана страціў бацьку (на час смерці Яна Марцінкевіча яму было толькі 3 месяцы), але яго маці Марцыяна пражыла 62 гады, выдала замуж абедзвюх дачок, жыла з сям'ёй дачкі Алены ў фальварку Юззфова, дзе і склала тэстамент з улікам інтарэсаў свайго дваццацідвухгадовага сына.




Ці быў Марцінкевіч «Дуніным»? Гэтае пытанне, бадай, найбольш захапіла даследчыка, і на падставе шматлікіх дакументаў ён робіць выснову, што знакаміты паэт Дунінам-Марцінкевічам не быў, і ўзяў сабе «прыдомак», найверагодна, каб «далучыцца да старажытнага роду». Зміцер Дрозд адзначае, што ў ніводным з вядомых яму дакументаў прозвішча Дунін-Марцінкевіч «не згадваецца датычна продкаў ці самога Вінцэнта». На просьбу Змітра Дразда спецыяліст Яўген Глінскі выканаў экспертызу дакументаў, якія паэт падаваў у Мінскі дваранскі дэпутацкі сход, каб пацвердзіць шляхецтва. Атрымалася, што з 12 дакументаў 7 — фальшыўкі, 4 — сумнеўныя, 1 застаўся без ацэнкі. Безумоўна, род паэта быў вельмі паважаным, але прыдомкам «Дунін» яго продкі дакладна не карысталіся.

Чацверты істотны момант: Зміцер Дрозд здолеў разблытаць пакручастыя лёсы дачок Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. Мы шмат ведаем пра шчырую патрыётку Камілу — піяністку, кампазітарку, удзельніцу нацыянальна-вызваленчага руху. Але жыццё яе сясцёр, імёны якіх нярэдка блыталі даследчыкі, таксама вельмі цікавае. У Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча было чатыры дачкі: Каміла, Элёдыя, Цэзарына і Яўгенія-Эмілія. Жыццю Камілы і Марыі-Элёдыі прысвечаны асобныя раздзелы кнігі.

Чытачы, якія раней не вельмі паглыбляліся ў біяграфію паэта, знойдуць у кнізе безліч іншых цікавостак: пра спадчыну ад ксяндза Валяр'яна Дзюрдзевіча, якую паэт так і не атрымаў, пра сваяцтва (але не крэўнае) Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча з Аляксандрам Пушкіным, пра выбітнага пляменніка нашага паэта — Станіслава Парчэўскага, які выратаваў Адама Міцкевіча і Эдварда Адынца ад смерці, пра праўнучку беларускага класіка Беату-Хрысціну Марцінкевіч, якая насамрэч аказалася яго далёкай пляменніцай...

Шмат увагі надаецца Вінцэнту Дуніну-Марцінкевічу як фальсіфікатару шматлікіх дакументаў аб шляхецкім паходжанні, аднаму з удзельнікаў «сіндыката падробак». У лістападзе 1835 года ён патрапіў у Мінскі турэмны замак праз паказанні аднаго з галоўных фальсіфікатараў Марціна Чапкоўскага — і каля тыдня знаходзіўся за кратамі. 16 верасня 1844 года мінскі губернатар атрымаў данос ад селяніна Юзафа Душкевіча пра тое, што Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч вырабляе «падложныя» дакументы. Але ў час «экстраннагаператрусу» нічога знойдзена не было.

Ёсць падставы меркаваць, што паэт неаднойчы парушаў закон. Падрабляў дакументы, патрэбныя як доказы шляхецтва. Дрозд нават плануе выдаць кнігу «Падроблена Марцінкевічам». Але ва ўсіх дакументах Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч тлумачыў свае ўчынкі паводле прэзумпцыі невінаватасці: ён дабранадзейны чалавек, які ніколі нічога нядобрага не рабіў і нават не дапускаў у думках, і раптам праз хлусню і паклёпы зацікавіў праваахоўныя органы. Такім чынам, пасля затрыманняў і арыштаў паэт штораз выходзіў сухім з вады, хаця і заставаўся на падазрэнні. Можна меркаваць, што Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч быў добрым хітруном, але трэба мець на ўвазе, што жыхары нядаўняй Рэчы Паспалітай не вельмі паважалі царскую ўладу, пра што яскрава сведчаць нацыянальна-вызваленчыя паўстанні. Нават у статусе чыноўніка Расійскай імперыі Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, магчыма, не бачыў праблемы ў тым, каб зарабіць на абмежаванасці ці неабачлівасці расійскіх калег. Яго дачка Каміла была больш прынцыповая і катэгарычная, але Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч дакладна не шукаў праблем на сваю галаву.

Знаходзяцца і іншыя дакументы, якія сведчаць, што Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч быў далёка не ўзорам дабрачыннасці. Цікавая, напрыклад, гісторыя пра «званы на спачын душы», якія замовілі паэту за нявернутую пазыку. Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч нават сустрэў людзей, якія неслі яму саван і пахавальныя падсвечнікі. Пасля гэтага здарэння Станіслаў Манюшка ў лісце да жонкі атэставаў творцу як «не да канца сумленнага чалавека» і параіў больш да яго не пісаць.

Безумоўна, наш паэт быў асобай каларытнай, супярэчлівай, і названая кніга дазваляе больш даведацца пра яго жыццёвыя перыпетыі (галоўная з якіх — шлюб з Юзэфай Бараноўскай), удакладніць лад мыслення і сацыяльныя погляды. Да таго ж, кніга Змітра Дразда — гэта кніга пра Мінск Дуніна-Марцінкевіча, бо паміж Панюшкавічамі і Люцынкай неяк губляецца тое, што ў Мінску спадар Вінцэнт правёў нямала часу, і, як прынята пісаць, мінскія вуліцы добра памятаюць крокі паэта.

Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч працаваў у Мінскім губернскім межавым судзе і ў Рымска-каталіцкай духоўнай кансісторыі, у 1835 годзе ён стаў сведкам пажару, якія нярэдка здараліся ў горадзе; у Бернардынскім манастыры (цяпер — Свята-Духавым Кафедральным саборы) маладая жонка паэта каля трох тыдняў знаходзілася пад наглядам пасля «падпольнага» шлюбу; недзе ў Мінску была канспіратыўная кватэра Камілы Марцінкевіч — і тут яна выліла начны гаршчок на галаву мінскаму губернатару... Гэты пералік можна доўжыць, і калі найцікавейшая экскурсія па Мінск часоў Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча яшчэ не прапануецца турыстам, то ў бліжэйшы час яна дакладна мае з'явіцца.

Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч і яго сваякі — адметныя героі сваёй эпохі, таму кніга Змітра Дразда прывабіць самых розных чытачоў. Як адзначае аўтар, беларусам XXI стагоддзя нецікавыя адназначныя «забранзавелыя» асобы: «Дунін-Марцінкевіч быў нашмат цікавейшым, шматграннейшым, і яго партрэт цалкам немагчыма маляваць толькі белай фарбай. Ён жыў у складаны час, у якім умудрыўся не толькі пражыць вялікае і насычанае жыццё, але і пакінуць нам багатую спадчыну».

**Алеся Лапіцкая**

# Верыць свайму густу, ісці сваёй дарогаю

**Андрэй Федарэнка — з кагорты маіх найлюбімых творцаў.**



Усё ягонае (апавяданні і аповесці, эсэ і раманы, «сечку», а таксама годныя і дасціпныя адказы на пытанні тых сумоўцаў, што ладзяць з ім гутаркі) чытаць прыемна і карысна.

У адной з гутарак Андрэй Федарэнка сказаў: «Калі ўжо выбраў сваёй дзейнасцю літаратуру — стаў перад сабой самыя высокія мэты». Сказаць так мог толькі адметны пісьменнік. Ён такім, дарэчы, і стаўся, на той час ужо аўтар цэлага шэрагу яскравых аповесцяў: «Вёска» (1995), «Цугцванг» (1998), «Шчарбаты талер» (1999), «Нічые» (2001), «Афганская шкатулка» (2002). А да гэтага, у свае трыццаць, падараваў свету другую па ліку кнігу «Смута», наклад якой склаў 6000 асобнікаў.

Яна выйшла ў свет у 1994 годзе. Неўзабаве была ўганаравана Літаратурнаю прэміяй імя Івана Мележа. Я, калі прачытаў кнігу, зразумеў: у беларускую нацыянальную літаратуру прыйшоў талент ад Бога. Шмат што перачытваў і радаваўся. Ды і дагэтуль перачытваю. Асабліва моцнае і незабыўнае ўражанне займеў ад апавядання «Пеля». Ёсць такое шыкоўнае ў нашай мове слова — неруш. Вось майстар слова і паказаў чытачам неруш




роднае старонкі. Хай сабе камусьці апавяданне «Пеля» падаецца звычайным. На першы погляд яно такім і выглядае, у ім не адбываюцца маштабныя падзеі, няма варагуючых бакоў, цяжкіх характараў, нейкіх канфліктаў. І фабула нескладаная: хлопец, лепш сказаць — лірычны герой (гаворка ідзе ад першай асобы) пасля сесіі за першы курс інстытута «праз некалькі дзён павінен быў ехаць у сельгасатрад, у Крым, а пакуль сядзеў у сваёй вёсцы і нудзіўся»... І толькі калі надышоў дзень ад'езду (цягнік спыняўся на пару хвілінаў на станцыі ля самай вёскі), хлопцу зрабілася неяк настальгічна, сумна. Закарцела прайсціся па знаёмых мясцінах, а калі ўдасца, то і палавіць рыбкі. Часу хапіла б сабрацца, яшчэ і пачытаць да пачатку цягніка. Але так не атрымалася. Балота, з яго карасямі, небяспечнымі мясцінамі, туманам, які насунуўся знянацку і надоўга, не адпусціла студэнта амаль да раніцы... І цягнік на Сімферопаль пайшоў без яго. А пасля выявілася, што ў Крыме аўтобус, у якім на другі дзень па прыездзе адправіліся аднакурснікі на вінаграднік, урэзаўся ў скалу...

Тут я ўжыву такую ўмоўнасць. У нас, у Беларусі, надта малая доля народа сярод насельніцтва. Народа, якому баліць душа за родную мову, культуру, за школу, страшна абруселую. Сярод насельніцтва, якому галоўнае — была б спажыва страўніку. Дык вось чытач-прадстаўнік насельніцтва можа проста ігнараваць беларускі твор, а тым болей — з такім незацяганым найменнем «Пеля». Зразумела, для самабытнага празаіка гэта не страта, што засведчылі яго развагі і пра «Смуту», і пра кнігу ўвогуле, і шмат пра што яшчэ ў звароце «Да магчымага чытача», асабліва — у яго заканчэнні.

Для мяне гэтае апавяданне дарагое. Усцешаны, што яно нашае, беларускае. Жыццёвае, праўдзівае (хай сабе аўтар кажа «выдумалася» за дзве гадзіны, гэта тым больш уражвае). У жыцці якраз такое здараецца: плануеш адно — атрымліваеш іншае, непрадказальнае. Яно і аптымістычнае: малады чалавек ацалеў паміж смяротнымі пагрозамі.

Федарэнкаўскае балота, ніколечкі не падобнае да мележаўскага, паціху высыхае. Але засталася пеля. Хлопец дабраўся да вады і зразумеў: «напароўся на неруш, дзе, можа, некалькі гадоў ніхто не рыбаліў. Карасі амаль не супраціўляліся». Аднак жа азарт ледзь не пагубіў яго: з купіны на ягоны астравок перапаўзала вялізная гадзюка. Выратавала, як ні дзіўна, міжвольнае глупства: ён тупнуў, і край астраўка, які і так ледзь ліпеў, у адзін міг адламаўся, і ён «наўзнач боўтнуўся ў чорную халодную прорву». Мокрымі пальцамі хапіўся за пук травы, за мяккі бераг, які адрываўся, бы гліна, але намацаўся і корань, па якім выкарабкаўся на свой корч. На юнаку вісела жабурынне, карэньчыкі, камякі гразі, з парэзаных пальцаў цякла кроў. А тут — новыя выпрабаванні, звязаныя з густым сівым туманам, які ўладна насунуўся на балота. «Толькі пад нагамі нешта можна было яшчэ разглядзець. Дарыбачыўся!..» Хлопец схапіў сетку з уловам — кілаграмаў восем — і злосна, рашуча ступіў на свой след, ды ізноў шахнуў па самыя пахі. Пад рукамі захадзіла ўжо знаёмая мяккая кашка... Словам, цэлы каскад прыгодаў паднесла роднае балота.

Апавяданне «Бляха» ў «Смуце» знаходзіцца як бы на супрацьлеглым полюсе ў параўнанні з «Пеляй», яны — палярныя. Толькі адно з іх — пра «вязучага» чалавека. Бляха — чалавек няшчасны. Ён быў рахманы, бяскрыўдлівы, за чарку ішоў на любую работу, але ў вёсцы яго здавён не любілі і асцерагаліся: п'яніца і злодзей. Жыў без бацькі, маці не слухаўся. Вучыўся абы-як. Скраў мапед і адсядзеў за гэта паўтара года. Пакуль сядзеў, маці памерла. «Толькі пасля Чарнобыля Бляха пазнаў, што і ён чалавек». Нямоглыя старыя, што засталіся на «зоне», клічуць, калі трэба забіць кабанчыка. Нават не па мянушцы называюць — успамінаюць сапраўднае імя. І пляшку ставяць. Аднак тут усё меней застаецца жывых ахвяраў чарнобыльскага ліхалецця: дзейнічае закон адсялення. Далей пісьменнік з уласцівым яму гранічна разняволеным пачуццём праўды разгортвае жахлівыя падзеі. Эйфарыя волі былога «цюрэмшчыка» нядоўгавечная, бо жменьцы людзей, што засталіся дажываць у небяспечнай зоне, не даюць спакою рабаўнікі. Асабліва ім пахне свежына. Далей у апавяданні адбываецца трагедыя; Андрэй Федарэнка паказвае сваіх герояў у экстрэмальных умовах, учынкі іх цяжка прадказаць нават да фабульнай развязкі.

...Завіруха, сцюжа, завыванне вятрыска. Цёмная ноч. Не паспелі гаспадары, дзед з бабай, і Бляха, разабраўшы кабана, толкам выпіць і смажанінай закусіць, як у двары з'явіліся здзічэлыя сабакі і злодзей. Няпрошаны госць пралазіць у калідор, забірае сцягно, рэбры, сала. Але ўсё невераготна хутка мяняецца. Вось ужо злодзей з енкам пра дапамогу стукаецца ў хату да старых, ім жа толькі што абрабаваных. На яго напалі гайня сабак — «на ім не было жывога месца». Бляха, які спачатку яго ўдарыў, пашкадаваў, што стукнуў хлопца (калі зразумеў, што ён самлеў), і захваляваўся: «Шкода ж, бляха, падлу маладую...»

Колішняга зняволенага пагубіла яго спагадлівае сэрца. Ён акунаецца ў халодны змрок, бяжыць па фельчарку і, наляцеўшы з гарачкі, з разгону на чорную звяругу, што грызла нешта пад веснічкамі, гіне, разарваны сабакамі... Я не здзівіўся, што «Бляху» апублікаваў нью-ёркскі «Ікарус», які, як паведаміў аўтару ў сваім лісце перакладчык Р. Завістовіч, увогуле не друкуе неамерыканскіх пісьменнікаў і ўсяго аднойчы зрабіў выключэнне — дзеля такога факта, як распад СССР.

Цешыць тое, што ў кнізе няма слабых ці прахадных твораў, нават небыліца «Камандзіроўка» цікавая, як і кароткае апавяданне «Рэдактар». А якое натуральнае апавяданне «Начны голас»! І якое маляўнічае «Адзін летні дзень»! Яно ж і сцэнічнае, гэтак жа, як аповесць «Сінія кветкі».

Пасля «Смуты» ў Федарэнкі з'явілася «Вёска», надрукаваная ў «Полымі» (1995), вельмі сімпатычная аповесць, якую і пасля Кузьмы Чорнага, Івана Буніна ды Антона Чэхава цікава чытаць. «Антона Васкевіча выгналі з інстытута...» — такі пачатак. Адлічылі з другога курса сталічнае ВНУ. І вось ён вяртаецца дадому. Маці і старэйшы брат-гараджанін хваравіта перажываюць сумную падзею, асабліва маці. Антон гэта прадбачыў, таму ў лісце да яе быў прыдумаў, што «давядзецца ўзяць акадэмічны на паўгода ці на год». Але па вёсцы пайша пагалоска, што Антона выгналі за п'янку. Маці хоча ведаць праўду. Сын тлумачыць: выгналі за тое, што гаварыў па-беларуску...

Неўзабаве Антон уладкаваўся на працу, акрыяў душою. Ён шчыры, старанны, сціплы і разважлівы, падабаецца дзяўчатам, у тым ліку школьніцы-сямікласніцы Наташы. У аповесці вельмі ўдала раскрываюцца характары: Антона, яго маці, некаторых вяскоўцаў, шмат помных апісанняў (напрыклад, як хлопец, былы атэіст, упершыню наведвае царкву). А завяршаецца гісторыя Васкевіча, як звычайна добрая казка, аптымістычна: яго ўзнаўляюць у інстытуце...

У сваёй творчасці Андрэй Федарэнка не абышоўся без гістарычнае тэмы. Але сваёй чуйнаю душою дакрануўся ён не да сівой старажытнасці — аповесць «Нічые» вядзе нашых сучаснікаў да трагічных для Беларусі падзеяў позняй восені 1920 года. Пра Слуцкую брыгаду, яе збройны чын, пра тое, што адбывалася цягам некалькіх дзён лістапада 1920 года ў Слуцку, Семежаве, іншых мясцінах Случчыны, пра лакальныя сутычкі беларускіх патрыётаў з чырвонымі, драматычныя лёсы неардынарных асобаў, а заадно і пра лакеяў рэжыму падаўлення распавядае пісьменнік у «Нічых».

Да не менш балючай тэмы дакрануўся Федарэнка ў «Афганскай шкатулцы». Праўдзівы мастак не мог не адлюстраваць вялікай бяды, што прынесла многім нашым армейцам і іх сем'ям афганская бойня, у якую ўцягнула нашыя войскі тадышняя Масква. Падзеі, што адбываюцца ў аповесці, звязаныя з афганскаю шкатулкай, перапраўленай некалі на тэрыторыю Беларусі і надзейна прыхаванаю. Важную ролю адыгрываюць падлеткі; яны высочваюць злачынцаў і дапамагаюць следчым вызваліць з-пад турэмнага арышту галоўнага героя аповесці Барыса Крушынскага, які, у сваю чаргу, дзякуючы каштоўнасцям з чужой краіны, ратуе дзяўчынку, што апынулася ў бядзе, галечы і адчаі. Тут, як і звычайна ў творах Федарэнкі, дзейнічае гуманістычны складнік, таму спагада і дапамога людзям, якія ў бядзе, — якасць, дамінуючая ў характарах розных персанажаў аповесці.

У «Афганскай шкатулцы» ёсць і такі незвычайны твор — «Цугцванг». Такім словам нямецкага паходжання прынята называць становішча ў шахматнай партыі, калі аднаму з гульцоў невыгодна рабіць ход, бо ён вядзе да паражэння. Андрэй Федарэнка — выдатны шахматыст. Дзякуючы яму ў беларускай літаратуры з'явілася гэтая кароткая аповесць, дзе скарыстаны не толькі шахматны тэрмін, а і правілы гульні, больш за тое: задача-двуххадоўка, складзеная адным шахматыстам, дае разгадку другому, дзе схаваны залаты скарб. Праўда, разгадка прыпазнілася, і скарб дастаўся выпадковым людзям.

Федарэнка «дагадзіў» школьнікам і прыгодніцкай аповесцю «Шчарбаты талер». Ён прыдумаў прыгодніцкую гісторыю пра тое, як дзеці захопленыя пошукам скарбу, схаванага французскім афіцэрам у 1812 годзе. І галоўная інтрыга ў тым, што французскі вайсковец выбраў для шыфроўкі скарбу незнаёмую яму беларускую мову. «Гэта мо сотая мая спроба тым ці іншым чынам калі і не зацікавіць беларуса роднай мовай, дык хоць прымусіць звярнуць на яе больш пільную ўвагу», — сказаў пісьменнік у дыялогу з Вольгай Барабаншчыкавай. Зацікавіць свядомых беларускіх чытачоў ён умее не толькі вострымі сюжэтамі і надзённымі праблемамі, ён яшчэ заахвочвае падлеткаў да беларускасці. На старонках прозы Федарэнкі беларускае ўсё: і героі, і прырода, і мясціны, дзе разгортваюцца падзеі.

Як вядома, паводле гэтай аповесці зняты чатырохсерыйны фільм «Тры талеры». Я так парадаваўся, што родная кінастудыя заўважыла цікавы прыгодніцкі твор! (У фільме, між іншым, займеў ролю і мой унук Алесь!). А пасля засмуціўся, бо даведаўся, што аўтар займальнай аповесці і сцэнара «Трох талераў» ні капеечкі аўтарскага ганарару не атрымаў. Думаю, яго падвяла даверлівасць. Мабыць, падпісаў дамову не чытаючы: не думаў, што так лёгка дзяржаўныя чыноўнікі яго ашукаюць...

Напрыканцы 2018 года выйшла новая кніга Андрэя Федарэнкі «Сузіральнік», папоўніўшы бібліятэчку часопіса «Дзеяслоў» (выпуск 25). Сюды ўвайшлі аповесці «Ксю» і «Сузіральнік», апавяданні «Сахалінка» і «Шчасце», эсэ «Манголія» і «Пташнікаў». Уся проза дасканалая. Ды пра яе — гаворка асобная...

Першы раз у жыцці выказваю шкадаванне, што я не крытык. Калі б крытыка была маёй стыхіяй, я паказаў бы ўсю красу і сілу прозы Андрэя Федарэнкі, яго бліскучае майстэрства, кампазіцыйную вытанчанасць, разняволеную раскошу яго мовы, тое, як пісьменнік удала сумяшчае сваё моўнае багацце з народнымі залацінкамі, чысціню літаратурнае мовы з размаітасцю палескага дыялекту, элементамі трасянкі, і тое, які ён памяткі, як ведае класікаў, і што думае пра неасцярожнае абыходжанне са словам і пра кашчунны гумар... Словам, я распавёў бы пра высокадухоўную асобу творцы, які, дзякуй Богу, верыць свайму густу ды ідзе сваёй дарогаю.

**Васіль Жуковіч**



Сяргей ПАНІЗЬНІК

# Жыцця кругі



## Стваральнікі Памяці

*Паэты сардэчныя*
*жывуць без гарантыі, —*
*але — невылечныя,*
*але — не парадныя.*

*Змушалі кармушкамі*
*ісці ў гладыятары…*
*Паэты не гушкалкі —*
*кіпучыя кратэры.*

*Смуродныя сталіны*
*мясілі сякерамі.*
*Адметныя таленты*
*знішчалі з паперамі…*

*Паэты не нулікі.*
*На трон не нахільныя.*
*…Глядзім на іх воблікі*
*ужо надмагільныя, —*

*са славаю свечнаю,*
*судзьбінаю грознаю:*
*гараць словы вечныя*
*любоўю запознаю.*

* * *

*А мы не на паперці, —*
*паэты бяседныя.*
*Ахоўнікі Памяці —*
*у ёй і аседлыя.*

*Мы — Нацыі лечыва.*
*І рыфмай зыбучаю*
*калышам спрадвечную*
*Айчыну пявучую…*

**25.10.2017**

## Водсвет, які сэрца гоіць

***Берагу майго зарніцы,***
***водсьвет ваш мне сэрца гоіць,***
***не дае стаць чужаніцай***
***у змаганьні за сьвятое.***

***(Эпіграф Янкі Запрудніка да кнігі пра служэнне Беларусі — «Берагу майго зарніцы», 2017.)***

*1.*
*Стромкіх думаў берагі*
*і узнёсласці зарніцы!*
*Вашым водсветам гаіцца*
*будзе век мой дарагі.*

*2.*
*У змаганні — сэрца-крыца:*
*знікне хмара-чужаніца*
*за нажытыя лугі.*

*3.*
*Там хачу зноў паmаліцца,*
*дзе быў лёс укараніцца*
*з-пад вясёлкавай дугі.*

* * *

*Важкія ў жыцця кругі, —*
*ды змагу за ўсе даўгі*
*я на свята Касавіцы*
*толькі Богу*
*пакарыцца.*

**18.XI. 2017**

## Вішні цвітуць!

***Перакладчыцы-ластавачцы Даяне Лазарэвіч — вялікая падзяка за паэтычнае спараднене сербска-беларускага мацерыка.***

*Расквітнелі вішні!*
*Я цяпер не лішні*
*ў садзе маладым.*
*Бог — Стваральнік Весні —*
*ластавачцы ў песні*
*перадаў уздым.*

*А Даяна з высі*
*свае думкі-мыслі*
*мне перадала:*
*— Вось фінал супрацы!*
*— Буду й я старацца…*
*Выдаўцам — хвала!*

*Радуйся, Скарына,*
*Сербіі гасцінней:*
*зборнік — гэта ключ.*

*З вішняй у Бялградзе*
*ля Даяны ў садзе —*
*беларус-крывіч.*

**14.03.2019**

## Настырнае стырно Дзвіны

***Ад прыдзвінскіх румаў вялі стырнавыя свае плыты-ганкі да балтыйскіх берагоў. І паэты моцна трымаюцца вясла-руля на вірах паэзіі.***

*Збліжаем далягляды,*
*злучаем рытмы сэрцаў.*
*Мы вечаруем святы —*
*сустрэчы спадкаемцаў.*
*Еўропа там, дзе мы.*
*І Беларусь — Еўропа.*
*Купальскія дымы*
*плывуць да расцяроба:*
*з Каўчэгавай кармы*
*вітае нас Еўропа.*

*Праз межы і стагоддзі*
*жывое слова кліча, —*
*і свеціцца ў лагодзе*
*сяброўскае аблічча.*

*Каўчэгу не спыніцца.*
*Не будзе развітання.*
*Сам Полацак — сталіца*
*натхнёнага кахання!*
*Еўропа там, дзе мы.*
*І Беларусь — Еўропа.*

*Стырно — струна сурмы.*
*Дзвіна — вякоў аздоба!*

**2000, 2019**

## У нажытак

***Спадарыні Вользе Грыцук (Дуброўскай), суайчынніцы з г. Дзісна***

*Кляновы ліст падняў далоньку.*
*Удзячная мая рука:*
*вясёлай восені старонку*
*чытаю з першага радка.*

*Клён, як і я, натхнёны Маем, —*
*і ў лістапад мы не гуляем,*
*пра-жы-лач-ка-мі супадаем!*

*Не дзіва: зроду сваякі.*
*І наш нажытак ля ракі*
*кладзецца ў Летапіс. Радкі*
*шыфруе вечар гаваркі.*
*Іх на дабрыдзень пакідаем.*
*Зімой сябе перачытаем*
*і — у пупышцы — адпачнем.*

*Праб'ецца ліст…*
*Сцяг — утрымаем!*
*З яго і Сакавік пачнем.*

**2011**

## І здзейсніца Дзісна!

***«Мая радзіма — Дзісеншчына… І не магу зразумець тых, хто лёгка забываецца на сваю зямлю, сваю родную мову, на ўсё, што робіць чалавека чалавекам…»***
***Вольга Грыцук з дому Дуброўскіх***

*Жыла ў Дзісне з Дуброўскімі, Ластоўскімі,*
*там чула Жаўняровіча псалмы…*
*Дасюль Дзісна ні крыгамі, ні войскамі*
*не змецена: тут Адзігітрыя і мы.*

*Да Друі, да Лявонпаля, да Браслава*
*схіляюцца чупрыны курганоў.*
*І сёння ёй, Васільеўне, прыўкраснага*
*тут вельмі многа для паромаў-сноў.*

*Дарожкаўскую вуліцу з каштанамі,*
*муры, капліцу помніла дзяўчо…*
*…Пранесліся нягоды — ураганамі*
*і пад спадзеў падстаўлена плячо.*

*Каханейка пякучае не стоміцца*
*збіраць сляды дзяцінства ля Дзвіны…*

*Ёй здзейсніца Дзісна! Вярба памоліцца,*
*каб наша суайчынніца-патомніца*
*прыйшла на фэст пад родныя званы.*

**6 верасня 2013**

## На звеставанне

***Хрысціне Лялько***

*Зіма з вясною напалам —*
*Гуканне не для ўлову.*
*Атожылак вясенні! Нам*
*дапамажы маліцца Слову.*

*Сцяжына з гурбай на палях*
*падзеліць і надзею.*
*А для Кахання трэба — Шлях:*
*ідзе Любоў — я маладзею.*

*Наўкруг паменее ўдвая*
*і штурханіны ўзбочнай,*
*калі паўстанем Ты і Я*
*Вялікаднем*
*над Усяночнай.*

## У падмацунак

***З нагоды задумы Міколы Купавы на аднаўленне Аршанскага помніка***

*На віленскім барока*
*уселася сарока:*
*руінаў тут — валока,*
*на дзесяціну — друз.*
*А мы такія людзі:*
*калі дзе ёсць — не будзе!*
*Пры алтары, ў арудзе*
*знішчаем «панскі» груз.*
*Ці ж родным быў той Рурык,*
*ды нейкі хан-прыдурак?*
*Нам янычарскі турак*
*не ўсеўся на каршэнь.*
*Сваёй гадоўлі згаі*
*някропалі раскралі,*
*святыні заабралі…*
*У нас вякі — мішэнь.*
*— Падумаеш: без даху*
*той кляштар. Знялі бляху —*
*і базыльяну-ляху*
*з амвона не гудзець!..*
*— Без даху ты, уздыху,*
*начальнічак. Скінь пыху,*
*зірні на Воршу, Быхаў…*
*Дзяржава — не павець!*
*Ты ёй паслужыш? Доўга?*
*Мо зноў пазваць Міндоўга,*
*каб ён таму даў поўху,*
*хто беларус ледзь-ледзь.*
*І пасяліў у клець, —*
*хоць клеці ацалець.*

**28.04. 2013**

## І хто ў аблудзе?

***Антону Астаповічу — ахоўніку помнікаў гісторыі і культуры***

*«Свет гвалтаў, здзекаў…» да падмуркаў*
*разбураны! Каля палаца*
*стаім за лагерных прыдуркаў:*
*не ацалела продкаў праца…*
*Спаўзае вежа пад падэшвы,*
*лёг камень з могілак — пад ганак.*
*Дзядуля прашаптаў: «Ох, бэшлы,*
*атручаныя без паганак…»*

* * *

*А хто свінарнікамі цешыў*
*шчаслівых землякоў Шагала?*
*Там рошчына з калгаснай дзежы*
*дыхоцце наша абражала.*

* * *

*Цяпер мы тут — усе — ў аблудзе?*
*Няўжо хто праўдалюб, той злыдзень?*
*Мне не спадобна жыць у хлудзе,*
*Таму й крычу: — Хай сонца ўзыйдзе!*
*З падмурка выскачыць да крокваў,*
*пакажа промнікам-галінкай:*
*— Да будучыні — дваццаць крокаў.*
*І даўніна вунь — пад цаглінкай.*

**16. 07. 2013**

## З бухты Барахты

***Сяргейка, — пяць! —***
***Не ад віна***
***Табе я стаўлю бал такі.***
***Нам родная з табой Дзвіна —***
***Уся твая да Балтыкі!***

***Аўтаграф Рыгора Барадуліна на яго зборніку «Рум». Жнівень, 1974 год.***

*Я з бухты Барахты.*
*Там Гонар без вахты,*
*без ветразя шляхты*
*прапаў і Статут…*

*Чаго сёння варты Дзяржавы рэдут?*
*Мо э-лек-та-рат — неагучаны Люд:*
*Тутэйшы стаў Тамашнім?*
*Не! З бухты Барахты выскокваю Ранішнім!*

*Зноў круцяць варштаты мае дэпутаты;*
*а вунь дэмакраты ладуюць фрэгаты…*
*Са спратаў нарэшце паўстаў Беларус.*
*Пачуўшы набат, абнаўляе свой курс.*

*Руплівец, ацэньвае матрыярхаты,*
*бо ў бухце Барахты астыла стырно*
*і выхаду ў мора амаль не відно…*

*Ды не! Брыганціна, віціна і струг*
*з каўчэгам і лайбай збіраюцца ў круг.*

*Напоўніцца з бухты Барахты*
*мой трум:*
*сам бераг Дзвіны — вечнай памяці РУМ.*

**13. 03. 2019**

# Цагліна з імем Леніна



Барыс ПЯТРОВІЧ

— Над чым працуеш? — галоўны рэдактар уляцеў у кабінет імкліва, як метэор. Максім не паспеў нават схаваць кнігу, якую чытаў пад сталом на каленях. На гэтае заўсёды раптоўнае ўварванне і пытанне рэдактара ва ўсіх супрацоўнікаў быў загадзя падрыхтаваны адказ — нешта кшталту: адпісваюся за камандзіроўку, вычытваю карэктуру ці яшчэ штосьці падобнае. Рэдактар дужа не любіў паўзаў перад адказам і за дробную затрымку мог узарвацца імгненна: гульма гуляеце, інтарэсы газеты вам да задніцы, аднаму мне ўсё трэба…

У Максіма таксама на такі выпадак была падрыхтаваная адгаворка, але гэтым разам ён разгубіўся і ляпнуў тое, што лічылася жартам для сваіх, але не для рэдактара:

— Над сабой…

— Што? Як? Над сабой? — рэдактар перагнуўся і зірнуў за стол. «Капец, — падумаў Максім, — істэрыка і разборкі забяспечаныя». — А-а-а… — рэдактар усміхнуўся, — чытаеш… Таксама трэба. Развівайся. Расці!.. Але — зайдзі да мяне потым. Размова ёсць, — падміргнуў і борздзенька выбег з кабінета.

Гэта было зусім не падобна на яго. Не тое, што заскочыў у кабінет без стуку, адным махам расчыніўшы дзверы — так рабіў ён кожны раз, калі з'яўляўся ў рэдакцыі. Любіў заспець журналістаў знянацку, каб прысароміць, што марнуюць рабочы час, «адчытаць» і тым падкрэсліць сваю значнасць. Нечаканым было тое, што рэдактар не завёўся імгненна, не зароў на Максіма, не стаў ірваць і таптаць кніжку, як бывала не раз, а ледзь не па галоўцы пагладзіў: «Расці…», і запрасіў да сябе. Такога раней не было. Што б гэта магло значыць?

Максім адклаў кнігу і не ведаў, што рабіць. За такія нечаканыя наскокі ў кабінеты рэдактара называлі жыўчыкам, што ў перакладзе на рускую мову гучала б не дужа прыстойна, а па-беларуску дык нібыта і прыгожа — падкрэслівала ягоную «жывасць». Быў рэдактар невысокі, кругленькі, з добра заўважным ужо жывоцікам, і на сваіх кароткіх нагах каціўся па калідоры рэдакцыі бы калабок, раз-пораз зазіраючы ў кабінеты. З розных куткоў толькі і гучала: «Над чым працуеш? Ага…» — і голас то аддаляўся, то набліжаўся. Аж пакуль з аднаго з кабінетаў не чуўся ягоны віск: «Што? У шахматы гуляеце? У рабочы час!..» — не паспелі хлопцы прыбраць дошку са стала, загуляліся і не пачулі набліжэнне рэдактара. Усё. Рэдактарскі дзень прайшоў не дарэмна… А хлопцам увечары давядзецца лячыць нервы ў бліжэйшай кавярні-забягайлаўцы…

Гэткія раптоўныя рэйды па кабінетах у рэдактара называліся працай, бо ўвесь астатні час газету рабілі наместнікі, а ён днямі быў «у абкоме» і толькі перыядычна пазваньваў, перапытваў, як справы, казаў: «Буду», — і не прыязджаў. Гэта так называлася «ў абкоме», а дзе і з кім ён быў насамрэч, ведала ўся рэдакцыя — у журналісцкім доме адпачынку на беразе рэчкі, які лічыўся ўсіхнім, а быў выключна ягоным.

Паход да рэдактара не варта было адкладваць. Не кожны раз ён да сябе запрашае ды яшчэ з таемным падміргваннем… Але чаму рэдактар так спакойна ўспрыняў ягонае чытанне ў рабочы час? Адклаў разборку ці за гэтай ягонай абыякавасцю хаваецца нешта важнае? Максім прыкінуў, ці не адбываецца дзе нейкі высокі семінар? Не, здаецца, на апошняй планёрцы размовы пра тое не было. Што ж тады? Максім вычакаў яшчэ пару хвілінаў і пайшоў да рэдактара, як ідуць на крыж — непазбежны і немінучы.

Рэдактар і сапраўды быў у гуморы. У прыёмнай ён нешта вясёлае казаў сакратарцы Тацяне, лёгенька прыабдымаючы яе за даволі шырокую талію, чаго ніколі не рабіў, бо сакратарка была жонкаю ягонага кіроўцы. Руку не адняў нават калі зайшоў Максім. Толькі кіўнуў: праходзь — і паказаў вачыма на дзверы ў кабінет.

— Такая справа, — пачуў Максім за спіной голас рэдактара, яшчэ не паспеўшы толкам увайсці, — у маёй жонкі паслязаўтра дзень нараджэння, і яна захацела здзівіць гасцей сваім фірмовым блюдам — фаршыраванай рыбай. А цяпер, бачыш, не сезон на карпа і шчупака. У горадзе не дастаць, — прайшоўся па кабінеце ўзад-уперад так хутка, што цяжкія шторы на вокнах узняліся ўслед за ім, а потым павольна апусціліся. — Дык будзе табе асабістае заданне: адскоч у саўгас «Ленінскі», дзе рыбку вырошчваюць. З дырэктарам я ўжо дамовіўся — ён чакае. Заўтра раненька мой Валодзя заедзе па цябе — да вечара вернецеся… Ну а каб не дарэмна — вазьмі там які добры матэрыял. Каб аддзячыць і… і… ну сам разумееш… Камандзіроўку Таня выпісала — забяры.

Часы ўжо былі перабудовчыя, але жылі яшчэ зусім свежыя ўспаміны пра андропаўскую дысцыпліну. І Максім зразумеў, што пасылаючы па рыбку не аднаго шафёра, а і яго, нібыта па матэрыял, «каб аддзячыць», рэдактар на ўсялякі выпадак проста перастрахоўваецца.

Дарога ў саўгас, хоць гэта і больш за дзвесце кіламетраў з аднаго краю вобласці да другога, на дзіва амаль не сцягнулася. Адкінуўшыся ў наседжаным рэдактарам мяккім крэсле, Максім спачатку незаўважна для сябе драмануў, а калі ачуўся, ледзь не палова шляху была ўжо ззаду. Ранкам машынаў было няшмат, і Валодзя-кіроўца гнаў рэдактарскую чорную «Волгу» так, што толькі мільгалі дрэвы да вёскі. Дашнікаў ён не баяўся — машыну з абкамаўскімі нумарамі ніхто не адважыўся б спыніць. Да маладога супрацоўніка Валодзя паставіўся прыхільна, па-прыяцельску. Хоць шафёр шэфа ў рэдакцыі — гэта пасада больш значная за любога загадчыка аддзела, а то і яшчэ вышэй браць трэба. Бо ён ведае ўсе сакрэты таго, каго возіць, і не толькі.

Ехалі ў саўгас, звязаны з імем Леніна, і Валодзя пачаў са смехам распавядаць, як падчас апошняй паездкі ў Маскву сябар ягонага шэфа захацеў зацягнуць яго на экскурсію ў знакаміты маўзалей: «Ну як так: пабыць у Маскве і не пабачыць Леніна?»

— А што мне з таго Леніна? Я нарэшце без руля — на цягніку прыехаў. Мне б пачарніліць. Тым болей у сябра запасы дай божа! Ён на складзе працуе, без талонаў усё бярэ. Кажу яму — хай жонкі ідуць, а мне нецікава: што глядзець, як там фіш фаршыраваны на блюдзе ляжыць — гэта я нядаўна такое параўнанне ў адной газетцы прыбалтыйскай вычытаў. Шэф у машыне на сядзенні пакінуў. Ну і вырашыў казырнуць. Што тут па-ча-ло-ся! Як узвілася сябрава жонка — яна ідэйная, аказваецца, — як ты можаш такое казаць, я думала, ты сур'ёзны чалавек, не абы каго возіш!.. Ледзь з хаты не выгнала. Во, думаю, папаў дык папаў. І хто мяне за язык цягнуў пра той фіш плявузгаць. Ледзь супакоілі яе…

Валодзя расказваў пра сваю прыгоду і рагатаў на ўсю кабіну, ажно слёзы выступілі. Змахнуў іх правай рукой і лёгенька крутнуў руль. На хуткасці машына вільнула і выскачыла на сустрэчную, па якой якраз нёсся грузавічок. Машыны размінуліся, ледзь не чыркнуўшы адна адну. Максім уціснуўся ў крэсла, падцяўшы ногі і заплюшчыўшы вочы… Уф-ф, пранесла.

Рукі Валодзі на рулі лёгенька падрогвалі.

— І трэба ж было мне ўзгадаць пра гэты фі… Вось ужо — лепш не чапаць га… — ён нервова пахітаў галавой, — да-а-а-а… Цьфу, цьфу, цьфу…

Далей ехалі моўчкі.

Калі пакрысе прайшла дрыготка ад нядаўняга здарэння, Максім злавіў сябе на думцы, што Валодзя сёння яго ўжо двойчы здзівіў. Па-першае, не столькі сваім расповедам пра Леніна, колькі стаўленнем да яго. Па жыцці Максім больш кантактаваў з так званай інтэлігенцыяй, і падобныя адносіны да «правадыра рэвалюцыі» і ягоных «паплечнікаў» ажно да цяперашніх сярод іх не былі нечым выключным. Кухонныя размовы густа перасыпаліся анекдотамі. Але ж то інтэлігенцыя — г…но нацыі, як казаў той самы правадыр. А каб просты шафёр так ставіўся… Зрэшты, нічога ў тым незвычайнага не было. Сістэма прагніла наскрозь — гэта разумелі многія, і яна даўно ўжо не здольная абараніць саму сябе і перасадзіць па турмах усіх дысідэнствуючых ці проста тых, хто адкрыта пасмейваецца з нягеглага кіраўніцтва, асабліва пасля пяцігодкі пахаванняў, калі адзін за адным пайшлі з жыцця Брэжнеў, Андропаў, Чарненка. А таму размовы з кухняў перайшлі ўжо і ў курылкі гегемонаў — рабочых ды сялян… Максім згадаў, як у будатрадзе яшчэ пры Брэжневе яны працавалі разам з мясцовымі будаўнікамі, і сярод муляраў быў адзін, якога звалі Леанід Ільіч. Рабочыя ўвесь час жартавалі, нібыта цытуючы яго, а падразумяваючы вядома каго: «Як сказаў наш дарагі Леанід Ільіч, пара ісці на абед…» ці «Як гаворыць наш дарагі Леанід Ільіч, варта ўзяць па чарцы»… Рогат пры гэтым стаяў несусветны. І не менш за іншых смяяўся сам Леанід Ільіч. Другое, што ўразіла Максіма ў паводзінах Валодзі — ягоная раптоўная прымхлівасць пасля здарэння. Была яна падобная да апраўдання. Нібыта ягоны расповед ледзь не стаў прычынай аварыі. Але хто сказаў, што Валодзя просты шафёр? Ён зусім не просты, а шафёр шэфа. Выпадковых туды не бяруць. Нездарма ў рэдакцыі хадзілі размовы, што ён пастуквае куды трэба. Значыць, расказваў наўмысна. Правяраў маладога?.. Не, здаецца, ён гаварыў шчыра, не акцёр жа, каб так прытварацца…

Думкі Максіма перапыніў Валодзя.

— Не без прыгодаў, але даехалі, — з палёгкай уздыхнуў ён, паварочваючы на ўказальнік з назвай вёскі — цэнтральнай сядзібы саўгаса. І назва гэтая — Ленін, ніколькі не здзівіла Максіма. Не проста не здзівіла, а падалася нават больш заканамернай, чым якія-небудзь Мышкавічы пры ўездзе ў калгас імя Леніна. Вёска Ленін і саўгас «Ленінскі». Усё лагічна. А вось пасярэбраны бюст Ільіча каля канторы саўгаса ўразіў сваёй непадобнасцю да правадыра пралетарыята і нейкай нягеглай, карыкатурнай непрапарцыянасцю. Пра тое, што гэта Ленін, можна было толькі здагадвацца па адметнасцях, якія заўсёды прысутнічаюць у такіх выпадках: буйной лысіне зверху, раскосых вачах і трохкутнай бародцы знізу.

Дырэктар саўгаса, мажны, чыста паголены мужчына з густымі жорсткімі, як шчэць, кароткімі чорнымі валасамі, што складкамі ляжалі на тлустым карку, доўга прабачаўся, бо не паспеў яшчэ «падрыхтаваць мяшэчак рыбы па просьбе Пракопавіча». Але адразу ж супакоіў: да палудня ўсё абавязкова будзе. А цяпер ці не прайсці ім у сталоўку і перакусіць з дарогі. Сняданак жа. Максім адмовіўся, есці не хацелася, і ён вырашыў выкарыстаць вольны час на тое, каб папрацаваць.

— Я маю ад Пракопавіча спецзаданне — напісаць па вашай падказцы што-небудзь прыгожае з саўгаса — разумнае, добрае, вечнае… Толькі, — Максім перапыніў памкненне дырэктара загаварыць, — не райце мне перадавую даярку. Гэтыя надоі ў мяне ўжо вось дзе сядзяць, — чыркануў па горле.

— Ну дык цудоўна! Цудоўненька, — абрадаваўся дырэктар, — вы ўпершыню ў нас? Ага. Дык вам пашанцавала — будзе сенсацыйны матэрыял. Абяцаю.

Радасць дырэктара Максіму была зразумелай. Хваліцца яму, дакладна, не было чым. Што ў рыбагадоўлі, што ў жывёлагадоўлі. Паказчыкі ў ягонай гаспадарцы былі значна ніжэйшыя за сярэднія па раёну. Максім не паспеў толкам пабачыць вёску, але можна было не сумнявацца, што наўрад ці і яна была ўзорам ідэальнай сацыяльнай упарадкаванасці. Яму чамусьці прыгадалася нядаўна бачаная па тэлевізары сустрэча ў Астанкіне са знакамітым расейскім кінарэжысёрам. Той расказаў, як хацеў зняць фільм пра вёску пачатку дваццатага стагоддзя, каб была з саламянымі стрэхамі і без асфальту.




Працяг на стар. 12 (6) »

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 5 (153) | 31 траўня 2019 | № 20 (631) Новы Час

# Цагліна з імем Леніна

« Заканчэнне. Пачатак на стар. 11 (5)

Спытаў у кіраўніка аднаго ў падмаскоўных абкамаў, куды б варта яму паехаць. «Няма праблемы, — абрадаваўся сакратар, — едзьце хоць у калгас «Запаветы Ільіча», хоць у «Ленінскі шлях» ці ў «Шлях да камунізму» — і будзе вам пачатак стагоддзя без асфальту і з саламянымі стрэхамі...» Рэжысёр адкрыта намякаў, што семдзесят гадоў савецкай улады для вяскоўцаў пайшлі ў пясок...

Але — што там за сенсацыю абяцае дырэктар? Максім прыслухаўся.

— ...А мясціны нашыя, скажу я вам, дужа цікавыя, — казаў дырэктар. — Шкада, што ваш брат журналіст пытае звычайна пра цэнтнеры ды прывагі. І зусім ніхто не цікавіцца краязнаўствам. А нам ёсць чым пахваліцца.

— Што вы кажаце? — Максім паказаў здзіўленне на твары, ад чаго дырэктар яшчэ больш расквітнеў.

— Вось вы, я ўпэўнены, абсалютна ўпэўнены, — дырэктар падняў указальны палец і патрос ім, — думаеце, што калі наш саўгас «Ленінскі» і вёска Ленін, дык назву сваю яны маюць у гонар Леніна.

— Ну так, адназначна, — Максім кіўнуў, пагаджаючыся, бо ні на хвілю не сумняваўся ў гэтым.

— А на самой справе вёска нашая называецца Ленін ажно з шаснаццатага стагоддзя! А Леніна тады яшчэ, як вы ведаеце, і ў праекце не было... — Пасмакаваўшы здзіўленне, што застыла на тварах Максіма і Валодзі, дырэктар працягнуў: — А яшчэ ў нас ужо шмат гадоў існуе музей Леніна, адзіны такі не тое што ў вобласці, а і ў рэспубліцы. Так, так! І ніхто ніколі пра яго не пісаў... Бюст Леніна бачылі? Яго зрабіў скульптар-самавук яшчэ да вайны. Перад акупацыяй яго схавалі, закапалі, а потым знайшлі і зноў паставілі... Але што я буду вам тут лекцыі чытаць. У нас для гэтага ёсць спецыяльны чалавек — школьны настаўнік гісторыі, які і стварыў музей. Я вас зараз з ім пазнаёмлю. Зараз... — падняў тэлефонную слухаўку, набраў нумар.

— Алё, школа? А Павел Паўлавіч дзе цяпер? На ўроку? Няхай заканчвае і мігам да мяне ў кантору. Журналіст з вобласці да яго прыехаў. Ага, з вобласці. Да яго. Давай, Уладзіміраўна, скажы Паўлавічу: адна нага там, другая тут.

Паклаў слухаўку і зірнуў на Максіма з выглядам пераможцы, маўляў, сам хутка пераканаешся ва ўсім.

Павел Паўлавіч прыйшоў хвілінаў праз дзесяць. Крыху запыхаўшыся, ён стаў у парозе з немым пытаннем: выклікалі? Невысокі, хударлявы, крыху згорблены, са звычайнымі рысамі твару доўгагадовага школьнага настаўніка, стомленага працай і жыццём. Жывымі і рухавымі былі толькі вочы, у якіх чыталася зацятая ўпартасць. Пра гэта казала цяпер і ўся ягоная пастава: нібыта і нерашучы ў прысутнасці начальства, але з відавочным ганарцом чалавека, які ведае сабе кошт. Дырэктар стаяў якраз спінай да дзвярэй і яго не бачыў, адчайна жэстыкулюючы, распавядаў Валодзю і Максіму пра апошні паход на паляванне:

— ...гляджу — стаіць, прынюхваецца, і нібыта пачуў нешта ды збіраецца развярнуцца і рвануць назад. А далекавата, бля... Але куды дзявацца, я прыцэліўся і бах! — ён падскочыў, перавярнуўся ў палёце і бац на спіну, аж зямля пад нагамі маімі задрыжэла. Ну, думаю, гатоў. Падыходжу — асцярожненька — не першы ж раз на паляванні, ведаю, як бывае, звер як-ніяк. Нахіляюся над ім — кроў з раны цурачком пульсуе. Радуюся: добра пацэліў... І тут ён пераварочваецца і як скочыць, бля... Метраў на пяць убок. Сэрца маё ў пяткі, я так і сеў, як стаяў. І, не паверыце, абма...

— Кхе-кхе... — кашлянуў Павел Паўлавіч. Дырэктар азірнуўся:

— О, Паўлавіч, а мы цябе чакаем, і я тут байкі баю, пакуль ты ідзеш... — павярнуўся да Максіма: — Потым дараскажу, вось, знаёмцеся, наш герой. Даследчык, так сказаць, таго, што было і пра што мы забыліся. Як казаў Маякоўскі, капаецца ў нашым акамянелым... гм... ага... мінулым. І шмат накапаў! Шма-ат!



Фота www.gorodche.ru

**Пасля вайны, калі мястэчка нашае наперакор усяму адрадзілася, пачалі называць яго ўжо не Ленін, а на рускі манер Ле-ни-но. Ад Леніна, маўляў. І мне ніхто не верыў, што мястэчка нашае называлася Ленін яшчэ задоўга да рэвалюцыі — мне бацька мой пра тое расказваў і іншыя старыя людзі**

Максім ішоў з Паўлам Паўлавічам па мястэчку — так, гэта было мястэчка, а не вёска — і адзначаў для сябе, што гэты мітуслівы і неспакойны, трохі пакамечаны жыццём і настолькі апантаны сваёй справай і засяроджаны на сваім чалавек, што яго можна было б, не ведаючы, прыняць за, мякка кажучы, ненармальнага, карыстаецца тут вялікай павагай. Сустрэчныя прыязна ўсміхаліся яму, мужчыны ціснулі руку, жанчыны ветла ківалі і прымружваліся, а дзеці яшчэ здалёк выгуквалі сваё «Здрасце!» І бачылася, што павага гэтая не толькі таму, што ён настаўнік. Ісці ад канторы да музея было недалёка, але людзей у даволі ранні час было надзіва шмат. Мо таму, што ішлі яны па самым цэнтры мястэчка. Усю дарогу Павел Паўлавіч бесперапынна расказваў пра музей. Максім зразумеў, што мітуслівасць ягоная і задышлівая хуткагаворка цяперашняя ад таго, што хацелася як мага больш распавесці журналісту пра тое, што стала сэнсам ягонага жыцця. І за што ён доўгія гады змагаўся. Так, змагаўся.

— Якая кароткая, аказваецца, у людзей памяць! Як хутка ўсё забываецца... Вы не паверыце, колькі часу і сілаў мне давялося патраціць на тое, каб даказаць, што нашае мястэчка сваю назву атрымала не ад Уладзіміра Ільіча. А так думалі ўсе тут і асабліва начальства! Што начальства — яно пасля вайны памянялася ў нас сем разоў. Але людзі! Хоць і тут няма чаго здзіўляцца. У час вайны мястэчка было спаленае. А большасць жыхароў — у асноўным гэта былі габрэі, ляжаць цяпер у брацкай магіле. Вунь там, на ўскраіне. Калі захочаце, сходзім туды. Фашысты ў адзін дзень расстралялі, знішчылі некалькі тысяч людзей, вінаватых толькі ў тым, што яны габрэі... І пасля вайны, калі мястэчка нашае наперакор усяму адрадзілася, пачалі называць яго ўжо не Ленін, а на рускі манер Ле-ни-но. Ад Леніна, маўляў. І мне ніхто не верыў, што мястэчка нашае называлася Ленін яшчэ задоўга да рэвалюцыі — мне бацька мой пра тое расказваў і іншыя старыя людзі. І толькі калі мы са школьнікамі раскапалі адзін падмурак і знайшлі дарэвалюцыйную цагліну, на якой было выбіта прозвішча гаспадара цагельні і месца вырабу — менавіта нашае мястэчка Ленін — удалося пераканаць няверачых, і тое не ўсіх, што назва нашая звязана не з Леніным, а наадварот...

Што азначала гэтае «наадварот», Максім даведаўся ўжо ў музеі — знешне звычайнай вясковай драўлянай хаце, але без сенцаў ці веранды. Таму ўваход быў проста дзвярыма ў сцяне над невысокім ганкам. Музей увесь, усцяж, уздоўж сценаў і пасярод, быў застаўлены шафамі і паліцамі з кнігамі... Максім прыгледзеўся: кнігамі Леніна на розных мовах, і з-за гэтага іншых экспанатаў адразу і не бачна было. Тут былі тысячы — тысячы кніг. Выключна твораў Уладзіміра Ільіча. Не менш як на сотні моваў свету, а можа, і больш, дасланых у гэтае палескае мястэчка на просьбу Паўла Паўлавіча. А таксама кнігі і зборы твораў Леніна, што выдаваліся ва ўсіх рэспубліках Савецкага Саюза па некалькі разоў у розныя гады і ў такзваных краінах сацыялістычнай дэмакратыі. Вочы разбягаліся ад рабаціння вокладак і карэньчыкаў розных адценняў чырвонага колеру і разнастайных партрэтаў правадыра з в'етнамскім, карэйскім, кітайскім прышчурам, з афрыканскім шырокім носам і пухлымі вуснамі, з выцягнутым еўрапейскім тварам і паўкруглым лацінаамерыканскім...

— Вось гэта і ёсць плён маёго жыцця, — з гонарам, у якім чуліся і ноткі суму, сказаў Павел Паўлавіч. — У вёсцы Ленін павінен быць музей Леніна. Павінен хоць бы таму, што псеўданім свой ён узяў не пасля Ленскага расстрэлу ў памяць пра забітых, як пішуць у партыйных даведніках і вучылі нас ва ўніверсітэце, а значна раней. Бо на самой справе...

Тут Максіму давялося прысесці на зэдлік і выслухаць доўгую гісторыю, адкуль паходзіць назва старажытнага мястэчка Ленін і як правадыр пралетарыяту атрымаў свой псеўданім. Па тым часе, а быў толькі пачатак гарбачоўскай перабудовы, падалася яна, гэтая гісторыя, неверагоднай.

Спачатку Павел Паўлавіч распавёў пра ўласна паходжанне назвы мястэчка. Тут мелася некалькі версіяў, а дакладней легендаў і былiцаў. Першая рамантычная — была ў мясцовага пана дачка Алена (Лена), якая закахалася ў простага сялянскага хлопца прыгажуна Алеся. І ён пакахаў яе. Калі пану даклалі цівуны, што дачка таемна сустракаецца з галадранцам, ён загадаў злавіць хлопца. Расправа была жорсткай: Алеся, сведчыць легенда, кінулі ў клетку да дзікіх звяроў... Лена, калі даведалася пра згубу каханага, выбегла на круты бераг ракі, скочыла ўніз і ўтапілася. Паселішча, якое паўстала на тым месцы, пан назваў Леніным у памяць пра дачку... Другая версія — прызямленая і больш падобная да праўдзівай: з дазволу Радзівілаў мястэчка на леннай, што азначае вольнай, зямлі на беразе тады паўнаводнай ракі Случ заснаваў князь Юры Слуцкі з роду Алелькавічаў у пачатку шаснаццатага стагоддзя. Паколькі зямля была леннай, то і паселішча атрымала назву Ленін. Жылі ў ім людзі вольныя, якія займаліся гандлем і рамесніцтвам, а таму пасяліліся тут шмат габрэяў, што прыйшлі з Еўропы... Ну і трэцяя версія зусім простая: з даўніх часоў урочышча на месцы цяперашняга мястэчка называлася Ленін. Назва яго і перайшла паступова на паселішча, якое тут з'явілася і разраслося.

— Як там было насамрэч і адкуль пайшла назва — не столькі важна. Несумненна адно, і цяпер ужо не патрабуе доўгіх доказаў: пад такой назвай нашае мястэчка існавала ад шаснаццатага стагоддзя, задоўга да нараджэння Валодзі Ульянава, а не атрымала яе пасля рэвалюцыі сямнаццатага года ў гонар Леніна, як думалі некаторыя. Больш за тое, яны прыдумалі яшчэ адну легенду пра тое, як нібыта дабіваліся гэтай назвы мясцовыя бальшавікі ў васямнаццатым годзе і як ім не дазвалялі і забаранялі.

Не дзіўна, што з'явілася і такая версія. Блытаніну ўнесла тое, што за паслярэвалюцыйныя трыццаць гадоў мястэчка некалькі разоў перайменоўвалі. Спачатку палякі, да якіх гэтыя землі адышлі па Рыжскай дамове. Слова Ленін, зразумела ж, рэзала ім слых і сляпіла вочы. Яны назвалі мястэчка, дзе жыло па тым часе больш за тры тысячы чалавек, Згарэлым, а потым у гонар нейкага свайго героя — Саснковічы. У 39-м годзе Саветы вярнулі назву Ленін, а ў 41-м немцы зноў пераназвалі. А пасля вызвалення ў 44-м Ленін паступова пачаў пераўтварацца ў Ленино…

— Куды я толькі ні пісаў. І ў ЦК КПБ, і ў ЦК КПСС, каб пакінулі за намі гістарычную назву — без нейкіх канчаткаў. Ніякой рэакцыі. Мабыць, таму, што ў мяне не было ніякіх доказаў, апроч сведчанняў старажылаў, што мястэчка так называлася да рэвалюцыі, да Леніна. Нават звычайнай карты дзевятнаццатага ці васямнаццатага стагоддзя, дзе, вядома ж, нашае мястэчка пазначана як Ленін, у мяне няма. І знайсці не магу. Недзе ў архівах, у Мінску, Маскве ці Ленінградзе яны ёсць, але як патрапіць туды мне, настаўніку з вёскі? Хто мяне пусціць?

Сапраўды, сітуацыя можа падацца абсурднай: зразумела ж, калі мястэчка існавала з шаснаццатага стагоддзя і былі ў ім царква, касцёл, сінагога, прыходская школа, крамы, цагельня тая ж, дык пра існаванне яго павінна застацца шмат дакументаў. Ну няхай, само мястэчка спалілі падчас вайны немцы, але ж архівы недзе захаваліся. Калі не архівы, дык карты. Ніяк то не сакрэтныя. Што за дурасць — адмаўляць мястэчку ў існаванні напрацягу стагоддзяў і прывязваць яго да імя Леніна? У чым тут небяспека для партыйнай ідэалогіі?

Павел Паўлавіч распавядаў далей ужо не так спешна, добра пастаўленым голасам, як экскурсію праводзіў:

— Я думаю, што мяне не дапускаюць да нейкіх дакументаў — невыпадкова. Я зацікавіўся, адкуль ва Уладзіміра Ульянава ўзяўся такі нечаканы і дзіўны псеўданім, падобны да назвы нашага мястэчка? Зусім не рэвалюцыйны, здавалася б, псеўданім, а нейкі нібыта жаночы: Ленін, — Павел Паўлавіч расцягнуў апошняе слова, нібыта смакуючы на язык: Л-е-е-е-ні-і-і-н-н-н. — Чый, адразу хочацца спытаць. І адказаць — Ленін… Нейкай Лены, маўляў. Ракі ці жанчыны… Чаму не такі, як у іншых бальшавікоў? Не жорсткі — Каменеў ці Сталін, не па назве нейкай мясцовасці ці горада — Троцкі, Томскі ці Яраслаўскі… А — Ленін… Прыгожая версія, што ён узяў свой псеўданім ад сібірскай ракі Лена і як памяць пра Ленскі расстрэл, адпала сама сабой, бо час не супадае. Ленскі расстрэл быў у 1912 годзе, а псеўданім Ленін ва Ульянава ўпершыню з'явіўся ажно ў 1901 годзе. Што тычыцца нейкіх жанчын па імені Лена, што былі ва Уладзіміра Ільіча і ў іх гонар ён так назваўся, то не хачу пра тое і гаварыць. Гэта смеху варта… А насамрэч…

Насамрэч таксама ёсць некалькі версій, і яны, на думку Паўла Паўлавіча, звязаныя якраз з ягоным родным беларускім мястэчкам Ленін.

Першая такая: падчас аднаго з ад'ездаў на эміграцыю таварыш Ульянаў праязджаў па мясцінах, блізкіх да мястэчка Ленін. Назва гэтая яму спадабалася і запомнілася таму, што побач была абшчына манахаў ордэна айцоў-камуністаў. А бальшавікі, памятаеце, якраз і былі камуністамі, хоць іх і апярэдзілі з такой назвай пратэстанты-хрысціяне… Другая версія больш верагодная. Мястэчка Ленін да рэвалюцыі на 90 адсоткаў было габрэйскім. Перад ад'ездам на эміграцыю Ульянаў сустрэўся ў Вільні з багатымі ленінскімі габрэямі, якія дапамаглі яму зрабіць пашпарт на імя Мікалая… Леніна. Не доўга думалі, якое прозвішча ўпісаць — згадалі пра сваё мястэчка і вырашылі яго ўвекавечыць. Чаму скарочана Ленін, а не Ленінскі, Ленінаў ці Ленінаўскі — спытаць цяпер няма ў каго.

Спытаць няма ў каго… Гучыць гэта страшна. Рэвалюцыя і дзве вайны, асабліва другая, жахлівым молахам прайшліся па гэтых землях. І ад шматтысячнага габрэйскага насельніцтва ў былым вялікім мястэчку не засталося нікога. Нікога… Усе, хто тут жыў — будаваў, гандляваў, кахаў — цяпер ці ў брацкай магіле ці на могілках, пад старажытнымі драўлянымі помнікамі — мацэвамі. Фашысты адразу, як уварваліся сюды, стварылі гета, і ў 42-м годзе ўсіх, хто быў у ім — мужчынаў, жанчын, дзяцей, старых і малых, забілі, замучылі, растралялі, а мястэчка спалілі… І гэта асобная гісторыя, якая чакае яшчэ свайго даследчыка. Бо ў тагачасным Савецкім Саюзе тэма гета і халакосту, прынамсі, у Беларусі, усяляк замоўчвалася. Абмінуў яе ў размове з Максімам і Павел Паўлавіч.

Максім пахадзіў па музеі. Кнігі, кнігі, кнігі… Літары кірыліцы і лацініца, іерогліфы, нейкія незразумелыя, раней ніколі не бачаныя, значкі, кручкі і чарвячкі… Было ўражанне, што на свеце не засталося ніводнае мовы, на якую не было б перакладзеныя творы Леніна і якая не прысутнічала б тут. Не музей, а бібліятэка, цесна застаўленая шафамі-паліцамі з кнігамі, большасць з якіх ніхто ніколі не разгорне, а калі і разгорне, дык не пачытае. Навошта яны сабраныя тут? І што іх чакае, калі не стане таго, хто іх сабраў, хто сёння так даражыць імі, чахне над імі?

Максім абышоў музей — апроч кніг нічога больш не было. А як жа этнаграфія? Цікавыя маглі б быць якраз экспанаты з мінулага мястэчка. Тая ж цагліна. Сапраўды — а дзе яна? Павел Паўлавіч зразумеў позірк Максіма без пытання.

— Тут толькі кнігі, толькі музей Уладзіміра Ільіча. Бачыце, як шчыльна шафамі застаўлена. Нават не ўсе экспанаты і кнігі, прысвечаныя яму, удалося расставіць, раскласці. А я хацеў бы зрабіць і музей мястэчка. Этнаграфічны. Краязнаўчы. Збераглося няшмат рэчаў, але яны ёсць. Я іх захоўваю дома. Фотаздымкі, ткацтва, партызанскія дакументы. Цагліна тая ж…

— А чаму цагліна дома? Не давяраеце артэфакт Уладзіміру Ільічу? — пасля экскурсіі па музеі-бібліятэцы Максім не ўтрымаўся ад спакусы пажартаваць. Ён сказаў гэта і адразу ж зразумеў, што ляпнуў лішняе. Перад ім чалавек захоплены, аддадзены ўсім сэрцам справе жыцця, а ён іранізуе — блюзнерыць.

Павел Паўлавіч пакрыўджана пацепнуў плячыма, падціснуў вусны, але стрымаўся:

— Я ж тлумачу — цесна тут… Але, калі хочаце, я магу сёе-тое дома паказаць.

Зразумела, матэрыялу на някепскую публікацыю ўжо было: жывы, маўляў, у вёсцы Ленін энтузіяст, які збірае кнігі Леніна, выдадзеныя па ўсім свеце. Але варта было б разбавіць тэкст гісторыяй мястэчка, можа, і фотаздымкамі цікавымі з мінулага, якія Павел Паўлавіч знайшоў, прозвішчамі ды імёнамі…

І Максім пагадзіўся пайсці да Паўла Паўлавіча дамоў.

Жонка Паўла Паўлавіча сустрэла іх няласкава. «Як няродных», — міжволі падумалася Максіму. Нешта буркнула сабе пад нос, убачыўшы мужа і незнаёмца, што заходзяць у хату, не прывіталася нават, а адвярнулася, нібыта занятая нейкай сваёй справай. Максіма гэта трохі здзівіла, бо, здаецца, дырэктар казаў, што жонка ў Паўла Паўлавіча настаўніца. Яе ж стаўленне было тыповым для простых вясковых ды і гарадскіх жанчын, якое ён не раз бачыў. Так непрывітліва выказвалася звычайна незадавальненне мужам, які прывёў у хату чужога чалавека. Наўмысна прывёў, каб была прычына выпіць. Цяпер частуй яго, стол накрывай… Потым слухай бязглуздыя размовы да ночы. П'яных беларускія жанчыны не любяць. Максім гэта не ўлічыў, і цяпер пашкадаваў, што пагадзіўся ісці да Паўла Паўлавіча.

Сам Павел Паўлавіч ніяк не зрэагаваў на паводзіны жонкі, бачком-бачком моўчкі правёў госця праз вітальню ў суседні пакой. Максім зайшоў за ім, ціхенька прытуліў дзверы, але яны з лёгкім скрыпам прыадчыніліся. «Ну і няхай», — падумаў ён і не стаў зачыняць. У пакоі, які, відаць, быў Паўлу Паўлавічу кабінетам, пасярод, а не каля сцяны ці вакна, стаяў круглы стол, завалены кнігамі і паперамі. Яны селі на два крэслы ля яго, прычым Максім тварам да дзвярэй, а Павел Паўлавіч — спінай. Праз прыадчыненыя дзверы Максіму была відаць пабеленая печ, край жоўтых шпалераў на сцяне і сінія ўваходныя дзверы. Жанчыну ён не бачыў — яна, пэўна, прысела ў тым пакоі за кухонны стол ля вакна. Кабінет Паўла Паўлавіча ўвесь быў завалены рэчамі — у шафе, на шафе, пад шафай, на падваконні, на крэслах, на падлозе, — яны ляжалі і віселі паўсюль, і больш нагадваў музей, чым сам музей. Чаго тут толькі не было!.. Але — першай справай, як і абяцаў па дарозе, Павел Паўлавіч дастаў з шуфлядкі загорнутую ў цэлафан тую самую знакамітую цагліну — пашчарбачаную з усіх бакоў, як абгрызеную пацукамі. Рукі Паўла Паўлавіча дрыжэлі ад хвалявання, калі ён перадаваў Максіму гэты бясцэнны скарб — адзіны доказ таго, што паселішча Ленін існавала і да рэвалюцыі пад такой назвай, нямую сведку мінулага жыцця Леніна да Леніна. На адным з кантаў цагліны было выразна выцеснена: «О. С. Агарковъ. Ленинъ. Минск. губ.».

Цяпер, амаль праз дзесяць гадоў пасля тых падзеяў, калі пішуцца гэтыя радкі, калі няма СССР і пра Леніна шмат напісана як пра аднаго з катаў-кіраўнікоў бальшавіцкай дзяржавы, які прыдумаў канцэнтрацыйныя лагеры, па загадзе якога высланыя і знішчаныя тысячы і тысячы дзеячаў культуры, навукоўцаў, святароў, калі ён перастаў быць вялікім правадыром, імя якога, біяграфія і ўчынкі болей не аберагаюцца ўсяляк і не прыхарошваюцца, а для даследчыкаў адчыніліся архівы, можа падацца дзіўным, што менавіта гэтая цагліна, а не нейкія дакументы ці мапы, стала пацвярджэннем існавання мястэчка Ленін доўгія стагоддзі да той самай рэвалюцыі, якая перавярнула калі не свет, дык Расійскую імперыю. І незразумела, навошта было забараняць згадкі пра мінулае паселішча Ленін і ўслед за белапалякамі ды гітлераўцамі звязваць ягоную назву з Ульянавым-Леніным? Няўжо і сапраўды толькі таму, што псеўданім свой Ленін узяў ад назвы гэтага палескага мястэчка?..

Максім паважна разглядаў цагліну — цяжкую, трохі большых памераў, чым звычайна, і… ледзь не ўпусціў яе на падлогу і не разбіў на дробныя кавалкі, калі раптам расчыніліся ўваходныя дзверы і ў хату зайшоў… чорт не чорт, снежны чалавек не снежны чалавек… а нейкі дзіўны, абраслы неахайнай барадой па самую шапку мужчына. У старым, аблезлым, парэпаным кажуху і трусінай зімовай шапцы з апушчанымі вушамі (хоць на вуліцы не сказаць, каб было холадна), у вялізных, не па памеры, чорных гумовых ботах, заплямленых карычневым гноем. Разам з ім увайшоў у хату і разбегся па пакоях пах фермы, скіслага малака, дзярма, перагару і застарэлага мужчынскага поту… ад чаго Максіму адразу захацелася калі не сысці адсюль, дык хоць бы зачыніць дзверы. Мужчына між тым спакойна і па-гаспадарку паставіў у кут каля печы вілы, з якімі ўвайшоў у хату, і пачаў распранацца. Максім у другі раз ледзь не ўпусціў цагліну, калі пачуў радасны, поўны пяшчоты, голас жонкі Паўла Паўлавіча: «Пеця! Ну, нарэшце! Галодны? Ну сядай за стол…» Мужчына праз адчыненыя дзверы паглядзеў спадылба на Максіма — працягла, цяжка, і Максіму стала трохі страшнавата. Вілы ў хату ніхто ніколі з працы не браў на ягонай памяці — пакідалі на вуліцы. Навошта ён іх прынёс? І погляд — погляд у чалавека быў нейкі мутны-мутны, як у раззлаванага, шалёнага быка: ён відавочна таксама быў незадаволены тым, што ўбачыў у хаце чужога чалавека.

Жонка Паўла Паўлавіча ўжо мітусілася, інакш і не скажаш, каля печы. Адкінула засланку, дастала чыгунок, і да Максіма, перабіваючы пах мужчыны, паплыў густы, сытны дух баршчу… Міжволі рот напоўніўся слінай, Максім згадаў, што сёння зусім нічога не еў, і пашкадаваў, што адмовіўся ад прапановы дырэктара саўгаса паснедаць.

Між тым Павел Паўлавіч знешне нібыта ніяк не зрэагаваў на з'яўленне Пеці і працягваў распавядаць нешта сваё. Максім вярнуўся вачыма ў кабінет і прыслухаўся.

— …трымаюць мяне тут ледзь не за ідыёта. Добра, што хоць у псіхбальніцу, у Навабеліцу, дагэтуль не адправілі. Але я дакажу, усім дакажу, даб'юся свайго, чаго б гэта мне ні каштавала: мястэчка Ленін з шаснаццатага стагоддзя існуе пад такой назвай. З шаснаццатага стагоддзя! А не з сямнаццатага года… І ніхто, ніколі, ні пад якую палітыку яго не будзе перайменоўваць!

Толькі цяпер Максім заўважыў, што прыход мужчыны, хоць і сядзеў Павел Паўлавіч спінай да дзвярэй, узрушыў яго і моцна паўплываў на настрой: стаў ён яшчэ больш стомленым і прыбітым, згорбленым і ўнураным у сябе і разам з тым — агрэсіўным, нават злым. Мажліва, сорамна яму было за жонку, якая так холадна сустрэла іх і з такой радасцю кінулася да «пахкага» мужчыны. «Кім ён можа быць ёй? — падумаў Максім. — Сын? Не, мусіць, стараваты будзе для сына. Брат? Можа быць, брат. Дакладна брат. Каго ж яшчэ можна так сустракаць…». А ў суседнім пакоі жонка Паўла Паўлавіча весела шчабятала каля мужчыны, і чутно было, як лілася вадкасць. Булькала, як з пляшкі — значыць, налівала чарку гарэлкі. У адказ на клапатлівую мітуслю каля яго, мужчына нешта буркатаў незразумелае, неразборлівае, няўцямнае, але звярына-ласкавае.

Максім зразумеў, што трэба развітвацца. Матэрыялу на артыкул пра цікавага чалавека і не менш цікавае мястэчка, у нечым і сапраўды сенсацыйнага матэрыялу, — меў рацыю дырэктар, — хапала. Да таго ж вясновы дзень яшчэ не такі і доўгі, а хацелася прыехаць дамоў да цемры.

У канторы Максіма ўжо чакалі дырэктар і Валодзя. Па іх змоўніцка-радасных тварах Максім зразумеў, што мяшок з рыбай, і магчыма не адзін, ужо ляжаў у багажніку «Волгі».

— Дзе гэта ты затрымаўся? — спытаў дырэктар. Ён перайшоў ужо на «ты» да Максіма, а гэта тым болей азначала, што ўсё ў парадку. — Тут жа да музея два крокі.

— Хадзіў глядзець знакамітую цагліну дахаты Паўла Паўлавіча.

— Зразумела… — хмыкнуў дырэктар. — Значыць, бачыў.

— Бачыў. Звычайная цагліна. Толькі з…

— Ды я не пра тое, — перабіў яго дырэктар.

— А пра што?

— Я пра хахаля яго жонкі… Прыняла яна аднаго нашага мужыка. Дурнаватага, двух слоў звязаць не можа. Вучань яе, але школу так і не скончыў. Гаварыць нават толкам не навучыўся. На ферме цялят дагледае… Жыве яна з ім. А ад Паўла Паўлавіча адмовілася. Мусіць, з-за яго любові да Леніна, ха-ха-ха… — дырэктар падміргнуў, каб зразумелі намёк. — Так і жывуць утрох у адной хаце. Я ўжо нават і не ведаю, у каго з іх большыя праблемы з галавой…

***P.S.** Артыкул пра мястэчка Ленін, музей Леніна і краязнаўцу-энтузіяста ў газеце так і не быў надрукаваны… Перабудова толькі набірала ход, і Ленін у правінцыі яшчэ заставаўся жывейшым за жывых, а таму не мог ён, ніяк не мог узяць сабе псеўданім з назвы нейкага беларускага мястэчка, хоць сведкай таму і была цагліна.*

# У вянок памяці Наталі Санько

## Тая, што наталяе

Валянціна АКСАК

*Памяці Наталі Санько*

*Ці згодная ты штодня галадаць з маім*
*сынам?*
*Так.*
*Ці гатовая ты ў бесхацімцах пражыць з маім*
*сынам?*
*Так.*
*Ці здольная ты дзень і ноч працаваць з маім*
*сынам?*
*Так.*
*Ці адважная ты на вечную ссылку ў Сібір*
*з маім*
*сынам?*
*Так.*
*То бласлаўляю ваш шлюб,*
*чароўная, моцная, мудрая, верная*
*Дзева Наталя.*
*Наталі майго сына*
*каханнем і клопатам,*
*сэрцам, душой*
*і свабодай.*
*Наталіла*
*Наталя.*

**14.04.2019**



**Наталя Санько ў традыцыйным строі з сынам Кастусём. 6 кастрычніка 1979 г.**
Фота Яўгена Куліка

## Палёт галубкі

Зянон

*Зьмітру і Наталі Санько*

*Раніца ў садочку,*
*Вішанька цвіцее,*
*Куст язміну пад ваконцам,*
*Зора палавее.*

*Тут я маладзенькі*
*Кветачкі зрываю.*
*А дзе ж мая любка,*
*Спакою не маю.*

*Прыляцела зязюлька*
*З далёкага лесу:*
*Ку-ку, ку-ку, мой хлапчынка,*
*Кукуе балесна.*

*Твая галубе́нька*
*Адляцела ў вырай,*
*Скіне пёркі з небашатаў,*
*Туманом пакрые.*

*Не кувай, мая зязюлька,*
*Не кувай мне ў сэрца,*
*Мне йшчэ трэба ў свеце жыці,*
*Дзе я спадкаберца.*

*Цвіце вішня ў садочку,*
*Палавее зора,*
*Туман гору адлятае,*
*Туманы над полем.*

**21.04.2019**

## Каля ружоўніка, на Мацерыку

Сяргей ПАНІЗЬНІК

*Пад зоркай Наталі Санько*

*Дзялкі дзялілі з веку ў век*
*прысады нашы на акрайцы.*
*Душылі душы. Неслі здзек*
*і «верноподданные» здрайцы.*
*Дзяльба — разброды і пасьба*
*з касьбою наўсутыч, не поруч.*
*Ратуе жальбу не мальба,*
*а ўпартае надзеі горыч:*
*спаўзе ахвота скавытаць, —*
*бо той, хто праўду-матку лае,*
*не зможа — вольным — узлятаць:*
*бяскрыласьць — гэта доля злая.*
*Стаць на Вялікдзень мацаком, —*
*зайздроснай хцівасці не ўкленчыць!*
*Ля Курапатаў ланцугом*
*звяр'ё крыжы пакут нявечыць...*
*Сябры! На ўздым: адолець злосць,*
*бо без адзінства жыць — калецтва.*
*І для прабудкі чынавенства*
*агудка: — Беларусь не млосць!*
*Мы — Нацыя:*
*Скарб Чалавецтва!*

**13.04.2019**



**У гасцёх у Ніла Гілевіча. 8 жніўня 2006 г. Злева спадар Зьміцер і спадарыня Наталя**

## Незавершаны верш

Алесь РАЗАНАЎ

*У вянок Наталі Санько*

*Дзень дадаецца ў знак.*
*І змога ў снах высноваў*
*сціскаецца ў кулак,*
*каб некалі, нанова,*

*калі на ра́ду дні,*
*відушчыя, збяруцца,*
*ў аднойдзіну радні*
*вяснова разгарнуцца.*

*Што ёсць — кладзе свае*
*пазнакі падрахунак.*
*А кветка дастае*
*з самой сябе дарунак.*

*Прадвесце на дварэ.*
*Пакліканае кімсьці.*
*Што дасць час — забярэ.*
*Знайсціся мусіць выйсце.*

*Адсюль, дзе лічаць нас*
*хвіліны, важаць вагі,*
*вядуць у пазачас*
*відушчыя працягі.*

*Рой рупіцца ў вуллі,*
*і раіць плён усклікам,*
*каб вынік увялі*
*ў змест іншага адліку.*

*Спрадвечны запавет*
*аберажэ і ўздыме:*
*глядзіць у кветку свет,*
*і дома гаспадыня.*

*Сваё — яно нясе*
*праўдзівы плён: цярпліва*
*па літарах — ці ўсе?!. —*
*ўзнаўляеш «Нашу Ніву».*

*Адтуль ідуць сюды,*
*сабраныя ў адбіткі,*
*сляды, нібы суды:*
*ў людзей свае набыткі.*

*Вялікі свет: стаім.*
*Нібыта ўнепрыкметку,*
*здзяйсняецца ў сваім.*
*Знаходзяць пчолы кветку.*

*Што маем — аддаём,*
*абудзімся, кім будзем.*
*Глядзіць у вокны дом,*
*глядзяць у словы людзі.*

*Слугуеш — там і тут*
*адводзіш перашкоды.*
*Які ён, родны кут?!.*
*Чытаюць кнігу коды.*

*Прысвечаныя, ў хрост*
*імёны ўводзяць рэчы,*
*і ростань навырост.*
*Прадбачыць ноч сустрэчы.*

*Шукае сцежку госць.*
*Бы вынікі прычына,*
*знаходзіць, хто кім ёсць,*
*нябесная Айчына.*

*Інакшыцца сяўбой*
*усё, што цесна й вузка,*
*і гутарыць з табой*
*Хрыстос па-беларуску.*

*І, пасланцы вясны,*
*спрадвечнай маладосці,*
*тлумачаць штосьці сны,*
*наведаўшыся ў госці.*

*Што ўрэшце? Што найперш?*
*Каб словы змест спаткалі,*
*глядзіць здалёк у верш*
*спадарыня Наталя.*

**23.04.2019**

## Асуджаныя

Міхась СКОБЛА

*Наўздагон Наталі Санько*

*Калісьці існаваў закон такі,*
*Гісторыя сляды яго не сцёрла:*
*Забойцы, здраднікі, рабаўнікі*
*Караліся бязлітасна «на горла».*

*Падпісваў прыгавор вялікі князь,*
*Ахвяр да эшафота везлі конна.*
*Не блякла мудрагелістая вязь*
*Суровага, залішне аж, закона.*

*І нам, хоць на двары гуманны век,*
*Адзін фінал сустрэць наканавана.*
*І не папросіш ласкі для калек,*
*І літасці не будзе для каханай.*

*Не зменіш ні артыкул, ні статут.*
*Пара прыходзіць сціпшць парыванні.*
*Мы ўсе, мы ўсе асуджаныя тут*
*Да найвышэйшай меры пакарання...*

**23.04.2019**

# Тэры

Вера ЛОЙКА

**Займець сабаку я не хацела. Ніколі. Нават у дзяцінстве. Вёска, дзе яно прайшло, на той час — 60-я гады мінулага стагоддзя — была здаровай і не спітай, людзі трымалі гаспадарку, і ў кожнай жывой істоты — сваё месца і сваё прызначэнне. Каровы, свінні — у хляве, куры ў куратніку, ну, а сабака... Сабака — у будцы, на ланцугу. Узялі на харчы — то ахоўвай хату. Вясковыя дзеці ставіліся да хатніх жывёлаў без піетэту, не памятаю, каб хто з маіх сяброў-суседзяў гуляўся з сабакам. Жывёлы былі хутчэй нагодай нейкіх гаспадарчых абавязкаў — таго папасі, іншага пакармі... Таму — без сантыментаў. Не ведаю чаму, але мае бацькі сабаку не заводзілі. Ад каго там і што ахоўваць? З такім досведам было б нават дзіўна, калі б я захацела трымаць сабаку ў гарадской кватэры.**

Шмат гадоў мне ўдавалася неяк адбівацца ад дачкі, якой вельмі хацелася мець дома цюціка. За гэты час у нас пажылі — чарапаха, хамякі, папугай, рыбкі, трусік. Усе яны (акрамя хамякоў, якія для мяне мышы і больш ніхто) былі даволі мілымі, але з розных прычынаў надоўга ў хаце не затрымліваліся. То ў фортку вылеціць, як папугай, то нашай зімы не перажыве, як чарапаха. Было шкада, ну а як жа іначай! Узялі адказнасць за жывую істоту і не збераглі. Кожны раз абяцала сабе, што больш нікога ў дом не бяру, але... Усё было толькі падрыхтоўкай да галоўнай хатняй жывёлы, а гэта, як я цяпер разумею, можа быць толькі сабака.

Ксеніны сябры якраз у той час узялі з прытулку для бадзяжных жывёлаў маленькага сабачку, дзяўчынку, і далі ёй імя Тэры. Яна была ў стане поўнай санітарнай занядбанасці. Калматая — у калтунах і ваўках, дзікаватая — хто ведае, колькі часу прыйшлося ёй гараваць на вуліцы, яна, вядома, мела няшмат шанцаў на цёплы дом і добрых гаспадароў. Вось хлопцы і выбралі яе — маўляў, хто яшчэ такую возьме — выключна дзеля ўратавання жыцця, бо незапатрабаваных сабакаў, не ведаю як цяпер, а тады ўсыплялі. Так гаротнай Тэры пацюху пачало шанцаваць.

У дом то яе ўзялі, але ў не надта надзейны, бо гэта была здымная кватэра і жылі ў ёй хлопцы без асаблівага парадку і рэжыму, так што пра двухразовы выгул Тэры заставалася толькі марыць, як і пра нармальнае харчаванне, бо гаспадары былі вегетарыянцамі і прапаноўвалі сабаку то салату з капусты, то макароны з маянэзам, што і самі елі.

Здаралася, што не знаходзілася часу і аднаго разу ў дзень вывесці сабаку на вуліцу. Такім чынам яна набыла адпаведныя звычкі — скажам так, не надта шанаваць чысціню і санітарыю ў кватэры, якая, напомню, была здымнай. Нічога дзіўнага, што ў хуткім часе нашых ратавальнікаў папрасілі на выхад. І паўстала пытанне — куды дзець Тэры? Не здаваць жа яе зноў на Гурскага! Варыянтаў мелася не надта багата, і асноўны быў — завезці ў вёску. Тут і засумавала мая Ксеня, якая паспела сабачку палюбіць, па-магчымасці наведваючы ды выводзячы пагуляць. Было б дзіўна, калі б яна не паспрабавала вырашыць пытанне са мной. Але я сабаку не хацела.

Ну што б вы рабілі на маім месцы? Сабака то чужы, а дачка свая, любімая. Ды яшчэ ў тым «цудоўным» узросце, калі абачлівыя бацькі пярэчыць не рашаюцца... Так пасля енку «я ж Тэры ніколі больш не ўбачу, калі яе ў вёску завязуць» і абяцання «гэта часова, я знайду ёй другі дом», Тэры прыйшла да нас назаўсёды. Як зараз бачу: яна ўвайшла ў кватэру і сціпла села ў куточку пры самых дзвярах. Насцярожаная, знерваваная, недагледжаная — яна не ведала, што чакае ў гэтым чарговым памяшканні і ці стане яно домам. Я вынесла ў той куточак загадзя падрыхтаваную костачку — так і адбылося знаёмства.

Але да таго часу, калі мы сталі адзінай сям'ёй, дзе галоўны — «вядома сабака», шлях быў няпросты. Усе набытыя ў сваім бадзяжным жыцці звычкі Тэры прынесла з сабой. Яна не стала чакаць прагулкі, а прастадушна справіла патрэбу ў выбраным месцы на вялікім дыване, які прыйшлося замываць, пераварочваць, сушыць... Высахнуць ён не паспяваў, таму што раз абранае месца Тэры не мяняла. Надвор'е ў доме сапсавалася. Наш муж і бацька — вялікі прыхільнік чысціні — паставіў пытанне рубам: я ці яна! Я шкадавала Тэры, але трэба ж было неяк выпраўляць становішча. А як? Выйсця я не бачыла.

У той дзень мы з ёй гулялі доўга. Настрой у мяне быў паганы. Падышлі да пад'езда, яна памкнулася да ўваходных дзвярэй, але я дадому не спяшалася — наадварот, адцягвала момант вяртання. Тэры цягнула, яна заўсёды любіла вяртацца дадому. І тут мяне прарвала. Я стала гаварыць з ёй як з роўнай. «Тэры, мы цябе прынялі ў сям'ю, кормім, даглядаем — я на сваю стрыжку не трачу столькі грошай, колькі на тваю. Ты больш не начуеш на вуліцы, не баішся, што цябе ўсыпяць на Гурскага. Мы цябе любім! Чаму ж ты не хочаш жыць па нашых правілах? Не так іх і шмат. Галоўнае — каб ты свае справы рабіла на вуліцы! Вунь муж патрабуе, каб цябе ў доме больш не было. А куды я цябе падзену? Вось адчаплю зараз павадок — і зноў ты будзеш бяздомная, зноў цябе будуць лавіць... Я гэтага не хачу. Але ж выходзіць — ты гэтага хочаш?» Я, вядома ж, не змагла б так зрабіць, і пагрозы мае былі хутчэй голасам адчаю. Тэры ціхенька слухала гэта ўсё і раптам стала на заднія лапкі, паставіла пярэднія мне на калені і паглядзела проста ў вочы. Боль, страх, трывога, абяцанне — усё было ў гэтым позірку. Яна мяне зразумела. Я яе зразумела. І больш мы да гэтай размовы не вярталіся — не было патрэбы.



Але да ідыліі было далёка. Тэры ўвесь час хадзіла насцярожаная, гатовая ў любы момант абараняць сябе, і хіба можна было яе ў тым вініць? Пра сваё ранейшае жыццё яна расказаць не магла, але пра нейкія дэталі можна было здагадацца. Яна не любіла міліцыянераў і дворнікаў, і як толькі ўпэўнілася, што цяпер знаходзіцца пад абаронай гаспадароў, стала актыўна брахаць і на тых, і на другіх. Прычым у разрад міліцыянераў трапілі і курсанты ваеннай акадэміі, што знаходзіцца непадалёку ад нашага дома. Не любіла петардаў, феерверкаў — усяго, што звязана з выбухамі і стрэламі. Магчыма, некалі яна такім чынам і згубілася ў ранейшых гаспадароў. Аднойчы на прагулцы ў пераднавагодні час, калі стрэлы чутны з усіх бакоў, яна спалохалася і кінулася бегчы. Ды так шпарка, што муж яе не дагнаў, прыбег да дому і зусім расстроіўся, калі не ўбачыў сабаку каля пад'езда. Але яна чакала пад дзвярыма кватэры на пятым паверсе. Во было радасці! Не любіла п'яных. Аднойчы мы ехалі ў трамваі з Серабранкі, куды я вазіла яе стрыгчыся. На прыпынку проста праз шкло ад нас стаяла кампанія маладзёнаў з вялізнай пляшкай піва, якую яны перадавалі з рук у рукі, каб прыкласціся да рыльца — на той час гэта яшчэ не забаранялася рабіць на вуліцы. Адкуль Тэры ведала, што ў пляшцы было піва, а не якая-небудзь «кола», я не ўяўляю, але гаўкала яна ў тую шыбку неадабральна і з вялікім імпэтам.

«Прылятала» іншы раз і нам. Тэры не любіла, калі яе бралі на рукі без просьбы. Палохалася. Інстынктыўна яна рэагавала імгненна. Як-як... Зубамі! Усе мы не па разу зведалі яе вострыя зубкі на сваіх пальцах. Але мужу дасталася больш за ўсіх. На той час Ксеня ўжо з намі не жыла, і Тэры аб'ектам аховы і асаблівай любові прызнала мяне. Гэта значыла, што муж не меў права паляпаць мяне па плячы, а ў яго ёсць такая звычка, дакладней — была. Нават пакласці руку на плячо — ні ў якім разе. Нельга са мной спрачацца — усё адно яго словы заглушыць гнеўны брэх. «Каму пасмеў пярэчыць?!»

Вось і тым разам мы спрачаліся. Тэры сядзела на канапе і ўважліва прыслухоўвалася, пераводзячы позірк то на яго, то на мяне. І тут мой муж страціў пільнасць. Ён вырашыў узяць сабаку ў саюзнікі. Наіўны — ён нічога не ведаў пра сабачую любоў і вернасць. Ён падышоў да канапы, нахіліўся да Тэры і сказаў нейкія неабавязковыя словы тыпу «а мы не будзем звяртаць на яе ўвагі, праўда?» І тут раздаўся крык. Таму што гэты адважны маленькі салдацік, упэўнены, што мне неабходна яго падтрымка, хапануў гаспадара зубамі за тую частку цела, якая была найбліжэй. А гэта быў нос.

Тэры імгненна апынулася ў куточку каля ўваходных дзвярэй. Туды яна заўсёды ўцякала, нашкодзіўшы. Ну, а акрываўлены нос давялося прамываць перакісам вадарода і заклейваць пластырам. Трэба сказаць, што Тэры заўсёды ўмела дазіраваць сваю сілу, бо калі б яна сашчапіла сківіцы шчыльней — заклейваць, мабыць, не было б чаго.

Між тым набліжаўся час вячэрняй прагулкі, на якую яны хадзілі разам. Хто каго выгульваў — пытанне было адкрытае, бо мужу, пенсійнае жыццё якога праходзіла ў руху паміж двума экранамі, тэлевізійным і камп'ютэрным, выгул быў патрэбны не менш, чым сабаку. І няма ніякага сумневу, што ў захаванні ім нейкага здароўя і бадзёрасці вялікая заслуга Тэры. Пасля такога здарэння я баялася адпраўляць іх на вуліцу разам. А што, калі ён пакіне сабаку дзе-небудзь у лесе? Не падобна на яго, але хто ведае, на што здольны чалавек, якому толькі што ледзь не адкусілі нос? Але ён неяк надзіва хутка супакоіўся і нават прызнаў, што сам вінаваты. Гуляць яны пайшлі разам і вярнуліся канчаткова заміраныя.

**Яна не любіла міліцыянераў і дворнікаў, і як толькі ўпэўнілася, што цяпер знаходзіцца пад абаронай гаспадароў, стала актыўна брахаць і на тых, і на другіх. Прычым у разрад міліцыянераў трапілі і курсанты ваеннай акадэміі, што знаходзіцца непадалёку ад нашага дома. Не любіла петардаў, феерверкаў — усяго, што звязана з выбухамі і стрэламі**

Матэрыяльных стратаў Тэры практычна не прыносіла. На самым пачатку нашага сумеснага жыцця яна нечакана кінулася да маіх ног, абутых якраз жа ў навюсенькія чаравікі. Ці то гэта быў пратэст супраць таго, што я выходжу з дому без яе, ці то проста чаравікі не спадабаліся. На адным з іх яна пакінула доўгую і глыбокую драпіну. З гэтым можна было справіцца толькі адным спосабам — купіць новыя, што я і зрабіла. Дзякуй Богу, чаравікі тыя былі не з ліку любімых рэчаў. Ды і наогул — самыя важныя рэчы зусім не рэчы, хіба не так?

Тэры тымчасам расквітнела. Хораша стрыжаная, добра кормленая, прывычная да ўласнай падсцілкі, а найбольш да гаспадарскай канапы, да прагулак і памытых лапаў — яна аказалася вельмі абаяльнай і элегантнай. Двойчы на вуліцы да нас падыходзілі з просьбай прадаць сабачку, але пра гэта не магло быць размовы — самім трэба! Яна разумела свой поспех і, як любая сапраўдная жанчына, карысталася ім. Калі нам прыходзілася ехаць у грамадскім транспарце, яна выглядвала якую-небудзь сімпатычную маладую дзяўчыну, што стаяла побач, і пачынала з ёй какетнічаць. Як правіла, мы ехалі пасля стрыжкі, і выглядала наша ляля асабліва прывабна, таму абыякавых папутчыкаў не было. Усе імкнуліся пагладзіць яе, пачаставаць цукеркай ці пячэнькай. Аднойчы якраз у такім свежапастрыжаным выглядзе мы спусціліся ў падземны пераход, і мужчына з салідным партфелем, што крочыў насустрач, ахнуў: «Ой, якая! Пачакайце, я ёй шакаладку куплю...» Ён кінуўся да кіёска і быў вельмі расчараваны, калі я адмовілася ад гасцінца, бо сабакам шакалад шкодны.

Працяг на стар. 16 (10) »

« Працяг. Пачатак на стар. 15 (9)

Пастрыжаная, Тэры звычайна прасілася на рукі і важна пазірала з вышыні на прахожых. Напэўна, гэта быў такі рэванш за голад, холад, пабоі і крыўды, за страх і ўвесь той негатыў, які яна зведала за сваё яшчэ зусім нядоўгае жыццё.

Аднойчы мне давялося ўвязацца ў бойку з ратвейлерам, каб уратаваць Тэры. На прагулцы да яе кінуўся велізарны і злосны сабака без павадка і без намордніка. Гаспадар (калі гэта быў гаспадар) не ведаў, што рабіць. Ён нешта бездапаможна выкрыкваў, а да таго ж быў нападпітку. Сабака не звяртаў на яго аніякай увагі. І тут я ўспомніла, што якраз напярэдадні ў гасцях у адным доме была размова пра тое, як спраўляцца з сабакамі, калі яны выходзяць з-пад кантролю. Жанчына, абазнаная ў гэтай справе, сказала, што трэба біць з размаху нагой, і гэта жывёлу павінна спыніць. Не паспела ні падумаць, ні спалохацца, як ужо ўрэзала нагой ратвейлеру. Усё сваё папярэдняе жыццё я сабак проста баялася, і пару разоў яны мяне кусалі. Але Тэры трэба было ратаваць! Ратвейлер адскочыў і гаўкаў ужо наводдаль. Я схапіла сваю перапалоханую маляўку на рукі, горда параіла няўдаламу гаспадару памяняць сабаку на кошку, і мы з дэманстратыўнай годнасцю пакінулі поле бою. Пасля гэтага выпадку Тэры стала рэагаваць на словы «там вялікі сабака». Пачуўшы іх, яна прыціскалася да маіх ног, а то і прасілася на рукі. І ўвогуле яна сабак не любіла, колькі кавалераў ні спрабавала звярнуць на сябе яе ўвагу, наша прыгажунька мінала іх абыякава.

Яна любіла дом і сям'ю. Калі мяне не было дома, Тэры бавіла час на канапе, зацягнуўшы туды папярэдне мой тапак. Заўсёды ведала, чый тэлефон падаваў голас, да таго і бегла паведаміць пра званок. Ідучы з працы, ужо з другога паверху — а жывём мы на пятым — я чула радасны брэх. Тэры чакала мяне пад дзвярыма і адчувала маё набліжэнне праз тры паверхі. Калі я накрывала на стол, яна ўважліва сачыла за маімі дзеяннямі. Пакуль ставіліся талеркі, яна яшчэ сядзела ціха, а вось калі побач клаліся відэльцы — неслася клікаць гаспадара вячэраць. Правілы сервіроўкі яна ведала бездакорна. І свой хлеб адпрацоўвала — узяла на сябе абавязкі, якія былі па сілах і выконвала іх.

Некалькі разоў Тэры спрабавала пагаварыць з гаспадаром. Падыходзіла, калі ён сядзеў за камп'ютэрам, і лёгенька стукала лапай па калене. А потым яна намагалася менавіта нешта сказаць, не гаўкала, не — яна сілілася выціснуць з сябе гукі, вельмі падобныя да чалавечай мовы. Калі той адварочваўся да экрана, яна зноў стукала яго лапкай і спрабавала данесці нейкую сваю думку. Шкада, што мы ніколі не даведаемся, што яна мела сказаць.

Хоць мае блізкія і крыўдзяцца за гэта, я заўсёды казала і буду казаць, што мяне ніхто на свеце не любіў так, як Тэры. Ну проста людзі так не ўмеюць. Аднойчы менавіта гэтая вялікая любоў ледзь не разлучыла нас. Напрыканцы лета муж пайшоў у адпачынак, і мы сабраліся ў вёску да маці. Я ж працавала і застацца там з імі надоўга не магла. Толькі на выхадныя. Аўтобусы з Мінску на той час у вёску не хадзілі, як і цяпер. Каб дабрацца да сталіцы, трэба было ісці пару кіламетраў лесам да суседняй вёскі Драбаўшчына, праз якую раз на дзень хадзіў на Мінск аўтобус з Ганцавіч. Вось у нядзелю яны з Тэры і правялі мяне на гэты аўтобус. Напэўна, яна не зразумела, што паеду толькі я, думала, што ўсе разам, як звычайна. Такія сумныя і расчараваныя вочы глядзелі на мяне праз аўтобуснае шкло — душа пераварочвалася. Але нічога не зробіш, сталі жыць паасобку — я ў Мінску, а муж з Тэры ў вёсцы. МТС там цягнуў слаба, толькі калі падняцца на ўзгорак да воданапорнай вежы. Вось там кожную раніцу яны і выходзілі на сувязь. Аднойчы мужу прыйшла ў галаву недарэчная думка. «Давай, — кажа, — я прыкладу ёй да вуха тэлефон, а ты скажы што-небудзь. Паглядзім, як яна рэагаваць будзе». Так і зрабілі. Я сказала Тэры, што сумую па ёй і яшчэ нешта. Як звычайна. Праз нейкі час тэлефануе ўстрывожаны муж: «Сабака прапаў!» Вярнуліся яны з прагулкі, і пакуль гаспадар займаўся ў хаце снеданнем, Тэры з двара знікла. Хоць увогуле яна да гэтага схільнай не была. Пошукі ў бліжэйшых суседзяў нічога не далі — як праз зямлю праваліласся. Я адразу зразумела, што здарылася. «Бяжы, — кажу, — у Драбаўшчыну. Яна пачула мой голас і пабегла мяне шукаць. Пабегла туды, дзе мы развіталіся. Толькі хутчэй, бо па часе павінен прыйсці ганцавіцкі аўтобус, і калі яна ў яго забярэцца — больш мы Тэры не ўбачым...» Па дарозе муж сустрэў знаёмую жанчыну на ровары, якая сказала, што маленькі чорненькі сабачка пабег па лясной дарозе ў Драбаўшчыну, і пазычыла яму свой транспарт. З'явіўся шанец дагнаць уцякачку. А ў Мінску я не знаходзіла сабе месца. Уяўляла, як прыйдзе аўтобус і ў расчыненыя заднія дзверы незаўважна шмыгне маленькі камячок, схаваецца пад сядзеннем і... паедзе. Дзе, на якім прыпынку яе заўва́жаць і выкінуць з салона? Што з ёй будзе далей? Я пра гэта ніколі не даведаюся. Мой стан быў блізкі да адчаю. І самае прыкрае, што я нічога не магла зрабіць, нічым не магла дапамагчы.

**Усе мы змалку ведаем, што жыццё скончыцца. Але — верым ва ўласную несмяротнасць... Ведаем, што сабакі жывуць менш за людзей, але спадзяемся, што нашы будуць побач заўсёды...**

Муж тым часам пад'ехаў да Драбаўшчыны. На лаўцы каля крайняй хаты сядзеў крыху знаёмы мясцовы пенсіянер з дзецьмі. На запытанне ён адмоўна пахістаў галавой — не, не бачыў. Муж кінуўся далей, у напрамку прыпынка. І тут яго дагнаў адзін з хлапчукоў: «Дзядзя, пачакайце... Яна ў нас на гародзе...» І гэта было шчасце! На зваротным шляху гаспадар трымаў руль адной рукой, бо другой прыціскаў да сябе Тэры. Нічога, даехалі. Відаць, яна напалохалася не менш за нас, бо больш такіх рызыкоўных падарожжаў не ўчыняла. Ну і мы не правакавалі. Бывалі выпадкі, калі мне прыходзілася ад'язджаць з дому на нейкі час. Калі я тэлефанавала і пыталася, як там Тэры, заўсёды чула адказ: «Ляжыць пад дзвярыма... Нічога не есць...» Яна заўсёды чакала мяне. Муж дзівіўся: «Гуляю з ёй я, купаю я, кармлю я — а любіць яна цябе...» Так вось мне пашанцавала.

Усе мы змалку ведаем, што жыццё скончыцца. Але — верым ва ўласную несмяротнасць... Ведаем, што сабакі жывуць менш за людзей, але спадзяемся, што нашы будуць побач заўсёды...

Падчас першага візіту на прывіўку ветэрынар вызначыў, што Тэры на той час мела ўзрост прыкладна 3 гады. Амаль 13 яна яшчэ пражыла з намі. Гэта немалы сабачы век. То былі для мяне шчаслівыя гады, хоць здараліся і нягоды, і выпрабаванні. Але яна ўмела падтрымаць, як дадзена далёка не ўсім людзям. Як казала дачка — «А што, сабака не чалавек?» О, не — у сабак больш чалавечага, чым у людзей. Калі ўбачыць, што табе цяжка, падыдзе, лізне руку, паглядзіць у вочы — ну што ты, не сумуй, я з табой, усё будзе добра...

Ніхто больш мне гэтага не можа паабяцаць, бо Тэры пакінула нас. Пасля яе сыходу шмат людзей — суседзі, сябры і знаёмыя — дружна пачалі ўгаворваць нас узяць да сябе другога сабаку. Але... я ж ніколі яго не хацела. Ды і навошта мне другі сабака? Ведаючы, як гэта балюча, калі любімая істота сыходзіць "на вясёлку", я нізавошта не змагла б ступіць на гэты шлях ізноў.

Не ведаю, як яно будзе, калі пройдзе больш часу. Пакуль што мне цяжка падыходзіць да акна. З яго добра бачная сцежка, па якой Тэры вярталася з прагулкі. Калі я гляджу туды, то ўяўляю, як хутка яна перабірае зграбнымі лапкамі — хутчэй дадому, да мяне. Невыносна ўсведамляць, што больш Тэры да мяне не спяшаецца. Я таксама не спяшаюся да яе. Але хочаш-не хочаш, некалі ўсё ж прыйдзецца адправіцца ў замежнае падарожжа. Праз безахоўную мяжу, дзе няма мытнікаў, не патрэбныя візы, страхоўкі, ды нават пашпарт. І як толькі я перайду яе, мне насустрач з радасным брэхам кінецца маленькі пушысты камячок. Я настолькі выразна гэта ўяўляю, што, мабыць, так яно і будзе.

Тэры заўсёды дакладна ведала, калі я прыйду.

**2019**

# Час вырашаць...

Андрэй КОЗЕЛ



***

*Час наступае — час забыцця,*
*неверагоднасці адкрыцця*
*дзвярэй, што закрыты былі на ключы,*
*тых самых, якія нібы палічыў,*

*пэўна, найлепшым выхадам у*
*свет. Ды не можаш зрушыць нагу:*
*карціна такая, што выйсця няма,*
*калі наступаюць часы забыцця.*

***

*Час вырашаць, што зло, што закон,*
*што ёсць апокрыф, што ёсць канон,*
*і кім напісаны яны ды калі,*
*і хто валадарыць на гэтай зямлі?*

*Гэта цікавы час для высноў.*
*Ён нагадае частку ад сноў:*
*пра тую, што думаеш «праўда ці не?»,*
*якой толькі раніцай і не стае.*

***

*Час ліхалецця, трунаў, мальбы,*
*час узгадаць, што стала тады*
*імгненнем найпершым з'яўлення Хрыста:*
*ці час вызвалення, ці час забыцця?*

*Час выяўляць, хто будзе, хто не*
*гучна смяяцца, як упадзе*
*ікона, што выслізне з рук, або крыж*
*паміж узгаданым, забытым паміж.*

***

*І больш у горадзе у гэтым*
*мяне нічога не трымае.*
*Ліміт падлічаны на метры —*
*дайшоў да самага да краю,*

*дайшоў да кропкі, да прыпынку,*
*адкуль не будзе ўжо вяртання.*
*Апошняй згашаны лучынкай*
*жарыны першага спаткання.*

*Ну неяк так — не маю візы,*
*згубіўся шанец апраўдання.*
*Сваю усмешку Моны Лізы*
*мне мытнік шле — на развітанне.*

*І не сустрэнуць так прыязна —*
*цяплом чароўнай летняй ночы —*
*як сустракалі светла, шчасна,*
*лагодным ззяннем яе вочы.*

*Бо неяк зніклі несвядома*
*маіх надзеяў-мар парады.*
*Я б мог вярнуцца зноў, вядома...*
*ды больш не будуць мне тут рады.*

***

*Нам ніхто не паверыць:*
*мы закрытыя ў душах.*
*Хто не ведае меры,*
*той заўсёды і душыць.*

*Нас ніхто не ўратуе —*
*ўжо акрэслены межы.*
*Хто заўсёды лякуе,*
*той, нарэшце, і рэжа.*

*Мы загінем гурбою:*
*цудаў тут не бывае.*
*Хто трымаўся за зброю,*
*той з яе і страляе.*

*Што адбудзецца заўтра —*
*многім рукі развяжа.*
*Той, хто ведае праўду,*
*нам яе не раскажа.*

*— Хто нас пляжыць у цемры? —*
*ты спытаеш наіўна.*
*— Гэта наша краіна!*
*Нам ніхто не паверыць.*

***

*Замест ежы —*
*білет у замежжа.*

*Замест волі —*
*пабольш нам нядолі.*

*Замест праўды —*
*хлуслівыя мантры.*

*Замест мовы —*
*чужынскія словы.*

*Замест сонца —*
*дажджы льюць бясконца.*

*Замест заўтра —*
*мінулага карты.*

*Замест сёння —*
*п'янкое бяссонне.*

# «Узвысіцца над рэчаісным»

99 нумар часопіса «Дзеяслоў» адкрываецца нізкай вершаў пісьменніка філасафічнага складу Ігара Бабкова.

У гэтай паэтычнай падборцы пад назвай «Вершы Францішка» няма пэўнасці ў адлюстраваннях жыцця, але шмат сэнсаў, якія акупуюць бяссэнсавую прастору нашага быцця. Такая тонкая метафарычная матэрыя, насычаная духоўнасцю і глыбокімі філасафічнымі падтэкстамі… Бабкоў апошнім часам шмат піша і шмат прамаўляе.




Магчыма, што ён шукае той сэнс жыцця, у які ўвесь чалавек не ўкладваецца, а часткова пакідаецца ў сваіх праявах мастацкай творчасці і філасофскіх спасціжэннях.

*Малое сэрца рыхтык,*
*як птушанятка*
*корпаецца ў найбліжэйшым,*
*сочыць за кожным гукам*
*цешыцца сярод дробязяў,*
*але з вялікаю верай*
*у цеплыню і міласць,*
*і ў дакладнасць свету*

Вядомая міфа-гістарычная пісьменніца Людміла Рублеўская ўсё-ткі змусіла нас звярнуць сур'ёзную ўвагу на сваю творчасць і сучасны айчынны кінематограф. Часопіс друкуе яе кінааповесць-фантасмагорыю па матывах гістарычных хронік «Пад залатымі трубамі» (па сутнасці гэта кінасцэнарый). Назоў не надта каб… Аднак гэта не так важна. Чытач (і магчымы глядач) апынаюцца ў сярэдзіне XVI стагоддзя на абшарах ВКЛ, дзе раскручваюцца інтрыгі паміж князямі Радзівіламі і каралём Жыгімонтам ды яго сужэнкай-італьянкай каралевай Бонай Сфорца за пераемнасць улады… Перад намі — шэраг зменлівых кароткасюжэтных сцэнаў у каралеўскіх палацах Кракава, Варшавы і княскім замку Нясвіжа і маёнтку Гаранёны… Пах і страх атруты пераследуе сямейную дынастыю паўсюль. Асабліва звяртае на сябе ўвагу змаганне паміж Бонай Сфорца і сёстрамі Ганнай і Барбарай Радзівіл. Не абыходзіцца, як і ва ўсякім творы мастацтва, без дзіўнаватых фантазій аўтара. Але яны даволі праўдападобныя і не выклікаюць вялікага недаверу. А да таго ж — сцэнар, што рэдка здараецца, чытэльны і займальны. А ўжо як будзе тое глядзецца на экране, калі фільм усё ж з'явіцца, то ўжо будзе залежыць ад таленту кінарэжысёра…

«1530 г. Кракаў. Каралеўскі палац. Жыгімонт Стары незадаволена ўсаджваецца ў крэсла. Перад ім — Радзівіл Геркулес і Яаб Магнус, які трымае куфэрак.

— Я згадзіўся на гэтую сустрэчу ў памяць нашага старога сяброўства, Юры. Але я не памяняю свайго слова. Пасада канцлера, якая вызвалілася пасля смерці твайго брата, будзе належаць Альбрэхту Гаштольду, Радзівілы і так маюць уладу большую за маю.

Геркулес апускае вочы, каб не выдаць гнеў.

— Але Радзівілаў на гэтым свеце застаецца ўсё менш, ваша каралеўская мосць. Я прашу толькі аб каралеўскім правасуддзі.

Друкуюцца вершы Ігара Сідарука. Яго лірыка кахання «Я думаў, ты верасень чысты…», як мне падаецца, у сваёй пераважнасці залішне эмацыйная і не дарэшты выверaная ў суадноснасці слоў і адчуванняў. Вершаў шмат, ёсць і выбітныя рэчы:

*А я сказаць адной табе хачу,*
*Як у самоце патанае вечар.*
*І толькі ветру тое я шапчу,*
*Аб чым з табой ужо даўно маўчу,*
*Маўчанне што ж,*
*таксама добра лечыць.*

Леанід Дранько-Майсюк назваў працяг сваёй архіўна-літаратурнай працы «У Вільні і больш нідзе…» аповесцю пра Адама Станкевіча, не дапасоўваючы сюды слова дакументальнай… І направду, сярам густоўнага аповеда вымалёўваецца цэльны вобраз вядомага святара і асветніка, згіблага ў ГУЛАГу праз бальшавіцкую крываваю ідэалогію. З датклівым пачуццём павагі выпісаныя і ўзноўленыя (станоўчыя і спрэчныя) штрыхі ягонай біяграфіі, творчасці і жыццядзейнасці, у рэшце рэшт, паказваюць нам Адама Станкевіча як беларуса ва ўсёй яго нацыянальнай годнасці і чалавечай іпастасі. Мяркую, чытачу будзе цікава азнаёміцца і з такой вытрымкай з шырокафарматнага тэкста аповесці:

«У маладым заходнебеларускім лагеры сварка і разлад прайшлі праз усе адведзеныя гісторыяй скупыя гады; удзельнікі руху дзялілі не грошы, маёмасць і славу, а перш за ўсё мелі розныя светапогляды. Шырокі ў сваім кругаглядзе А. Луцкевіч, скажам, хваліў Леніна і цаніў Кальвіна, які сваімі навучаннямі па-сутнасці стварыў падмурак для капіталізму; Адам жа Станкевіч вышэй за Кальвіна, капіталізм і Леніна ставіў Ісуса Хрыста. Айцец А. Станкевіч лічыў: палітыка, якую праводзіў А. Луцкевіч і, напрыклад, падпольны камуніст Б. Тарашкевіч, мяжуе з небяспечным летуценнем, з авантурызмам; нацыянальная работа не павінна адыходзіць ад хрысціянства. Зрэшты, біліся нават не за ідэі, бо ідэя была адна — Беларусь; кожны біўся за свой партыйны гурт; нястомна, бясконца змагаліся за лідэрства, хацелі пад свой уплыў узяць нацыянальны рух — словам, амаль кожны прагнуў забраць у свае рукі справу».

Вершы Віктара Слінкі нечым няўлоўным падобныя да вершаў І. Бабкова. Аднак калі ў Бабкова як чытач я шукаю і знаходзіў сэнсы, то ў Слінкі іх амаль немагчыма вылавіць і намацаць, бо ў яго творах няма межавых сцэн (скажам, яго мастацкая сфера не асцэнена), там спрэс адтуленая прастора, з якой, як ні дзіўна, няма выратавальнага выйсця…

*…Люстраная пространь*
*харaства.*
*Выцвіласць адсеяных імгненняў.*
*Пазачасавасці — не схаваць*
*Повязяў удзячнасці, — ўзаемна…*

Мемуарную прозу Міколы Гіля чытаць цікава, асабліва прыхільнікам літаратуры сталага і старэйшага пакаленняў; яго аповеды жыватворна бруяць беларушчынай (не ў нацыянальна-палітычным сэнсе, а ў сваёй рэчаіснай — учарашняй і сённяшняй — натуральнасці). Прырода і людзі бацькаўшчыны паўстаюць ва ўсіх сваіх праявах жыцця. Вось і гэты аповед: выбраўся літаратар на сваю малую радзіму, Лагойшчыну, а там мала што з пазнавальнага і засталося, то паехаў ён на веласіпедзе па ваколіцах і сустрэў бубулю з каровай на пасьбе; прыпыніўся, разгаварыліся… І вось яна ўспамінае сваіх шэсць кароў — усё сваё жаночае жыццё — а разам з імі, можна сказаць, і ўсю нашу беларускую калгасную долю… «Усё добрае пачынаецца з павагі да чалавека, а ўсё благое — з непавагі да яго. Непавага, сцвярджэнне нікчэмнасці і таннасці чалавека ўзгадоўваюць лёкайства, падхалімства, зайздрослівасць, халуйства, прадажнасць, несумленнасць, двурушніцтва, безадказнасць, абыякавасць і — тое ж п'янства. Доўгія гады нам казалі, што чалавек — гэта гучыць горда, а самі рабілі зусім іншае, відочна паказваючы і сцвярджаючы, што чалавек — гэта казюрка, чарвяк, шрубачка, пылінка, нішто. І людзі выраслі казюркамі, чарвячкамі, шрубкамі».

Вершы з нізкі Тадоры Шпількі (Таццяны Будовіч) пад назовам «Хачу стаць словам для цябе…» найперш вызначаюцца ўнутраным настроем і цёплай пачуццёвай аўрай.

Мне цяжка зразумець, чаму лірычная паэтка абрала для сябе гэткі сатырычна завостраны літаратурны псеўданім. Ён не тое што не пасуе, а ад пачатку зніжае тонус усприманя насамрэч узвышанага стылю і трапяткога голасу паэткі:

*Ды німбам выратавальны купал*
*па-над галавой*
*і стропы — як ніці лёсу*
*ці марыянеткі,*
*што там, на нябёсах, трымае*
*Той,*
*Хто загадзя ведае, як упадзе*
*падкінутая манетка.*

Апавяданне Алеся Гізуна з Баранавіч «Дзень апошняга яблыка» прысвечана памяці земляка, адметнага творцы Яна Збажыны. Яно нечым блізка напамінае мне творчасць самога адышоўшага літаратара, калі браць пад увагу яго помныя тэксты афарыстычнага кшталту.

«…той, хто мае свой час, часцяком страчвае ўсялякую здольнасць ягонага ўліку. Фізіка часу не адмаўляецца, але перадольваецца. Час, нібы рака: ты стаіш у ёй, яна адчувальна, але несувымерна цячэ паўз цябе, ціхая і магутная плынь вады. Пакуль ты ў вадзе — ты ў сваім часе, ты — частка яго. Чапай нечапанае. Чэрпай невычэрпнае. Сузірай і асэнсоўвай. Але варта выйсці на бераг, далучыцца да ўсеагульнае гонкі — і той час незваўважна й незваротна сплывацьме па-за табою…»

Мяркую, кожны, хто не адрынае творчы метад экзістэнцыі, зразумее і ўспрыме метафарычныя пасылы паэта Вадзіма Кораня. Ягоны трыпціх «Existenz» прысвечаны памяці мамы (у паралельнай прывязці яе вобраза да біблейнай Марыі)… Адчуваецца творчы рост паэта і яго мастацкі патэнцыял адносна яго папярэдніх публікацый.

*Марыя!*
*Ты была побач,*
*калі Ён канаў*
*на крыжы,*
*Ён бачыў цябе, і Яму,*
*пэўна,*
*яшчэ больш балела…*
*Цікава, а як бы Ён*
*далей жыў,*
*калі б*
*ТЫ*
*на Ягоных руках*
*памерла?..*

Ідэю і сэнс апавяданняў Паліны Качатковай чытачу даводзіцца разгадваць нераўнуючы як зменлівыя ўзоры ў калейдаскопе: зрух — і новы малюнак з тых жа рысаў і фарбаў, толькі ў новым ракурсе…

З прозай дэбютуе Аляксандра Хамянок (імпрэсія «Ліст у будучыню»). Па гэтай цытаце вы збольшага можаце меркаваць пра творчасць аўтаркі:

«Сачыненне я напісала на «выдатна». Хутчэй за ўсё гэтую адзнаку мне паставілі авансам: у настаўнікаў часта ёсць асаблівае чуццё, што добрая адзнака можа ператварыцца ў нешта большае. У маім выпадку так і здарылася. За што і дзякую, бо я нарэшце зразумела, пра які страх распавядала Святлана Аляксандраўна, пра які страх пісала мне мая бабуля. А зразумець — значыць стаць крыху смялейшай».

Выдатная, я сказаў бы, геніяльная лірыка дарэвалюцыйнага Уладзіміра Маякоўскага ў перакладах Андрэя Хадановіча. Вось:

*Ты, што сэрца абакрала мне*
*і ранаю*
*развярэдзіла ў душы ўсю*
*брыду маю, —*
*дар мой прымі, каханая,*
*можа быць, я нічога больш не*
*прыдумаю.*
*Сённяшні дзень фарбуйце —*
*у святы.*
*Творыцца*
*роўная крыжу містэрыя.*
*Бачыце, як*
*прыбіты, распяты*
*цвікамі слоў на паперы я.*

Вялікі тузін непрычасаных думак непераўзыдзенага Ежы Ленца пераклаў Міхась Міраловіч. Да прыкладу: «Жыць вельмі шкодна. Хто жыве — той памірае».

Тых нешматлікіх з чырвонай кнігі літаратуры, якія займаюцца альбо цікавяцца крытыкай, можна адаслаць да «круглага стала», што ладзіўся з прычыны яе нездаровага стану з удзелам В. Акудовіча, І. Бабкова, Ц. Чарнякевіча, Н. Грышчук, Я. Новіка, А. Адамовіча, М. Бараноўскага і З. Савельева.

«Дык крытыка ёсць ці крытыкі няма? Літаратура мае ў ёй патрэбу ці крытыка мае патрэбу ў літаратуры? На колькі адсоткаў праяўляецца стужка літаратуры, калі срэбра не вымываецца крытычнай кіслатой?» — упарта і бесспадзеўна дапытваўся ў сабранага гурта Ціхан Чарнякевіч. На што Валянцін Акудовіч безапеляцыйна даводзіў: «Слухайце, у нас сітуацыя вельмі простая: сімвалічны капітал не канвертуецца ў грошы. І калі незнаёмыя людзі даведваюцца, што ў мяне за мяжой выдаваліся кніжкі, а я пляшку самага таннага віна не заўсёды магу сабе дазволіць… Яны нічога не разумеюць».

Вядомая дыктарка Зінаіда Бандарэнка дзеліцца ўспамінамі пра былога старшыню Беларускага тэлебачання і вядомага паэта Генадзя Бураўкіна.

Шаноўны Кастусь Цвірка (часопіс віншуе яго з васьмідзесяціпяцігоддзем, а мы далучаемся!) распавядае пра сваю выдавецкую працу ў «Беларускім кнігазборы» ў 2016 годзе, піша пра вядомых вучоных, пісьменнікаў і проста людзей з глыбокім нацыянальным каларытам, не абыходзячы неардынарных бакоў і свайго ўласнага жыцця.

Выбітны філосаф Валянцін Акудовіч працягвае публікацыю урыўкі з новай кнігі «Трэба ўявіць Сізіфа шчаслівым. (Хроніка беларускага інтэлектуала)». Гэтым разам ён піша пра «Інтэлектуалаў і Плошчу».

Друкуецца праця артыкула «Вёска Камаровічы ў Мазырскім павеце» польскай пісьменніцы Эмы Яленскай пра быт, жыццё і гісторыю палешукоў у перакладзе выдатнага нашага фалькларыста Уладзіміра Васілевіча.

Літаратуразнаўца з Гомеля Ірына Бароўская разважае пра песенную лірыку М. Танка, Н. Гілевіча і Г. Бураўкіна. Літаратар Уладзімір Сіўчыкаў прапануе ўвазе чытачоў свае «штрыхі да партрэта Івана Міско». Леанід Галубовіч рэцэнзуе зборнік балад выбітнога творцы Уладзіміра Арлова «Паручнік Пятровіч і прапаршчык Здань». А ў традыцыйнай рубрыцы «Дзеяпіс» можна азнаёміцца з анатацыямі да кніг, што нядаўна пабачылі свет.

Таму — чытаем! І — прасвятляемся ў нашым цёмным царстве. Альбо — не чытаем і — жывём там жа навобмацак…

**ЛеГал**



# Новая кніжная сталіца свету

**Новай кніжнай сталіцай свету стала Шарджа — трэці па велічыні горад Аб'яднаных Арабскіх Эміратаў.**

Гэты ганаровы тытул прысуджаецца за выдатныя дасягненні ў папулярызацыі чытання і дзейнічае адзін год. Раней кніжнымі сталіцамі былі такія культурныя цэнтры, як Мадрыд (2001), Александрыя (2002), Нью-Дэлі (2003), Антвэрпэн (2004), Манрэаль (2005), Турын (2006), Амстэрдам (2008) і іншыя.

Шарджа выбрана не выпадкова, паколькі эмірат актыўна падтрымлівае інавацыйныя і інклюзіўныя праекты ў сферы літаратуры.

У гонар гэтай падзеі ў амфітэатры «Аль Маджаз» у эміраце Шарджа прайшло шоу «Тысяча і адна ноч: апошняя частка», у стварэнні якога ўдзельнічалі 537 прадстаўнікоў 25 народаў. Пастаноўшчык грандыёзнай падзеі стаў адзін з рэжысёраў цырымоніі адкрыцця зімовай Алімпіяды ў Сочы Себасцьян Салдэвілья, якога аматары тэатра ведаюць і па мюзіклу «Каралева цырка».

# Папулярныя аўдыёкнігі?

**Як сведчаць апошнія даследаванні цэнтраў Edison Research і Triton Media, у 2019 годзе 50% амерыканцаў аддалі перавагу аўдыёверсіям літаратурных твораў, а не папяровым кнігам.**

Такая папулярнасць аўдыёкніг, лічаць сацыёлагі, можа быць абумоўлена ростам ліку прыхільнікаў літаратуры, якія знаёмяцца з кніжнымі навінкамі ў аўтамабільных корках і падчас заняткаў спортам. 74% «чытачоў» рэгулярна слухаюць кнігі ва ўласных машынах, яшчэ 19% робяць гэта дома і наватвыкарыстоўваюць для праслухоўвання стэрэасістэмы.

Апытанне паказала таксама, што 42% слухачоў — больш за 18 гадоў. Даследаванне пацвердзіла папулярнасць аўдыёкніг і ў маладога насельніцтва ЗША. 55% аматараў аўдыё не дасягнулі 45 гадоў.

У сярэднім за апошнія паўгода кожны жыхар ЗША праслухаў 6,5 твораў, а некаторыя — і 10. Больш за палову апытаных прызналіся, што сталі надаваць больш часу праслухоўванню літаратурных твораў, а не музыкі ці радыё.

Самымі папулярнымі жанрамі па-ранейшаму застаюцца трылеры, дэтэктывы і фантастыка, а таксама публіцыстыка, гісторыя, навука і біяграфіі вядомых людзей.

Прэзідэнт Simon & Schuster Audio Крыс Лінч адзначыў: «Новыя дадзеныя толькі пацвярджаюць нашую ўпэўненасць у пазітыўным развіцці гэтага сегмента: аўдыёкнігі імкліва набіраюць папулярнасць, і адбываецца гэта ў асноўным дзякуючы людзям, якія гатовыя і хочуць асвойваць новыя тэхналогіі для самаразвіцця, 50% — гэта вельмі добра, аднак у будучыні мы чакаем яшчэ большыя лічбы».

## «Чырвоны каптурок» і сэксізм

Некалькі школ Барселоны разглядаюць магчымасць выключэння з бібліятэкаў некаторых дзіцячых кніг пасля таго, як адна навучальная ўстанова назвала «стэрэатыпнымі і сэксісцкімі» каля 200 кніг.

У спіс увайшоў, у прыватнасці, «Чырвоны каптурок». Праверка 600 кніг, якія былі прадстаўленыя ў дзіцячай бібліятэцы школы Tàber, прайшла ў межах праекта па выяўленні схаванага сэксісцкага кантэнту. Разглядаўся кожны персанаж кнігі, тое, што ён казаў і якую ролю. 30% кніг былі прызнаныя ў вышэйшай меры сэксісцкімі, стэрэатыпнымі, якія не маюць педагагічнай каштоўнасці...

У спіс увайшлі некалькі версій «Чырвонага каптурка» і гісторыя святога Георга, заступніка заканаых. Менш стэрэатыпныя версіі твораў у бібліятэцы ўсё ж пакінулі.

# Кніга нечалавека?

**У кніжным аддзеле online-крамы Amazon, які мае тысячы электронных кніг, з'явілася новае выданне ад Springer Nature. Кнігу напісаў не чалавек, а алгарытм, які выкарыстоўвае прынцыпы машыннага саманавучання.**

Зрэшты, выданне не стала цікавым мастацкім творам, але і было яно задуманае зусім дзеля іншых мэтаў.

Алгарытм, які стварыў тэкст, распрацавалі спецыялісты ў сферы штучнага інтэлекту з лабараторыі Прыкладной кампутарнай лінгвістыкі ўніверсітэта Гётэ ў нямецкім Франкфурце.

Мэтай стварэння гэтага алгарытму стала не «замена» аўтараў мастацкай літаратуры, а спроба зрабіць падборку-дайджэст з усёй масы сусветных даследаванняў, якія звязаныя з літый-іённымі акумулятарамі.

За апошні час навукоўцы і навуковыя групы з розных краін апублікавалі ў інтэрнэце каля 53 тысяч артыкулаў і вынікаў даследаванняў, якія праводзіліся ў названай сферы толькі на працягу трох гадоў. Тэма літый-іённых акумулятараў вельмі запатрабаваная, бо гэтыя прылады выкарыстоўваюцца ў электрамабілях, кампутарах, тэлефонах, гадзінніках.

І чалавек не можа перапрацаваць аграмадную колькасць навуковых тэкстаў, трымаючы «руку на пульсе» гэтай тэмы. Аднак з гэтым цалкам можа справіцца спецыялізаваны алгарытм, які здольны правесці хуткі аналіз тысяч публікацый. Дадзеныя аналізу сістэматызуюцца і напаўняюць базу, якая з'яўляецца асновай для працы алгарытму.

Кніга, аб'ём якой 180 старонак, уяўляе сабой асноўныя вытрымкі для навукоўцаў і даследчыкаў: ім цяпер не трэба пераглядваць тысячы дакументаў.

Распрацаваны алгарытм не абмежаваны толькі сферай літый-іённых акумулятарных батарэй. Яго можна пераарыентаваць на стварэнне зборнікаў у любой сферы навуковых даследаванняў. І ўжо хутка такія дайджэсты будуць складаць індывідуальна на аснове спецзапытаў ад розных навуковых устаноў і даследчых груп.

# Дом, дзе напісаная «Рамэа і Джульета»



**Як паведамляе выданне «CNN London», у Лондане гісторыкам знойдзены дом вялікага ангельскага паэта і драматурга Ўільяма Шэкспіра, дзе ён напісаў несмяротную драму пра каханне «Рамэа і Джульета».**

Згодна з новым даследаваннем тэатразнаўца і гісторыка, упершыню дакладна было ідэнтыфікавана месцазнаходжанне лонданскага дома Шэкспіра, дзе драматург напісаў «Рамэа і Джульету».

На пошукі дома ангельскага драматурга і паэта гісторыку тэатра Джэфры Маршу спатрэбілася цэлае дзесяцігоддзе. Ён старанна даследаваў архівы і старыя дакументы, каб дакладна вызначыць, дзе жыў Шэкспір у 1590-х гадах.

Пошукі пачаліся пасля таго, як у 2008 годзе быў знойдзены Елізавецінскі тэатр ва Усходнім Лондане.

Раней было ўстаноўлена, што Шэкспір жыў у цэнтры Лондана, побач са станцыяй Ліверпуль-стрыт, у той час вядомай як прыход St. Helens, але дакладнае месцазнаходжанне так і не было вызначана.

Паводле інфармацыі Марша, усе дадзеныя сведчаць аб тым, што Шэкспір жыў у доме з выглядам на царкоўны двор St. Helens, арандуючы яго ў гільдыі гарбароў. Няправільнае напісанне стварала цяжкасці для расшыфроўкі і інтэрпрэтацыі дакументаў, але Марш змог прааналізаваць запісы, якія былі «выдатна» захаваныя — пачынаючы з 1550-х гадоў.

Джэфры Марш, які з'яўляецца дырэктарам Дэпартамента тэатра і перформансу Музея Вікторыі і Альберта, адзначыў: «Месца, дзе Шэкспір жыў у Лондане, дае нам больш глыбокае разуменне натхнення для яго-най працы і жыцця. Некалькі гадоў пасля пераезду ў Лондан з Стратфарда ён жыў у адным з самых багатых прыходаў горада, побач з уплывовымі грамадскімі дзеячамі, заможнымі міжнароднымі гандлярамі, паважанымі лекарамі і дасведчанымі музыкамі».

Гісторык дадаў, што пражыванне ў такім месцы, як Лондан, «палепшыла статус Шэкспіра, паколькі ён развіваў сваю кар'еру, расшукваў свой фамільны герб і планаваў купіць вялікі і дарагі дом».

# Знішчаецца музей Набокава?

**Паводле паведамлення otr-online.ru, у Санкт-Пецярбургу руйнуюць дом-музей пісьменніка Уладзіміра Набокава, каб перарабіць яго ў музычную школу.**



Гэты дом з'яўляецца адзіным у свеце музеем Набокава, акрамя сядзібы Каляды ў сяле Каляды Гатчынскага раёна.

Дом №47 на Вялікай Марской належаў сям'і Набокава з 1897 года. Там літаратар нарадзіўся і пражыў да Кастрычніцкага перавароту. Пасля ад'езду з Расіі пісьменнік жыў толькі ў гасцініцах, а пра пецярбургскі дом захоўваў самыя цёплыя ўспаміны, называючы яго «адзіным у свеце домам».

Цяпер дом зачынены для наведвання, паколькі ўнутры ідзе рамонт — знімаюць ляпніну і драўляныя ўпрыгожванні, а экспанаты накрытыя плёнкай. «У доме, дзе меншую частку займае музей, ідзе рамонт, — паведаміў журналісту супрацоўнік музея. — Работы вядуцца ў памяшканнях, якімі ў цяперашні час валодае музычная школа. Але ўваход у будынак адзін. Таму музей і зачынены для наведвальнікаў».

Музей Набокава створаны ў 1993 годзе і займае першы паверх дома, дзе нарадзіўся і жыў пісьменнік да вымушанага ад'езду з Расіі. З тых часоў нязменным застаўся інтэр'ер у некалькіх пакоях. Калекцыю адзінага ў свеце музея Набокава сфарміравалі з прадметаў прыватных калекцый. Сын пісьменніка Дзмітрый Набокаў перадаў некаторыя экспанаты: алоўкі, рабочыя карткі з рукапісамі, пенснэ, гульню «Скрэббл» з аўтографамі пісьменніка, а таксама сачок для лоўлі матылькоў.

Цяпер у музейнай калекцыі прадстаўлены асабістыя рэчы пісьменніка і ўнікальная калекцыя першых выданняў яго твораў, падрабязна асвятляецца гісторыя сям'і і культурная спадчына Набокава ў Расіі і за мяжой. Каштоўную частку складае і адзіная ў Расіі калекцыя матылькоў Набокава.

На базе музея вядзецца навукова-даследчая работа, праходзяць канферэнцыі літаратуразнаўцаў, адукацыйныя школы для студэнтаў і аспірантаў, чытанні мастацкіх твораў і музычныя вечарыны, арганізуюцца часовыя выставы.

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

# Беларусь была перадусім

## Пяць гадоў без Генадзя Бураўкіна…

***

З маці я не бачылася паўгода, пакуль на Новы год не прыехала з Украіны мая бабуля Вася. «Що ти наробила?! Дитя вийшло заміж, а ти що наробила?!» — накрычала яна на маці. І з таго часу мы атрымалі дазвол прыходзіць да маіх бацькоў у нядзелю на абед. Для нас гэта было важна, бо жылі мы надгаладзь. Гэта ўжо потым, калі Генадзь пачаў працаваць стыль-рэдактарам у часопісе «Камуніст Беларусі», грошай у нас стала трохі больш, і мы нават перасяліліся ў той жа кватэры ў іншы, большы пакой. Там пражылі два гады да таго часу, пакуль Саюз пісьменнікаў не даў нам двухпакаёвую кватэру — напалам з Косцем Цвіркам: нам дастаўся меншы пакой, бо ў Косці была дачка. Тут мы жылі амаль год, пакуль ні нарадзіўся сын Лёша, і тады мая маці забрала мяне да сябе, праўда, не надоўга, бо неўзабаве мяне з Лёшам паклікала да сябе бабуля Вася, у якой я пражыла ўсё лета. Яна вельмі любіла мяне. Гэтаксама, дарэчы, як і мой дзядзька Уладзімір Аляксеевіч...

***

Жыццё мы пражылі, канешне, няпростае. Мы былі дастаткова розныя па характары. У першыя гады, калі мы пазнавалі адзін аднаго, пазнавалі ва ўсіх сэнсах (ён у мяне быў першы, і я была першай у яго), гэта было іначай, чым сталася потым, калі любоў да літаратуры, як цяпер разумею, пачала пераважаць у яго над усім. Дый і ў маім стаўленні да Генадзя таксама з цягам часу стала пераважаць мая ўвага да яго найперш як да паэта, прычым паэта падкрэслена беларускага. Апроч таго, я вельмі паважала яго за прынцыповасць і за грамадзянскую пазіцыю, за вернасць гэтай сваёй пазіцыі. Часам гэтая мая павага была нават на першым месцы — менавіта яна вызначала калі не ўсё, дык многае...

Што ж да паэзіі, то хоць у адным інтэрв'ю Генадзь і казаў, што ягоныя вершы — гэта кветкі для мяне, але ён ніколі не дарыў мне вершаў, апроч гэтага вядомага — «Юнацтва сінія арэлі»:

*Яны прыглушана рыпелі*
*Сярод старых кашлатых ліп.*
*Мы тыя сінія арэлі*
*Зламаць нікому не далі б.*

*Над імі гойдаліся далі,*
*Яны нам казкаю былі —*
*І ў неба сіняе ўзляталі,*
*І ледзь краналіся зямлі.*

*І як бы мы ні пастарэлі,*
*Няхай і летам і зімой*
*Юнацтва сінія арэлі*
*Ляцяць між небам і зямлёй...*

Гэта верш нашага кахання, калі адносіны нашы былі ўсё яшчэ летуценныя і шчырыя...

Апошнім часам ён нават не чытаў мне новыя вершы, пакуль ужо не надрукуе. Не ведаю, з чым гэта было звязана. Мабыць,





з занадта высокай маёй крытычнасцю? Аднойчы я раскрытыкавала нейкія ягоныя вершы, а пасля тое ж самае сказаў Генадзю і Пімен Панчанка. І хоць у той момант я была шчаслівая, аднак цяпер ужо разумею, што трэба было мякчэй быць...

Між іншым, вядомы паэтычны зборнік «Пяшчота» я прымусіла Генадзя скласці. Ён хоць і пісаў вершы пра каханне яшчэ з юначых часоў, але яны былі раскіданыя па розных выданнях, вось я і параіла: «Збяры, калі ласка, кнігу, пакуль яшчэ свежае гэтае пачуццё». Так з'явілася «Пяшчота». І калі раней Генадзя называлі не іначай, як толькі грамадзянскім паэтам, пасля выхаду «Пяшчоты» ўсе ўбачылі, які гэта тонкі і лірычны паэт... Пазней у яго яшчэ выйшаў зборнік «Чытаю тайнапіс вачэй» з падзагалоўкам «Вершы пра каханне», але да гэтага я ўжо не мела дачынення...

Але што тычыцца яшчэ «Пяшчоты»: першапачаткова кніга была прысвечаная мне, але кіраўнік Дзяржкамітэта па друку Міхаіл Дзялец запытаўся ў Людмілы Чыгранавай, якая таксама працавала ў камітэце: «Што будзем рабіць з прысвячэннем?» — «Што ж у тым дрэннага? — перапытала яна. — Гэта ж ягоная жонка!» Аднак Дзялец усё адно выкрасліў прысвячэнне.

***

Вершы Генадзь заўсёды пісаў алоўкам, а пасля сам перадрукоўваў, адначасова робячы праўкі.

Мне цяжка сказаць, калі ён звычайна пісаў, — у яго не было звычкі сядзець па начах за пісьмовым сталом. Але часта бывала, што раптам усхопіцца сярод ночы і нешта запіша, нават не ўключаючы святла. А здаралася, што мог казаць наранні: «Такі верш напісаў ноччу і — забыўся!» У яго сапраўды было гэтак, як засведчана ў адным з ягоных вершаў:

*Яно яшчэ прыходзіць да мяне —*
*Кароткае, салодкае натхненне,*
*Як тайны знак,*
*Як маладое сненне,*
*Як зорка вечаровая ў акне.*

*Схмялелую душу бярэ ў аблогу,*
*Шукае сцежку ў мройным тумане...*
*Яно яшчэ прыходзіць да мяне*
*І празарэнне дорыць,*
*Дзякуй Богу...*

Але гэта верш апошняга часу, у маладосці натхненне часта наведвала Генадзя...

***

Пасля часопіса «Камуніст Беларусі» Генадзь перайшоў працаваць у «ЛіМ», куды яго запрасіў галоўны рэдактар Нічыпар Пашкевіч. Запрасіў, паабяцаўшы кватэру. І сапраўды, неўзабаве мы атрымалі двухпакаёвую кватэру па вуліцы Друкарскай, 21 (цяпер гэта вуліца Сурганава). Там і рос наш сын Лёша. Удзень я звычайна знаходзілася на працы ў выдавецтве, увесь час непакоілася і глядзела ў акно, якое выходзіла на наш балкон. Трэба ж было працаваць, таму з Лёшам заставалася нянька (нянькі — дзяўчаты, жанчыны — у нас бясконца былі), а я толькі прыбягала пакарміць яго...

Я ж прайшла ўвесь гэты выдавецкі шлях ад самага нізу: спачатку была карэктарам у выдавецтве «Беларусь», пасля рэдактарам, загадчыкам рэдакцыі, галоўным рэдактарам, нарэшце, дырэктарам выдавецтва «Народная асвета». Нават у школе працавала — адразу пасля заканчэння ўніверсітэта выкладала беларускую мову і літаратуру. Праўда, некаторыя калегі заўважалі: «Вам очень не идёт говорить по-белорусски!» Мабыць, з прычыны зайздрасці... Затое мяне вельмі любілі сямікласнікі. І калі ішла дадому, усе яны, усе сямнаццаць чалавек, хаваючыся, кіраваліся за мной следам. Я была тады маладая...

А рускую мову і літаратуру ў нас у школе выкладала Яўгенія Васільеўна Перавозная. Пазней яна пісала падручнікі па рускай мове і літаратуры, па якіх цяпер вучыцца мая ўнучка Маша. Мне вельмі было шкада Яўгенію Васільеўну, бо ў той час яна разводзілася з мужам і адначасова чакала дзіця. І якраз тады адбыўся інцыдэнт у класе, дзе я была класным кіраўніком, — мае дзеці неяк непрыгожа паступілі з Яўгеніяй Васільеўнай. Даведаўшыся пра тое, я пыталася ў іх: «Як вам не сорамна?..» І гэта, на дзіва, станоўча паўплывала на іх — Яўгенія Васільеўна была здзіўлена: «Юлія Якаўлеўна, што вы зрабілі са сваім класам, што яны так змяніліся?!»

Між іншым, чамусьці згадвалася, як класны кіраўнік нашага сына Лёшы Вера Нікадзімаўна аднойчы запыталася: «Юлія Якаўлеўна, можа, вы лекцыю прачытаеце пра тое, як вы выхоўваеце сына? Бо, здавалася б, з тако-ой сям'і, а нібыта з сям'і звычайнага шаўца!» Гэта быў, вядома, камплімент мне. «Не, Вера Нікадзімаўна, лекцыю не магу прачытаць, — адказала я. — Яно само сабой неяк атрымліваецца».

***

Дома ў нас, калі збіраліся госці, заўсёды было весела. Звычайна да нас завітвалі Васіль Быкаў, Мікалай Матукоўскі (нягледзячы на розніцу ў восем гадоў, яны з Генадзем сябравалі яшчэ са школьных гадоў; Матукоўскі праз усё жыццё падтрымліваў Генадзя), Валянцін Блакіт, Ніл Гілевіч, Генадзеў зямляк Ягор Сухарукаў, міністр сельскай гаспадаркі... Божа мілы, мы так спявалі беларускія песні, што нават людзі стаялі пад нашымі вокнамі і слухалі! Мусіць, невыпадкова сын Лёша, скончыўшы БДУ, доўгі час яшчэ спяваў і танчыў у «Нерушы»...

**Генадзю прапаноўвалі стаць сакратаром ЦК камсамола Беларусі, і ён нейкі час вагаўся, аднак я запярэчыла: «Калі пойдзеш з імі, я з табой не буду!» Я цярпець не магла гэтых «камсахлопчыкаў»!**



**1973 год. Разам з Андрэем Макаёнкам і Васілём Быкавым.**
Фота Уладзіміра Крука

Калі Генадзь узначаліў Дзяржтэлерадыё, ягонае жыццё змянілася карэнным чынам — працу ў часопісе «Маладосць» у параўнанні з гэтым можна назваць адпачынкам. (Між іншым, Генадзю яшчэ прапаноўвалі стаць сакратаром ЦК камсамола Беларусі, і ён нейкі час вагаўся, казаў, што, можа, здолее нешта зрабіць на гэтай пасадзе для Беларусі, аднак я запярэчыла: «Калі пойдзеш з імі, я з табой не буду!» Я цярпець не магла гэтых «камсахлопчыкаў»! І ён не пайшоў з імі.)

Да сваіх новых абавязкаў Генадзь паставіўся дужа адказна. Я дзівілася, як скрупулёзна ён да ўсяго падыходзіў! Ён жа ўсё глядзеў і слухаў — дома былі адначасова ўключаны тэлевізар і радыё, тэлевізар быў і ў службовай машыне. Генадзь стаў выдатным знаўцам тэлевізійнай справы недзе ўжо праз год. Яго заўвагі заўсёды былі слушныя. Сама я не толькі вучылася такой вось адказнасці — я была ў захапленні ад яго прафесіяналізму...

І, канешне, быў вельмі цяжкі час, калі ў выніку беларусізацыі нашага тэлебачання над Генадзем навісла пагроза звальнення. У той дзень яго неаднаразова выклікалі ў ЦК, а ён спахмурнелы сядзеў за сталом, перад ім стаяла пляшка каньяку, і на ўсе тэлефанаванні адказваў адно: «Нікуды я не пайду. Мяне няма. Пайшлі яны!..» Зрэшты, над ім тады навісла пагроза не аднаго толькі звальнення — гэта азначала, што яго выганяць з ЦК, з Вярхоўнага Савета, з партыі, што яго ўвогуле могуць выкінуць з жыцця, паставіўшы пажыццёвы крыж на ім...

Няпэўнасць Генадзевага становішча доўжылася каля месяца — увесь гэты час у ЦК, відаць, не маглі вырашыць, што рабіць з Бураўкіным і з тэлебачаннем, якое было цяпер беларускім. І ў выніку нічога, мусіць, не прыдумаўшы, пакінулі на сваёй пасадзе.

Праўда, прыгадваецца яшчэ адна непрыемная гісторыя — гэта калі ў ЦК КПБ на Генадзя прыйшоў ананімны ліст, які не толькі быў успрыняты ўсур'ёз — разглядаць яго ЦК прымусіў калектыў Дзяржтэлерадыё. «Божа мілы, як Генадзь вытрымае гэта?!» — думала я тады ў жаху. Але ён згадзіўся на публічны разгляд сваёй справы. У той ананімцы ён абвінавачваўся ў беларускім нацыяналізме — маўляў, цягне на тэлебачанне пераважна беларусаў. Але Генадзь падрыхтаваў статыстычныя дадзеныя, паводле якіх абвінавачванні аказаліся беспадстаўнымі... Між тым аднаму Богу вядома, якога здароўя каштавала Генадзю вытрымаць гэта...

**Заканчэнне ў наступным нумары**

31 траўня 2019 | № 20 (631) Новы час

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ГЕРМАНІЯ. Немцы надзяваюць кіпы

Нямецкая прэса адрэагавала на параду, якую прадстаўнік ураду даў мясцовым габрэям. Чыноўнік заклікаў іх не насіць кіпы, каб не стаць ахвярамі антысемітаў. За апошні час колькасць праяў антысемітызму вырасла ў Германіі на 20 працэнтаў. СМІ вырашылі змагацца з гэтым адмоўным трэндам інакш. «Bild» — самы папулярны таблоід — заклікаў бюргераў адзяваць кіпы, і нават апублікаваў інструкцыю: як зрабіць кіпу ў хатніх умовах. Цяжка сказаць, ці падтрымаюць немцы ідэю. У мінулым годзе леваліберальная газета «TAZ» пайшла яшчэ далей. Яна размясціла на першай старонцы выяву кіпы, якую можна было выразаць, скласці адпаведным чынам і насіць. Але някепская ідэя не паўплывала на сітуацыю. З іншага боку, гэта цалкам лагічна. Антысемітызм пачаў квітнець дзякуючы мігрантам з арабскіх краінаў, якія рэдка чытаюць нямецкую прэсу. Застаецца дадаць, што частка габрэяў не падтрымала ініцыятывы з кіпай, паколькі для іх гэта не проста галаўны ўбор, а атрыбут рэлігіі.

**Паводле нямецкай прэсы**

### УКРАІНА. Як абіраць дэпутатаў

Не паспелі ўкраінцы абраць прэзідэнта, як іх зноў запрашаюць на выбары. Новаабраны прэзідэнт Уладзімір Зяленскі абвясціў пазатэрміновыя выбары парламента. Прычым, гарант прапануе праводзіць іх па новых правілах — абіраць дэпутатаў па партыйных спісах. На цяперашні момант, нагадаем, па спісах фармуецца толькі палова Вярхоўнай Рады. Другую палову складаюць дэпутаты, абраныя па мажарытарных участках, дзе, як правіла, рэгіструюцца найбольш брутальныя выпадкі палітычнай карупцыі. Акрамя ліквідацыі «мажарытаркі», прапануюцца і «адкрытыя спісы». Гэта азначае, што выбаршчык можа выкрэсліваць з партыйнага спісу несімпатычных яму асобаў. Пакуль парламент думае наконт прапаноў прэзідэнта, у грамадстве прапануюць новыя формулы выбараў. Сярод іншага атрымала папулярнасць ідэя абіраць кандыдатаў выпадкова, праз лёсаванне. Галоўны аргумент заключаецца ў тым, што пры такой схеме карупцыя практычна немагчымая. Узгадваюць і тое, што ў старажытнай Грэцыі чальцоў саветаў таксама абіралі праз лёсаванне. Праўда, аматары дэмакратыі пагаджаюцца, што эксперымент варта пачынаць на ўзроўні выбараў мясцовага самакіравання.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ЗША. Лічбавая калыханка

У Сіліконавай даліне актыўна ідзе праца па стварэнні так званай «гігіены сну». Сутнасць у тым, каб з дапамогай сучасных тэхналогій дапамагчы карпарацыям і фірмам кантраляваць паводзіны супрацоўнікаў у непрацоўны час. У вольны час ад супрацоўніка будуць патрабаваць весці здаровы лад жыцця. А самая галоўная задача — зрабіць так, каб супрацоўнік кампаніі добра высыпаўся і, адпаведна, прыходзіў на працу свежы і гатовы для працоўных подзвігаў. Натуральна, узнікае пытанне: як можна дамагчыся такой ступені дыстанцыйнага кантролю за арганізмам? На гэты конт ёсць шэраг новых прарыўных ідэй. Напрыклад, супрацоўнік будзе рэгулярна дасылаць кіраўніку запісы свайго голасу, аналіз якога дапаможа высветліць, у якім ён стане. І гэта толькі частка ноу-хаў. У комплексе мы даведаемся пра іх у наступным годзе, калі плануецца прадставіць на рынак першы пакет «гігіены сну».

**Паводле амерыканскай прэсы**

### ГРУЗІЯ. З прэзідэнта — у цесляры



Нечаканы шлях абраў Георгій Маргвелашвілі, які ў снежні 2018 года пасля пяцігадовай кадэнцыі пакінуў пасаду прэзідэнта Грузіі. Ён пасяліўся ў мястэчку ў 60 кіламетрах на поўнач ад Тбілісі, дзе пабудаваў невялікі энергаэфектыўны катэдж, і ўжо некалькі месяцаў здае пакоі турыстам. Забраніраваць жыллё «ў прэзідэнта» можна праз Airbnb або іншыя сэрвісы. За апошнія пару месяцаў да яго прыехалі ўжо некалькі дзясяткаў чалавек. Таксама былы прэзідэнт заняўся рамяством і ўласнаручна вырабіў некалькі прадметаў мэблі — у асноўны і гасцявы дом. Займацца гэтым, паводле яго ўласнага прызнання, яму давялося для таго, каб пракарміцца. Дзяржаўнай пенсіі па ўзросце Маргвелашвілі яшчэ не нададзена (у Грузіі мужчыны атрымліваюць яе з 65 гадоў). А на пенсію, якую Маргвелашвілі тэарэтычна мог бы атрымліваць як былы прэзідэнт, па грузінскіх законах, ён права не мае, паколькі можа працаваць. Вось і давялося ісці ў цесляры. Аднак грошай усё адно мала. Інакш бы экс-гарант не надумаў разводзіць коней.

**Паводле грузінскай прэсы**

# Каму перашкаджаюць руны?

Алег НОВІКАЎ

**Шведскі ўрад абвясціў пра намер забараніць руны — старажытнае пісьмо скандынаваў, каб спыніць рост правага радыкалізму.**



Фота www.ok.ru

Увогуле, слова «руна» паходзіць ад гоцкага слова «runa», што азначае «таямніца». Гэта вельмі трапна, паколькі навукоўцы дасюль не маюць канчатковай версіі наконт паходжання дадзенай формы пісьменнасці, якая да пашырэння хрысціянства дамінавала на поўначы Еўропы. Прыкладна да XII стагоддзя, там-сям нават да XIV-га, руны ўжываліся на тэрыторыі сучасных Даніі, Швецыі, Нарвегіі, Ісландыі і Грэнландыі. Сустракаюцца тэорыі, што свае руны былі таксама ў славян.

Пры гэтым доўгі час ніякага палітычнага падтэксту руны не мелі. Пасля таго, як рунічнае пісьмо выціснула лацінка, руны ўжывалі хіба што падчас варажбы. Палітыкі зацікавіліся рунамі толькі ў часы нацыянальнага рэнесансу XIX стагоддзя, калі сярод тых жа немцаў пайшла мода ганарыцца сваімі прашчурамі-германцамі, якіх, маўляў, баяўся нават Рым.

Хапала ў гэтых колах і эзатэрыкаў, якія бачылі ў рунах артэфакт нейкай таямнічай звышцывілізацыі. Адзін з іх, Гвіда фон Ліст сцвярджаў, што сістэму рунічнай пісьменнасці са спрадвечных часоў выкарыстоўвала чыстакроўная «раса» бялявых блакітнавокіх людзей пад назвай «арыі-германцы». Такія выслоўі, відавочна, рэзаніравалі з лозунгамі нямецкіх нацыстаў, якія хутка выйшлі на палітычную сцэну...

Не дзіўна, што пры нацыстах рунічныя знакі сталі часткай афіцыйнай сімволікі Германіі. Дастаткова ўзгадаць сімвал SS, які складалі дзве белыя руны S на чорным фоне. Сустракаюцца руны і на сімволіцы іншых вайсковых фарміраванняў або дзяржаўных арганізацый накшталт Гітлерюгенда. Нацысты выкарыстоўвалі ўсяго 14 рунаў, кажуць адмысловцы. Рунамі таксама любілі аздабляць зброю і розныя прадметы. Успадкавалі ідэі Ліста наконт «тайных арыйскіх пісьмёнаў» і наступныя генерацыі неанацыстаў.

І вось цяпер гэты трэнд, магчыма, знікне. Прынамсі, паводле слоў шведскага міністра юстыцыі Моргана Ёхансана, яго дэпартамент вывучае прапанову забараніць публічныя выявы рунаў. Калі чыноўнікі запусцяць заканадаўчы працэс, забарона можа ахапіць усе выявы старажытных рунаў, тэматычныя малюнкі і традыцыйныя ўпрыгожванні.

Асноўная прычына — актыўнае выкарыстанне рунаў адэптамі сучаснага шведскага неанацысцкага руху. Аспрэчваць гэты факт сапраўды цяжка. Як і тое, што прываблівая эстэтычная кампанента дапамагае розным палітычным структурам вербаваць новыя кадры, займацца рэкламай. Неанацысты, напэўна, тут не выключэнне. Праўда, можна паспрачацца, ці менавіта дзякуючы выявам рунаў Шведскія дэмакраты (вядучая палітсіла на мясцовым правым флангу) нарошчваюць сваю дэпутацкую квоту?

**Паводле слоў шведскага міністра юстыцыі Моргана Ёхансана, яго дэпартамент вывучае прапанову забараніць публічныя выявы рунаў. Калі чыноўнікі запусцяць заканадаўчы працэс, забарона можа ахапіць усе выявы старажытных рунаў, тэматычныя малюнкі і традыцыйныя ўпрыгожванні**

Гэта не адзіны папрок, які гучыць на адрас Ёхансана праз яго ідэю. Для шматлікіх шведаў руны — гэта частка культурнай і гістарычнай спадчыны. Калі ўжо забараняць руны, дык трэба забараняць увесь культурны прадукт эпохі вікінгаў, без якіх нельга ўявіць гісторыю краіны.

Да лагеру крытыкаў міністра далучыліся нават актывісты і ветэраны сацыял-дэмакратычнай партыі, сябрам якой з'яўляецца сам Ёхансан. Адзін з былых дэпутатаў-эсдэкаў напісаў у Twitter: «Наш урад падтрымлівае палітыку мультыкультуралізму, але высвятляецца, што ў нас (шведаў) пры гэтым не павінна быць уласнай культуры. Урад спрабуе цэнзураваць нашу ўласную культурную спадчыну і сцерці нашы карані».

Нажалі шведскія эсдэкі сабе ворагаў і ў асяроддзі неапаганцаў, якія моляцца багам дахрысціянскага пантэону. Тыя адразу пабачылі ў прапановах Ёхансана замах на свабоду рэлігійнага выбару, які, дарэчы, гарантаваны Канстытуцыяй. Гледзячы па ўсім, паганскі культ у Скандынавіі мае папулярнасць. Інакш бы толькі за адзін дзень петыцыя ў абарону рунаў на неапаганскім сайце Nordiska Asa-Samfundet не сабрала б 13 тысяч подпісаў.

І гэта яшчэ без падключэння велізарнай арміі аматараў металу — субкультуры прыхільнікаў металічнай музыкі, якія часцяком ідэнтыфікуюць сябе праз руны і іншыя сімвалы германскай міфалогіі. Прычым у іх гэта адбываецца без палітычнага складніку, выключна паводле эстэтычных меркаванняў. Шмат хто з іх любіць насіць адпаведныя татуіроўкі. У сецівe ўжо жартуюць наконт таго, што ў шведскім бюджэце хутка будзе створаны асобны артыкул, сродкі з якога пойдуць на тое, каб прыбіраць тату з рунамі з целаў шведаў.

Таксама незразумела, як трэба ў кантэксце новай палітыкі наконт рунаў ставіцца да славутай сагі Толкіена «Валадар пярсцёнкаў», для якой аўтар, як вядома, прыдумаў асобны рунічны алфавіт. Увогуле, у выпадку забароны рунаў у Швецыі давядзецца забараняць не толькі гэты твор. Пасля Толкіена руны з'яўляюцца часткай сучаснай масавай культуры, асабліва ў фэнтэзі-літаратуры.

Як бачым, пакуль ідэя Ёхансана выглядае ўтапічнай. Аднак на дадзеным этапе прамежкавае рашэнне застаецца ўсё роўна за чыноўнікамі. Акрамя таго, эксперты, якія вывучаюць шведскую правую сцэну, лічаць забарону рунаў слушнай. Гэтыя знакі, па іх словах, у моладзевым асяроддзі даўно сталі эрзацам свастыкі.



Фота www.dw.com

# Еўрасаюз зелянее

Алег НОВІКАЎ

**Галоўным сюрпрызам мінулых выбараў у Еўрапарламент стаў трыумф эколагаў, без альянсу з якімі стварыць устойлівую адміністрацыю ЕС будзе немагчыма. Чаго чакаць ад «Зялёнай Еўропы»?**

Другія на выбарах у Еўрапарламент у Германіі і ў Фінляндыі, трэція — у Францыі і Люксембургу, чацвёртыя — у Нідэрландах, Бельгіі, Ірландыі і ў Вялікабрытаніі. Такая геаграфія поспеху зялёных, якія пасля 26 траўня нарасцілі сваю фракцыю ў Брусэлі аж на 10 працэнтаў — з 51 да 70 дэпутатаў. Шакаванае гэтымі вынікамі швейцарскае выданне «Le Croix» нават задумалася наконт змены сімволікі ЕС — зрабіць блакітнае поле сцяга Еўрасаюза зялёным.

Гэты поспех — дзякуючы моладзі і жыхарам буйных гарадоў. Менавіта гэтыя катэгорыі выбаршчыкаў, як лічаць эксперты, справакавалі нечаканую «зялёную хвалю». Верагодна, грамадзян матываваў галасаваць за зялёных адносна малады ўзрост іх кандыдатаў, які заклікалі глядзець у будучыню, а не жыць мінулым. Спрыяў зялёным таксама і папулярны зараз у Еўропе флэшмоб, падчас якога школьнікі заклікаюць палітыкаў пачаць нарэшце нешта рабіць супраць глабальнага пацяплення.

Эфект перамогі эколагаў узмацняе адначасовы канфуз традыцыйных партый. Пра брытанскіх кансерватараў, якія атрымалі мікраскапічныя 8 працэнтаў, увогуле казаць смешна. У ФРГ хрысціянскія дэмакраты ўтрымалі перамогу, аднак згубілі пры гэтым аж 15 працэнтаў. І тое яшчэ не самыя гучныя скандалы. Нагадаем, гэта былі першыя выбары, на якія партыю фармальна вяла Анегрэт Крамп-Карэнбаўэр — будучая пераемніца Меркель. А пазіцыі нямецкіх сацыял-дэмакратаў з атрыманымі 18 працэнтамі пахіснуліся настолькі моцна, што пайшла дзяжурная серыя адставак.

З зялёнымі на мінулых выбарах здолелі канкураваць, хіба, правыя папулісты. Іх галоўныя трафеі — першыя месцы ў Францыі, Італіі, Венгрыі, Чэхіі і Польшчы. За Бугам, дарэчы, таксама здарылася сенсацыя. Атрыманыя ўрадавай партыяй «Права і Справядлівасць» (PiS) 45 працэнтаў галасоў — абсалютны рэкорд. Шырокая шматпартыйная платформа, пад дах якой сабраўся гербарый усіх апанентаў PiS, значна адстала. Як вынік — напярэдадні восеньскіх выбараў у Сейм апазіцыя выглядае разгубленай і, нібыта, не здольнай да мабілізацыі. Падаецца, што ініцыятыва пераходзіць да Роберта Бедроня — першага польскага мэра, адкрытага гомасексуала, — чыя створаная ўзімку леваліберальная партыя адхапіла 6 працэнтаў.

Нягледзячы на пералічаныя вышэй поспехі правых папулістаў, іх сумарны вынік цяжка назваць перамогай. Шматлікія фракцыі еўраскептыкаў у будучым парламенце павялічыліся, аднак усё ж застаюцца ў меншасці. Але і статус-кво ў Еўрапарламенце ўсё ж не захаваецца. Сацыял-дэмакратам і кансерватарам праз дэфіцыт мандатаў упершыню за час існавання інстытута давядзецца запрашаць у так званы «блок» трэцяга.

Гледзячы па некаторых сігналах, адпаведнае запрашэнне будзе накіраванае зялёным. Пра гэта ўжо намякае Манфрэд Вебер — адзін з кандыдатаў на пасаду кіраўніка Еўракамісіі. Марцін Сельмайр — генсек Еўракамісіі, прагназуе, што зялёная тэматыка будзе часткай праграмы наступнага старшыні галоўнага органа аб'яднання.

А што самі зялёныя? Калі глядзець па прэсе, яны пакуль яшчэ цалкам не працверазелі ад нечаканага поспеху і толькі пачынаюць думаць, што ім патрабаваць у час кааліцыйных перамоваў. Увогуле, прыярытэтнымі фішкамі для зялёных у апошні час з'яўляюцца абарона клімату, сацыяльная справядлівасць і грамадзянскія свабоды. Напрыклад, зялёныя выступаюць за сур'ёзную дыскусію наконт таго, наколькі адпавядаюць стандартам еўрапейскай дэмакратыі цяперашнія папулісцкія рэжымы ў Венгрыі, Польшчы, Славакіі і іншых краінах.

Аднак, чуючы першыя каментары спікераў зялёных, коштам за ўваход у кааліцыю, хутчэй за ўсё, будзе пакет рэформаў у абарону клімату. І тут адразу ўзнікае пытанне: ці гатовыя старыя партыі пачуць зялёных, якія вымагаюць рашучых крокаў у гэтай галіне? Увогуле, паводле парыжскіх дамоваў 2015 года, 28 краін Еўрасаюза павінны скараціць да 2030 года выкіды парніковых газаў на 40 працэнтаў.

Аднак у колах эколагаў такія лічбы лічаць недастатковымі і заклікаюць да больш жорсткіх захадаў. Напрыклад, нямецкія «Зялёныя» патрабуюць да 2030 года цалкам забараніць аўтамабілі, якія працуюць на дызельных і газавых рухавіках. Натуральна, гэта не падабаецца акулам аўтабізнесу, інтарэсы якіх лабіруюць тыя ж кансерватары. І гэта толькі адно са шматлікіх спрэчных пытанняў. Напрыклад, незразумела, ці знойдуць аматары «рэалпалітык» кампраміс з эколагамі наконт «Паўночнага патоку–2»?

Таксама незразумела, наколькі эколагі будуць прынцыповыя падчас будучых кансультацый. У свой час яны паддаваліся ціску істэблішменту, напрыклад, падтрымаўшы бамбардзіроўкі Югаславіі. Некаторыя з зялёных ужо занялі бескампрамісныя пазіцыі. Філіп Ламбер, ветэран бельгійскіх зялёных, увогуле сфармуляваў папярэднюю ўмову для ўдзелу ў перамовах наконт блоку. Ён заклікае аднапартыйцаў сабатаваць міжпартыйныя размовы, пакуль Еўракамісія не зробіць канкрэтныя крокі ў абарону правоў грамадзян Венгрыі.

Некаторыя крытыкуюць такі жорсткі падыход, аднак у прынцыпе ўсе пагаджаюцца: калі зялёныя не будуць паслядоўнымі і не дамогуцца рэальных пераменаў, рэйтынгі яны не ўтрымаюць. Відавочна, што партыі, якія прайгралі апошнія выбары, пачнуць надаваць тэме клімату больш увагі. Адначасова малады электарат гатовыя змагацца з эколагамі тыя ж «партыі піратаў» або сатырычныя партыі. Напрыклад, у Германіі на апошніх выбарах нечакана шмат галасоў (2,5 працэнта) атрымала партыя сатырыкаў, якая выступае з самымі абсурднымі патрабаваннямі: накшталт дыпламатычнага прызнання Аўстра-Венгрыі і стварэння нямецкай атамнай бомбы.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### Віталь Клічко



Мэр Кіева і праваднік партыі «Удар», магчыма, можа паўтарыць шлях львоўскага калегі Андрэя Садовага, які праз няздольнасць вырашыць праблему смецця страціў статус агульнанацыянальнага палітыка.

Ролю смецця ў выпадку Клічко згуляў шкляны мост у цэнтры сталіцы, які бургамістр святочна адкрыў на мінулых выхадных. Паколькі мерапрыемства адбылося на фоне выбарчай парламенцкай кампаніі, шыкоўны мост быў някепскім піярам для «Удара». Аднак у выніку адбыўся казус. Хутка ў мосце былі выяўленыя дзве расколіны. Давялося рух на ім прыпыніць. Каб неяк апраўдацца, Клічко размясціў запіс у сеціве пра тое, што здарылася правакацыя: быццам нехта стрэліў у канструкцыю. Аднак ледзь не сінхронна выявілася яшчэ адна расколіна, а апаненты баксёра-мэра запусцілі ў інтэрнэт плёткі пра тое, што Клічкоўскі мост вібруе.

Адразу ўсе сталі цікавіцца гісторыяй праекту — і хутка знайшлі забаўныя дэталі. Аказваецца, праект шклянога моста прапанавала Кіеву нейкая швейцарская кампанія. Аднак ад паслугаў швейцарцаў адмовіліся, каб перадаць замову на будаўніцтва фірме, якая мае шчыльныя кантакты з мэрам. Нават дзіцяці зразумела, што тут не абышлося без карупцыі. Цяпер можна толькі здагадвацца, як дорага гэта будзе каштаваць партыі Клічко на выбарах, якія пройдуць ужо 21 ліпеня.

Што да Клічко, дык ён прапанаваў жыхарам сталіцы стварыць добраахвотныя фармаванні па ахове аб'ектаў інфраструктуры.

### Лівіў Драгня



Лідар румынскай сацыял-дэмакратычнай партыі (PSD) увойдзе ў падручнікі паліталогіі. Ён стаў першым кіраўніком урадавай партыі, які быў асуджаны і павінен адправіцца за краты.

Адпаведны вердыкт быў агучаны 27 траўня Вярхоўным судом Румыніі, які прызнаў Драгню вінаватым у карупцыі. У справе гаворка ідзе пра падзеі 2006–2010 гадоў, калі ён узначальваў мясцовы савет у адным з рэгіёнаў. Суд прызнаў яго вінаватым у тым, што ён патрабаваў ад мясцовых чыноўнікаў узяць на працу сваіх аднапартыйцаў. За гэтыя фокусы палітык павінен быць пакараны турэмным тэрмінам — тры з паловай гады.

Прысуд лідару эсдэкаў можна лічыць перамогай Еўрапейскага саюза, які доўга дамагаўся рэформы судовай сістэмы ў Румыніі і перасledу карупцыянераў. Аднак максімум, што ўдавалася еўрапейцам у выпадку таго ж Драгні — выдаліць карупцыянера з публічнага жыцця.

Працэс над палітыкам, відавочна, дапамог правай і праеўрапейскай апазіцыі перамагчы сацыял-дэмакратаў на выбарах у Еўрапарламент, якія прайшлі 25 траўня. Праўда, разрыў з сацыял-дэмакратамі, якія прыйшлі другімі, складае толькі два працэнты. Гэта дало сацыял-дэмакратам маральнае права заявіць, што яны не збіраюцца ў адстаўку, а Драгня працягне кіраваць структурай нават з-за кратаў.

### Гітанас Наўседа



Поспех новага прэзідэнта Літвы некаторыя лічаць рымейкам нядаўняй перамогі ва Украіне Уладзіміра Зяленскага, паколькі простаму выбаршчыку Наўседа вядомы як каментатар на тэлебачанні, які тлумачыў, чаму жыццё даражэе і як зрабіць так, каб у краіну вярнуліся грошы і людзі.

Аднак ён — прафесіянал сваёй справы: доктар навук, дасведчаны выкладчык, паспяховы фінансіст, які кансультаваў як дзяржаўныя ўстановы, так і прыватныя банкі. Праўда, выбары шмат у чым ён сапраўды выйграў на пратэстных настроях супраць Далі Грыбаўскайтэ, пераемнікам якой лічылася Шыманітэ.

Падкрэсленае супрацьпастаўленне Наўседы і Грыбаўскайтэ адразу выклікала дэбаты наконт таго, як моцна будзе падкрэктаваны знешні курс Вільні пры новым гаранце. Сапраўды, Наўседа больш актыўна выказваўся за паляпшэнне адносінаў з краінамі-суседзямі. Грыбаўскайтэ пакінула яму ў спадчыну напружаныя адносіны з Варшавай, Мінскам, Масквой і нават з Рыгай (былая прэзідэнтка праігнаравала сотую гадавіну латышскай незалежнасці).

Пакуль эксперты не разумеюць, як можна наладзіць дыялог з Расіяй, з улікам моцнага антырасійскага кансенсусу ў літоўскай эліце. А вось на польскім накірунку прарыў сапраўды магчымы. Новы гарант можа пайсці на саступкі ў пытанні правоў польскай меншасці — дазволіць пісаць прозвішчы па-польску. Невыпадкова Наўседа ўжо абвясціў, што першы яго замежны візіт у якасці прэзідэнта адбудзецца ў Варшаву.

# «Грошы, паперу і алоўкі трымаць у камерах забаронена»



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Падчас працы ў польскіх архівах я знайшоў шэраг дакументаў, звязаных з затрыманнем у 1920–1930-я гады на мяжы з БССР польскіх вайскоўцаў, памежнікаў і выведнікаў. Гэтых людзей звычайна чакаў цяжкі лёс і перспектыва знікнуць у Курапатах ці ГУЛАГу. Аднак бывалі і гісторыі, якія заканчваліся не так трагічна.**

## Няўдалая выведка

У траўні 1929 года на стыку стражніц польскага Корпуса аховы памежжа (КАП) «Дзісна» і «Чарапы» да савецкіх памежнікаў трапіў старшы сяржант 5-га батальёна КАП Людвіг Шміт (нарадзіўся ў 1898 годзе ў Кракаве). Яго паланілі падчас спробы перакідання польскага агента на савецкі бок.

Месца для гэтага было выбранае невыпадкова. Насупраць польскай стражніцы «Дзісна» знаходзілася савецкая памежная застава «Луначарская Слабада», а, у сваю чаргу, суседзямі стражніцы «Чарапы» былі савецкія памежнікі з заставы «Лужкава». На стыку гэтых падраздзяленняў маглі быць «мядзведжыя куты», куды савецкія «зялёныя фуражкі» не заходзілі. Аднак Шміту і агенту польскай «Двуйкі» не пашчасціла. Іх усе ж затрымалі памежнікі 13-га памежнага атрада НКУС БССР з Полацка.

Першапачаткова польскага памежніка прывезлі на памежную камендатуру ў Арэхоўна. Пазней яго накіравалі ў Полацк, а адтуль — у Мінск, дзе на допытах Шміт прызнаўся, што з'яўляецца выведнікам. Бальшавікоў асабліва цікавіла, каго з іх агентаў затрымалі на тэрыторыі паўночных ваяводстваў Другой Рэчы Паспалітай. Бачачы, што сітуацыя «пахне газай» Людвіг Шміт... пагадзіўся на супрацу з савецкай выведкай! «Я пагадзіўся на савецкую прапанову таму, што спадзяваўся, што мяне хутчэй «абмяняюць» і вернуць у Польшчу», — прызнаваўся на допыце польскім контрвыведнікам памежнік ужо пасля таго, як вярнуўся ў Польшчу ў 1932 годзе.

## Вязень «Амерыканкі»

У сталіцы БССР падафіцэра КАП размясцілі ў камеры №5 унутранай турмы ДПУ «Амерыканка». «Падчас майго знаходжання ў Мінску я заўважыў, што вязні, якіх арыштавалі па шпіёнскіх і контррэвалюцыйных справах, у асноўным, сядзяць у адзіночных камерах. У агульных камерах на першым паверсе сядзелі «кулакі», польскія дэзерціры і так званыя «нэпманы». З «адзіночак» не выводзілі на шпацыр. Гуляць хадзяць толькі вязні з агульных камер. Шпацыр працягваецца 30 хвілін на дзень. Крымінальныя злачынцы ў «Амерыканцы» не сядзяць. Наглядчыкі не размаўляюць з вязнямі. Амаль кожны другі дзень у камеры робяць ператрус. Грошы, паперу і алоўкі трымаць у камерах забаронена. Гэтыя рэчы можна мець толькі тады, калі ёсць дазвол следчага. Металёвыя гузікі, гаплікі ад штаноў і падвязкі адбіраюць, каштоўныя рэчы захоўваць не дазваляюць. Кожны вечар адбываецца «паверка», у прыбіральню пускаюць два разы на дзень. Ежу наглядчыкі падаюць праз акенца ў дзвярах. Допыты адбываюцца ў асноўным уначы. У «Амерыканцы» сядзяць тыя, каму пагражае смяротнае пакаранне. Напрыклад, у лютым 1930 года ў адну ноч на расстрэл павезлі 45 кулакоў. На расстрэл забіраюць ноччу. Тым, каго выводзяць на расстрэл, звязваюць рукі. Бяруць звычайна па 6 чалавек. Часта робяць так: забіраюць на расстрэл таго, хто маўчыць на допытах, і прымушаюць глядзець на расстрэл, а потым пачынаюць яго дапытваць. Акрамя гэтага, для тых, хто маўчыць на допытах у «Амерыканцы», ёсць два карцары: адзін унізе, у прыбіральні. Я бачыў аднаго чалавека, які сядзеў там некалькі тыдняў, у кале па калена. Ён страціў зрок. Гэты чалавек раней некалькі разоў перакідваўся ў Польшчу і вяртаўся назад. Галіцца і стрыгчыся не дазваляюць. На допытах чалавеку старающца давесці, што яму пагражае смерць, і толькі ДПУ можа яму дапамагчы. Тым, хто пагаджаецца супрацоўнічаць з савецкай выведкай, змякчаюць рэжым. У ДПУ ў Мінску працуюць габрэйкі-машыністкі, і, як казаў былы царскі палкоўнік Палюбінскі, іх можна падкупіць. [...] Да мяне першапачаткова ставіліся кепска, але пазней, калі я пачаў атрымліваць грошы і пасылкі з Польскага консульства, а потым дамогся сустрэчы з консулам, адносіны змяніліся. Турэмныя ўлады пачалі ставіцца да мяне больш ветліва. Я распавёў консулу, у якіх цяжкіх умовах знаходжуся. Самі вязні, а гэта былі ў асноўным беларусы, палякі і савецкія вайскоўцы, да мяне ставіліся нармальна. Бальшавіцкія жаўнеры часта мяне пыталіся, ці Польшча прыме іх, калі яны збягуць на захад. Сярод вязняў быў чырвонаармеец 13-га памежнага атрада. Яго бацьку арыштавалі і выслалі. Атрымаўшы ліст ад бацькі, ён паказаў яго іншым чырвонаармейцам, за што атрымаў 10 гадоў пазбаўлення волі [...] Сядзеў са мной таксама камандзір палка з Мінска, якога арыштавалі за п'янства. Я з ім увесь час спрачаўся, бо не мог пагадзіцца з тым, што ён рабіў з Чырвонай Арміі ўзор дасканаласці. У гэтых спрэчках мне дапамагаў радавы Раманоўскі з батальёна КАП», — адзначаў Шміт.



Польскі памежнік назірае за лініяй мяжы



Людвіг Шміт



Дакументы Л. Шміта з польскага архіва

## Па этапе

Суд над польскім памежнікам адбыўся 4 верасня 1929 года, аднак і пасля яго Шміт працягваў сядзець у адзіночнай камеры. У гэты час на падафіцэра КАП працягвалі ціснуць, прымушаючы да супрацы з савецкай выведкай. Зачытвалі паказанні агента Мохава, якога затрымалі разам са Шмітам. Цікавым момантам з'яўляецца тое, што затрыманага памежніка прымусілі чытаць раман Бруно Ясеньскага «Палю Парыж», галоўнай ідэяй якога з'яўляецца думка, што капіталістычны свет знутры сам з'ядае сябе і прыводзіць да катастрофы. Да слова, галоўны герой рамана, азлоблены на багатых парыжан, выкрадае прабіркі з чумой і атручвае з іх дапамогай рэзервуары пітной вады, што прыводзіць да эпідэміі ў сталіцы Францыі.

Відавочна, бальшавікі да канца не паверылі Шміту, бо ў ліпені 1930 года польскага памежніка пасадзілі ў эшалон з вязнямі і павезлі ў Архангельск. Так пачаўся найбольш цяжкі этап у жыцці польскага памежніка.

«На ўсю дарогу нам выдалі па тры селядцы, і кожны дзень давалі па кавалку хлеба і вядро гарачай вады на вагон. Камендантам канвою быў афіцэр, у якога было тры шпалы ў пятліцах. Бывалі выпадкі, калі цягнік ішоў чатыры дні, а хлеба давалі на два. Пры гэтым канваіры прадавалі хлеб вязням па 10 рублёў за бохан. [...] Тракт Сыктыфкар–Ухта выкарыстоўваўся, у асноўным для транзіту нафты. Для звычайных жыхароў ён не адыгрываў ніякай ролі», — узгадваў у пратаколе допыту ў 1932 годзе польскі памежнік.

Замежнікаў актыўна выкарыстоўвалі на лесанарыхтоўках і будаўнічых працах. Баржы, цяжкая праца, голад. Урэшце польскі памежнік «даслужыўся» да «старасты лагернага пункта». «Вязні ўкраінцы і беларусы добра ставяцца да вязняў-палякаў. Вераць у тое, што Польшча іх вызваліць. Бываюць выпадкі, калі беларусы крытыкавалі польскае войска, якое ў часы вайны супраць бальшавікоў за рабаванні, якія тыя рабілі, і асабліва атрады генерала Балаховіча. У сваю чаргу, сярод украінцаў Махно лічыцца вялікім героем і абаронцам сялян. Каўказцы выказваюцца пра Польшчу і польскага жаўнера з павагай і па сённяшні з'яўляюцца галоўнымі ворагамі савецкай улады. Выглядае, што амаль уся Расія жадае здацца хоць д'яблу, каб толькі вызваліцца ад савецкай улады. Габрэяў ненавідзяць інтэлігенцыя і сяляне. Таму, каб сёння ў лагеры падняць паўстанне, хопіць і сотні вінтовак з патронамі», — адзначаў польскі памежнік.

## У сталіцы краіны Саветаў

У красавіку 1932 года польскага грамадзяніна перавялі з Усць-Вымскага лагера ў Котлас, а адтуль у Маскву, дзе размясцілі ў агульнай камеры №51, 9 калідора турмы ДПУ «Бутырка». Па прызнанні Шміта, яму часта прыходзілася «падкупаць» крымінальных злачынцаў, каб тыя яго абаранялі. «Тут у камерах сядзела па 200–250 чалавек. Этапы ў «Бутырку» прыбываюць амаль тры разы на тыдзень. Было шмат каўказцаў, вайскоўцаў, прадстаўнікоў беларускай і ўкраінскай інтэлігенцыі», — узгадваў вязень.

У Маскве з памежнікам зноў пачалі актыўна працаваць савецкія выведнікі. У жніўні 1932 года Шміта вярнулі ў Архангельск, на этапны пункт «Бакарыца», адкуль праз 10 дзён няшчаснага перавялі ў архангельскую турму. Урэшце польскага памежніка этапавалі ў «Бутырку», дзе пастрыглі, пагалілі і пасадзілі ў турэмны эшалон, які ішоў з Яраслаўля ў Коласава, на савецка-польскую мяжу. У верасні 1932 года старшага сяржанта КАП Людвіга Шміта перадалі польскім уладам.

У Польшчы ўраджэнца Кракава пачалі дапытваць польскія контрвыведнікі. Дзякуючы пратаколам, якія яны склалі падчас допытаў у Баранавічах у кастрычніку 1932 года, польская выведка, а таксама і грамадства даведаліся не толькі пра асаблівасці дзейнасці АДПУ, але і пра структуру ГУЛАГу і сістэму арганізацыі прымусовай працы ў краіне Саветаў. На жаль, мы не ведаем, што было далей з гэтым чалавекам. На асабовай справе Людвіга Шміта польскі контрвыведнік пазначыў: дзяржаўная лаяльнасць — не ўпэўненая, выкарыстанне для выведвальнай працы — выключанае, нагляд — абавязковы.

# «Любы нармальны чалавек — антыфашыст»

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**«Я яго вельмі люблю. Мы з мужам выхавалі вартага сына, прыстойнага чалавека і грамадзяніна нашай краіны», — гэта словы Раісы Валавік, маці антыфашыста Іллі Валавіка, асуджанага на 10 гадоў зняволення.**

## «Буду змагацца за яго да апошняга»

Іллю Валавіка асудзілі ў сакавіку 2017 года на 10 гадоў узмоцненага рэжыму па абвінавачванні ў хуліганстве і кіраванні незарэгістраванымі арганізацыямі (фанацкімі суполкамі). Справу на хлопца завялі праз два гады пасля сутычкі з футбольнымі фанатамі, у якой Ілля нават не ўдзельнічаў...

Ілля знаходзіцца за кратамі ў Магілёўскай калоніі ўжо два гады. Яго сябры стварылі сайт у падтрымку таварыша — valavik.com, а днямі прэзентавалі ў Мінску фільм «Партрэт беларускага



Раіса Валавік

антыфашыста. Ілля Валавік». Ён паказвае Іллю як асобу, змагара, моцнага духам чалавека, добрага бацьку і сына.

Ілля з дзяцінства быў актыўным дзіцём, таму ў 6 гадоў яго аддалі ў секцыю каратэ-до. Потым было кантактнае каратэ, кікбоксінг...

«У яго было абвостранае пачуццё справядлівасці па жыцці. Ён пастаянна мусіў кагосьці абараняць, — распавядае ў фільме Раіса Валавік. — Гэта чалавек, які не пройдзе міма мамы з вазком, сталага чалавека, суседзяў з торбамі, каб не дапамагчы».

Але калі ішло следства, да спадарыні Раісы даводзілі, што яна не ведае свайго сына. Ды толькі хто, як не маці, ведае сваё дзіця, якое дзялілася з ёй усімі сваімі поспехамі і няўдачамі? Нават з бацькам, ваенным чалавекам, ён не ўсім мог падзяліцца, а перад маці не саромеўся паказаць слёзы.

Але 3 кастрычніка 2017 года сэрца бацькі Іллі, спадара Ігара, спынілася. Маці кажа — ад перажыванняў за сына. Яму было ўсяго 55 гадоў.

Ілля вельмі цяжка перажывае сыход бацькі. Яго не пусцілі на развітанне з ім, і адзінае, што засталося хлопцу, — гэта лісты і паштоўкі, напісаныя татам. Але гэта не ўсе страты, якія зведала сям'я Валавікоў. За час, што хлопец знаходзіцца ў зняволенні, адышлі ў іншы свет і дзве яго цёткі ды любімая бабуля, якая была для яго сапраўдным сябрам.

«Я не хачу казаць, што Ілля быў белы і пухнаты. Але здарылася так, што «спадары харошыя» маю сям'ю знішчылі, і цяпер знішчаюць сям'ю сына», — кажа ў фільме Раіса Валавік.

Але маці спадзяецца, што сітуацыя пераменіцца, і яе сына выпусцяць. Бо без яго нарадзілася і расце яго дачка Глорыя.

«Я падтрымліваю сына ва ўсіх яго справах. Я яго люблю і буду змагацца за яго да апошняга, на колькі хопіць моцы і чалавечага здароўя. Я ганаруся, што ён у нас такім вырас».

Пазней спадарыня Раіса распавяла «Новаму Часу», што фізічнае здароўе сына, якое ўзімку выклікала перасцярогі, палепшала, псіхалагічны стан таксама прыйшоў у норму. У зняволенні Ілля паверыў у Бога. Праўда, да нядаўняга часу яму забаранялі наведваць царкву, але цяпер забароны знятыя.

## Ад перадачы да перадачы

Жонка Алёна ў фільме распавядае, што Ілля спадабаўся ёй, бо не меў шкодных звычак, захапляўся гісторыяй, быў спартсменам.

Але калі здарылася бяда, многія адвярнуліся ад яе мужа, таму што ён нібыта на наступны дзень пасля затрымання пачаў даваць паказанні. Але ж ніхто не ведае, якія паказанні і ў якіх умовах ён даваў, перакананая Алёна. Пазней муж распавёў, што яго прывезлі пад вокны радзільні, дзе Алёна ляжала на захаванні цяжарнасці, і паказалі пастанову аб яе затрыманні: нібыта на яе была заведзеная крымінальная справа за распаўсюд парнаграфіі. Пагражалі, што Алёна будзе нараджаць у турме, калі ён не падпіша, што трэба... Ён мусіў гэта зрабіць, а ўжо на судзе часткова прызнаў віну толькі па эпізодзе з бойкай, бо быў у тым раёне фізічна, але нічога не рабіў. Абвінавачванне ў кіраванні незарэгістраванай арганізацыяй не прызнаў цалкам.




**Аўтары фільму — іх усяго некалькі чалавек — перакананыя, што прысуды антыфашыстам — гэта ўдар сістэмы па пасіянарных людзях, якія былі гатовыя да актыўных дзеянняў**





Так ці інакш, Алёна нарадзіла дачку на волі, цяпер гадуе яе і жыве, як кажа, «ад перадачы да перадачы». Уручыць іх можна падчас спатканняў: два разы на год дазваляюць доўгія — па 2–3 дні, тры разы на год — кароткія. Калі толькі не пазбаўляюць права на спатканне за якую-небудзь «правіну». Алёна пакуль знаходзіцца ў дэкрэце, і таму збіраць наступную перадачу для мужа пачынае амаль адразу пасля спатканняў: калі купляеш усё пакрысе, за некалькі месяцаў, атрымліваецца не так дорага.

## Страх «майдану»

У фільме сябры распавядаюць, што Ілля — лідар па прыродзе, чалавек з характарам, які не адступаўся ад сваіх перакананняў. «Любы нармальны чалавек па сваёй сутнасці — антыфашыст», — зазначаюць яны.

Яны перакананыя, што прысуд Іллю і астатнім антыфашыстам — гэта выключна палітычная справа.

«Не трэба думаць, што мая хата з краю — і вас гэта абміне. Такая сітуацыя можа здарыцца з любым чалавекам у дзеючай дзяржаўнай сістэме», — дадаюць паплечнікі Іллі Валавіка.

Сяргей Гур жыў у адным пад'ездзе з Іллём з пачатку 1990-х гадоў. Ён бачыў, як хлопец рос, гуляў з ім у футбол. У 2009 годзе Сяргей стаў трэнерам Іллі па кікбоксінгу. Ён перакананы, што нехта ў дзяржаўным апараце памыліўся, палічыўшы яго небяспечным для грамадства. А Ілля проста аказаўся ў не той час не ў тым месцы. Бо яго гадаванец ніколі не хуліганіў і пазбягаў канфліктаў, нават калі яго правакавалі. Гэта глупства — даваць чалавеку 10 гадоў за адно разбітае шкло, кошт якога склаў менш за адну базавую і якое было двойчы аплачана, лічыць трэнер.

«Усе крымінальныя справы, якія МУС жадае навесіць на актывістаў, былі закрытыя, але па загадзе ГУБАЗіКа былі адноўленыя, — распавядае адзін з аўтараў фільма пра Іллю Валавіка Вячаслаў Касінераў. — Дзясяткі антыфашыстаў былі затрыманыя, адбыліся дзясяткіператрусаў. Лідары руху прынялі на сябе найбольшы ўдар, і гэта тое, што напаткала Іллю Валавіка. Рэжым дамогся таго, каб знішчыць любую пратэстную актыўнасць. Потым гэта дапоўнілі антыдармаедскія дэкрэты, і масавыя выступленні людзей спарадзілі велізарныя тэрміны для антыфашыстаў — замест пары гадоў ім далі па 10–12. Страх «майдану» прымусіў дзяржаву пайсці на такія жорсткія рэпрэсіўныя меры».

Аўтары фільму — іх усяго некалькі чалавек — перакананыя, што прысуды антыфашыстам — гэта ўдар сістэмы па пасіянарных людзях, якія былі гатовыя да актыўных дзеянняў.

Фільм «Партрэт беларускага антыфашыста. Ілля Валавік» пакажуць у некалькіх беларускіх гарадах, а пасля выкладуць у сеціва. Пакуль жа той мінімум, які можа зрабіць кожны з нас, — пісаць палітвязням лісты, падтрымліваць маральна і матэрыяльна іх і іх сем'і.

Ілля Валавік вельмі радуецца лістам падтрымкі, для яго гэта вельмі важна. Лістуйце яму на адрас: Магілёў, Слаўгарадская шаша 183, ПК-15, атрад 11, 212013. Валавіку Іллю Ігаравічу.

# БагатаДата

**Ці ведаеце вы, чаму Ждановічы маюць такую назву? А калі шакаладка «Спартак» адзначае Дзень народзінаў? Шукайце адказы ў нашым аглядзе.**

### 1 чэрвеня

**1834.** У вёсцы Астраўляны Гарадоцкага раёна на Віцебшчыне нарадзіўся Канстанцін Вераніцын, аўтар сатырычна-гумарыстычнай паэмы «Тарас на Парнасе».

**1954.** У Мінску нарадзіўся акцёр, народны артыст Беларусі Сяргей Журавель. Выконваў ролі ў спектаклях ТЮГу, Маладзёжным і Купалаўскім тэатрах. Быў мастацкім кіраўніком тэатральнага праекта «Нікаля-тэатр». Здымаўся ў фільмах і серыялах.

### 2 чэрвеня

**1964.** У Гомелі нарадзіўся пісьменнік і адзін з самых вядомых філосафаў у сучаснай Беларусі Ігар Бабкоў.

### 3 чэрвеня

**1859.** У Маскве нарадзіўся рэвалюцыянер Пётр Румянцаў, які з восені 1895 года ў Мінску служыў памочнікам кантралёра на Лібава-Роменскай чыгунцы. Вядомы тым, што гэта на яго здымнай кватэры на Захар'еўскай вуліцы ў 1898 годзе адбыўся I з'езд РСДРП (Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі) — пад выглядам святкавання імянінаў жонкі. На 25-ю гадавіну правядзення з'езда гэты дамок зрабілі музеем. Падчас Другой сусветнай вайны ён быў знішчаны, але яго аднавілі, перанёсшы туды, дзе ён стаіць цяпер, — каля праспекта Незалежнасці на беразе Свіслачы. У гонар Румянцава названа вуліца ў сталіцы.

**1969.** Створаны ў складзе Міністэрства лясной гаспадаркі Прыпяцкі дзяржаўны ландшафтна-гідралагічны запаведнік, цяпер — Нацыянальны парк «Прыпяцкі» ў падпарадкаванні Упраўлення справамі кіраўніка дзяржавы.

### 4 чэрвеня

**1924.** У Гомелі заснавана кандытарская фабрыка «Спартак». Спачатку яна называлася «Прасвет».




### 5 чэрвеня

**1854.** У горадзе Новааляксандраўскі (цяпер гэта літоўскі Зарасай), нарадзіўся беларуска-яўрэйскі жывапісец і педагог Юдаль (Іегуда) Пэн. З 1898 года пасяліўся ў Віцебску. Адкрыў там прыватную Школу малявання і жывапісу. За савецкім часам на яе грунце паўстала Віцебская народная мастацкая вучэльня. Вучань Пэна — Марк Шагал. Карціны Пэна ёсць у Нацыянальным мастацкім музеі ў Мінску.

**1919.** У Вільні выйшаў першы нумар часопіса «Беларускае жыццё». Выдаваўся таксама і ў Мінску — лацініцай і кірыліцай. Рэдактарам быў Францішак Аляхновіч.

**1944.** У Талачыне на Віцебшчыне нарадзіўся акцёр і тэатральны рэжысёр Валерый Анісенка. Працаваў галоўным рэжысёрам Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача, Тэатра-студыі кінаакцёра, Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі, Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа.

### 6 чэрвеня

**1864.** У Мінску нарадзіўся лекар, грамадскі дзеяч і дабрачынец Іван Здановіч. Напрыканцы XIX стагоддзя Здановіч на ўласныя грошы абсталяваў дзясятак ложкаў для лячэння хворых парадзіх, а затым перадаў радзільню мінскім уладам. Заснаваў вучэльню для сляпых. Цікавы факт: назва пасёлка Ждановічы каля Мінска паходзіць акурат ад прозвішча гэтага лекара. У 1909 годзе Здановіч купіў лецішча і знайшоў непадалёк мінеральную крыніцу. У хуткім часе лекар стварыў там дом адпачынку, які з часам стаў цяперашнім санаторыем «Крыніца». Пазней Здановіч пабудаваў каля бліжэйшай чыгуначнай лініі платформу і дамогся, каб на ёй спыняўся цягнік Мінск — Вільня. Станцыя пачала называцца «платформай Здановіча». А ўзніклы паблізу пасёлак стаў Здановічамі, пасля Другой сусветнай вайны гэтая назва пераўтварылася ў Ждановічы.

**1874.** У Мінску нарадзіўся расійскі рэвалюцыянер і журналіст Канстанцін Ерамееў. Першы рэдактар савецкага сатырычнага часопіса «Кракадзіл».

### 7 чэрвеня

**1904.** У Пінску нарадзіўся Аляксандр Васільеў, салдат-герой, адзін з нямногіх поўных кавалераў (трох ступеняў) Ордэна Славы падчас Другой сусветнай вайны. Адметна, што ордэн гэты — салдацкі: ім узнагароджвалі радавых і сяржантаў. У Беларусі поўнымі кавалерамі Ордэна Славы сталі 70 чалавек. Напрыклад, Аляксандр Васільеў атрымаў усе свае ордэны ў 1945-м — за праходы па мінных палях, абясшкоджванне і закладанне сотняў мінаў.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**

# Як аўтар «Кацюшы» псаваў нервы беларускім пісьменнікам

Павел КІРЫЛАЎ

**«Бывайце здаровы, жывіце багата» — бадай, самая вядомая беларуская песня. 24 траўня споўнілася 115 гадоў з дня нараджэння аўтара яе словаў — Адама Русака. Між тым, аўтарства яму давялося ў свой час бараніць ад зорнага савецкага паэта-песенніка.**



Адам Русак

Адам Русак не толькі пісаў вершы, але і быў музыкам. Ён скончыў Мінскі музычны тэхнікум і Ленінградскую кансерваторыю. Быў салістам-валтарністам аркестра Ленінградскага Малога опернага тэатра, іграў на скрыпцы. Дарэчы, жонку Адам Русак знайшоў якраз у Санкт-Пецярбургу. У Мінску яна працавала настаўніцай рускай мовы, але вывучыла і беларускую, на якой размаўляў і пісаў муж.

Адам Русак вядомы не толькі радкамі «Бывайце здаровы...», але і шэрагам іншых песень. Напрыклад, «Лясной песняй». Чулі — «Ой, бярозы ды сосны, партызанскія сёстры»?

Словы да «Бывайце здаровы...» напісаў Ісаак Любан. З Адамам Русаком яны вучыліся ў музтэхнікуме і былі сябрамі. У беларускай культуры Ісаак Любан — асоба знаная: працаваў мастацкім кіраўніком Беларускага радыё, старшынёй Саюза кампазітараў Беларусі, мастацкім кіраўніком Ансамблю песні і танца Беларускай філармоніі. Ісаак Любан — аўтар музыкі да вельмі папулярнай падчас Другой сусветнай вайны сярод савецкіх салдат песні «Наш тост» («Вып'ем за радзіму»).

Але «Бывайце здаровы...» была не менш папулярнай на фронце. Асабліва ў перакладзе на рускую мову і з рознымі куплетнымі варыяцыямі. Яе там спяваў Леанід Уцёсаў. Дарэчы, у розныя гады «Бывайце здаровы...» выконвалі таксама Ларыса Александроўская, Іосіф Кабзон, Якаў Навуменка, Надзея Мікуліч, «Песняры», Зміцер Вайцюшкевіч.

Акурат з рускамоўным перакладам «Бывайце здаровы» і звязана прыкрая гісторыя блытаніны пры першых публікацыях тэксту, у выніку чаго аўтарства Адама Русака некалькі гадоў ніяк не пазначалася. Яна лічылася ці то народнай з перакладам на рускую мову Міхаіла Ісакоўскага, ці то ўласна створанай на яго верш. А Ісакоўскі — суперзорны паэт-песеннік у СССР. Мяркуйце самі па пераліку песень на яго вершы: «Кацюша», «Ворагі спалілі родную хату», «Ляцяць пералётныя птушкі», «Адзінокі гармонік», «Пад зоркамі балканскімі», «Якім ты быў, такім ты і застаўся», «Ой, цвіце каліна».

Русаку, які вельмі перажываў, давялося даказваць сваё аўтарства з дапамогай Саюза



Міхаіл Ісакоўскі

пісьменнікаў Беларусі, і ў 1940 годзе Ісакоўскі даслаў яму ліст з прабачэннямі, абяцаннямі болей не падпісвацца пад тэкстам песні сваім імем і заўпэўніваннямі, што не ведаў пра аўтара. Можа, яно і так, але затым у тыя самыя 1940-я працягвалі выходзіць зборнікі песень, дзе аўтарам словаў у рускамоўным варыянце «Бывайце здаровы» быў па-ранейшаму пазначаны Міхаіл Ісакоўскі. Сустракаліся недакладнасці і пазней.

Ісакоўскі, які быў родам са Смаленшчыны, шмат перакладаў творы беларускай літаратуры. З яго перакладчыцкай працай звязана і яшчэ адна непрывабная гісторыя. Калі Ісакоўскі перакладаў верш Якуба Коласа «Полымя», то ў яго атрымаўся данос, дасланы ў Саюз савецкіх пісьменнікаў. А быў гэта небяспечны 1937 год.

У датаванага 1926 годам верша быў падзагаловак «Замест павіншавання з 5-ю гадавіною». І вось што ўпільнаваў Ісакоўскі. «Высветлілася, што «Полымя» — гэта контррэвалюцыйная нацдэмаўская арганізацыя, якая была ў свой час выкрыта. І гэтай арганізацыі Якуб Колас прысвячае вершы, уключаючы іх у кнігу, якая павінна выйсці ў 1937 годзе! — абураецца паэт-песеннік. — У названым вершы Колас параўноўвае «Полымя» з прыветным агеньчыкам сярод цёмнай і страшнай ночы. Маючы на ўвазе гэты сэнс, а таксама той аб'ект, якому прысвечаны верш, нельга зрабіць іншай высновы, акрамя як той, што верш «Полымя» відавочна контррэвалюцыйны: усё, маўляў, навокал цёмна, страшна, змрочна і г.д., і свеціць толькі адзін ветлы агеньчык, і гэты агеньчык — «Полымя» (г.зн. нацдэмаўская ліберальная арганізацыя)».

Пачалося расследаванне, якое паказала, што верш Колас напісаў усё ж да 5-годдзя з дня выхаду першага нумару часопіса «Полымя»...

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навіна». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51,
novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.
ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №830

Падпісана да друку 31.05.2019. 8.00.
Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 6 друк. аркушаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.